# Ад укладніка

Гэты слоўнічак зьмяшчае адпаведнікі некаторым новым штучным словам, створаным беларускай расійскамоўнай інтэлігенцыяй у пачатку 20 ст., а пазьней савецкімі рэфарматарамі, з дапамогаю слоўнікаў:

1. <u>Слоўнік Івана Насовіча, 1870 г.</u> **Перавагі**: найпершы слоўнік беларускае мовы. Зьмяшчае менавіта тую натуральную лексыку, каторай карысталіся сяляне (ня польска- і расійскамоўная інтэлегенцыя), без нейкай рэдакцыі і штучных зьменаў. **Заганы**: зьмяшчае словы з усіх рэгіёнаў Беларусі, асабліва многа з усходу, такім чынам, многа дыялектных, не ўласьцівых літаратурнае мове (сярэднім гаворкам).

2. <u>Слоўнік Байкова-Некрашэвіча, 1925 г.</u> **Перавагі**: стварыўся, хоць і за савецкім часам, але да сталінскае рэформы беларускае мовы 1933 г. Афіцыйны дзяржаўны праект, хоць і скасаваўся вельмі хутка. **Заганы**: стварыўся нахутка інтэлігентамі, чыёй галоўнай мовай была расійская (адзін з іх дык увогуле быў з Расіі), зьмяшчае многа памылак і аўтаматычна скалькаваных словаў з расійскае мовы, што было адзначана іх сучасьнікамі і этымалягічным слоўнікам беларускае мовы. Напрыклад, для слова ‘абвяржэнне’ там пішацца: “калька з рус. опровержение. Уведзена М. Байковым”. Укладнікі слоўніку абсалютна ня ведалі беларускае (аб гэтым сьведчаць такія падставовыя словы як “некалькі” замест “колькі”. Калі хаця б месяц паразмаўляць з сялянамі, можна было б заўважыць, што яны ня кажуць слова “некалькі”). Спапулярызаваў багата калек, каторыя цяпер шырока ўжываюцца і забруджваюць мову (нп, “спаборнічаць”, “атрымліваць/атрымоўваць”, “адсутнічаць”). Ня мае пасьлядоўнасьці ў словаўтварэньні, утварыў хібна багата словаў.

3. <u>Слоўнік Яна Станкевіча, 1989 г.</u> **Перавагі**: створаны доктарам філялёгіі Янам Станкевічам ў эміграцыі ў ЗША, такім чынам, не падпаў пад цэнзуру Савецкага Саюза. Зладжана велізарная праца, амаль для кожнага слова пазначаюцца крыніцы і прыклады ўжытку з колькіх сотняў пісьмовых крыніц і 29 слоўнікаў іншых аўтараў (грунтуецца на вялікай колькасьці слоўнікаў, у тым ліку, на Насовічавым, найпершым слоўніку беларускае мовы, Касьпяровіча, Гарэцкага і гд.). Амаль не зьмяшчае ўласных калек і наватвораў (як Байкова-Некрашэвічавы). Не цураецца натуральных беларускіх словаў, такіх як ’відаць’ (відаць - рас. видимо, смотреть, осознавать, відочны - рас. видимый, невідочны - рас. невидимый), ’дзяржаць’ (адсюль “дзяржава”), ’знаць’ (знаны - рас. известный, зналы - рас. опытный), ’дзела’, ’старана’, ‘агранічваць’’ і шырока іх ужывае (а таксама такія як ’пагода’, ’Луна’ і гд.). Зьмяшчае многа сынонімаў і не зьмяшчае савецкіх калек, а таксама абмінае паланізмы. Карыстае з тарашкевічавага правапісу. **Заганы**: зьмяшчае невялікую колькасьць дыялектных словаў, часам з крыніцаў слова пазначаны толькі Віцебскі краёвы слоўнік (нп. ‘сьнічны’). Зьмяшчае словы з рэгіёнаў па-за Беларусьсю (Смаленшчына, Пскоўшчына, поўдзень Расіі).

4. Этымалягічны слоўнік беларускае мовы, 1978-2017 гг. (А-Т). **Перавагі**: тлумачыць паходжаньне беларускіх словаў і часам зазначае іх скалькаванасьць. **Заганы**: зьмяшчае дыялектныя й словы з гаворак 20 стагодзьдзя (трасянкі, нп. ‘папракаць’), але ўважае іх літаратурнымі, часам спасылаецца толькі на савецкія слоўнікі. Часам аддае перавагу не этымалёгіі, а лексычнаму ўтварэньню словаў, таму можа зьмяшчаць калькі, калі яны ёсьць аднакаранёвымі да іншых беларускіх словаў, нават калі яны ніколі не ўжываліся ў жывое чыстае мове (напрыклад, ‘стораж’ ёсьць аднакаранёвым да ‘старожа’, ’сьцерагчы’, ‘высьцерагаць’, ’асьцярожны’, ’засьцярога’). Калі б ў СССР скалькавалі "выпаўніць" замест ’выканаць’, этымалягічны слоўнік мог не назваць бы гэта калькай, бо слова ўтворана ад існага ’поўны’. Гэтак сама як ў расійскай казаць "выконать" і ўважаць, што гэта правільна, бо ўтворана ад слова "конец". Любіць называць словы “паланізмамі”, бо яны падобныя да польскіх (нават калі ўжываліся ў жывое мове). Напрыклад, "пляткаваць" назваў паланізмам праз тое, што слова ёсьць у польскае. Разам з тым слова "ганьбаваць" (правільна: га̲ньбіць) у польскае мове няма (яго прыдумалі ў СССР), а яно ўтворана роўна так сама ад слова “плёткі”, як і "пляткаваць", "пpаракаваць", "сьвяткаваць", "працаваць", "сябраваць" і гд. ад іншых словаў. Гэта ёсьць звычайнае беларускае ўтварэньне і называць слова "пляткаваць" паланізмам ёсьць тое самае, што называць яго беларусізмам у польскае мове. Часам даводзіць беларускасьць словаў (нп. мішэнь) іх наяўнасьцю ў стараpускае (не старабеларускае) мове. Ёсьць зьвязана з тым, што гістарычны слоўнік беларускае мовы (слоўнік старабеларускае мовы) зьявіўся пазьней і ўкладнікі слоўніку выкарыстоўвалі стараpускую мову замест яе. Слова "мішэнь", напрыклад, не было ў старабеларускае, але было ў старарускае (запазычылася там з стараўйгурскае), але слоўнік не назваў яго запазычаньнем з расійскае (чым яно запраўды ёсьць). У слоўніку бракуе апошніх літараў альфабэту.

На жаль, жадны слоўнік не стварыўся (і ніколі не створыцца, гэта ўжо будзе беларускамоўны “другое хвалі”) натуральным беларускамоўным чалавекам. Іван Насовіч, хоць і запісваў жывую мову сялян, сам размаўляў па-расійску, таму часам не зусім дакладна тлумачыў словы ў сваім слоўніку. Ян Станкевіч, хоць і лінгвіст, усьвядоміў сваю нацыянальнасьць у сталым веку. Пра Байкова і Некрашэвіча й казаць ня трэба (відаць з слоўніка). Гэта тлумачыцца тым, што мовай інтэлігенцыі ў тыя часы была расійская. І больш такі слоўнік, імаверна, ніколі не створыцца, бо ўжо не засталося людзей, што натуральна ведаюць беларускую, а не вывучылі яе. Таму дзеля адраджэньня мовы важна зважаць на слоўнікі натуральнае мовы, як, напрыклад, Насовіча і Станкевіча, а не працягваць калькаваць і без таго закалькаваную мову.

Чаму слоўнічак так называецца? Бо я не прыдумаў лепшае назвы. “Наркамаўскі”, бо ў левым слупку падаюцца словы, што ёсьць у наркамаўцы (значыцца, у слоўніках афіцыйнае нормы), але яны штучныя і не ўжываліся ў

жывое мове, а “беларускі”, бо справа падаюцца пераклады, што ёсьць у беларускае мове (нават калі іх няма ў кожным-кожным слоўніку).

Скарачэньні:

ін - слоўнік Івана Насовіча, 1870 г.
бн - слоўнік Байкова-Некрашэвіча, 1925 г. (выданьне 1928 г.)
яс - слоўнік Яна Станкевіча (другая спасылка), 1989 г.
эс - этымалагічны слоўнік беларускай мовы (А-Т), 1978-2017 гг.

Пазначаньні:

-слоўнік - слова спраўджана і значаньне ня ёсьць у слоўніку, альбо (у разе *эс*) ёсьць і пазначана там калькай ці запазычаньнем
слоўнік - слова спраўджана і значаньне ёсьць у слоўніку
?слоўнік - слова ёсьць у слоўніку, але незразумела, ці мае яно гэтае значэньне

кніж., неал. - кніжнае слова, неалагізм 20 ст.
перан. зн. - пераноснае значаньне
гутар. - гутарковае слова
трас., прост. - трасянка (часта расійскія гутарковыя словы)
дыял. - дыялектнае слова
ц.-с. - царкоўнаславянскае слова
саст. - састарэлае слова, часьцей з слоўніка Насовіча
старабел. - старабеларускае слова
укр. - украінізм
пол. - паланізм
аўт. - аўтаматычна скалькаваныя словы з расійскае мовы, што, хоць і ўтворныя правільна і ад існых беларускіх словаў, але іх не было ў жывое мове паводле несавецкіх слоўнікаў
словаўтв. - тое самае, што й аўт., але парушаюць беларускае словаўтварэньне
суч. - сучасная калька
нац. - калькаваньне націскаў

Гэты слоўнічак ня мае свайго меркаваньня (у вызначэньні скалькаванасьці словаў). Ён грунтуецца на іншых слоўніках, фактах і заўвагах (калі ёсьць уласнае меркаваньне, гэта пазначаецца). Калі вы ня згодныя з чымсьці, значыць вы ня згодныя з гэтымі слоўнікамі і крыніцамі, на каторых грунтуецца слоўнічак. Слоўнічак мае на мэце толькі паказаць, як штучна зьмянілася (праз наўпростае калькаваньне з расійскае) мова за апошнія 100-150 гадоў і ня мае на мэце змусіць вас зьмяняць нешта ў сваім мавеньні. Дасягае ён гэтага праз пазначаньне наяўнасьці словаў у слупку слоўнікаў і пакідае на чытачоў самім зрабіць свае ўласныя высновы.

Беларуская мова была доўгі час забаронена ў друку, а адукацыя была толькі расійскамоўная. На хвалі нацыянальнага адраджэньня лічныя прадстаўнікі (напрыклад, Вацлаў Ластоўскі, Мікола Байкоў, Сьцяпан Некрашэвіч, Аркадзь Смоліч, Максым Гарэцкі і гд.) беларускае інтэлігенцыі (каторыя мелі расійскую сваёй галоўнай мовай) пачалі беларускамоўны друк па ягоным дазволеньні ў 1905 г., калькуючы многа чаго з расійскае мовы. Прыкладамі такіх словаў ёсьць “хапаць” (быць дастатковым), “недахват” (і “недахоп”), “прамы”, якія не ўжываліся ў жывое мове і былі скалькаваныя інтэлігентамі з расійскае мовы (“хватать”, “недохват”, “прямой”). Гэта пацьвярджаецца й Віцебскім Краёвым Слоўнікам Касьпяровіча, 1927 г. (каторы зьмяшчае мову сялян Віцебшчыны), у каторым гэтых калек няма і замест іх ёсьць беларускія “ставаць” і “просты” (як і ў слоўніку Насовіча). Гэтым тлумачыцца значная розьніца паміж лексыкай слоўніка Насовіча і, напрыклад, Байкова-Некрашэвіча, бо першы зьмяшчае мову беларускамоўных сялян, а другі – пераважна расійскамоўнае інтэлігенцыі, што вучылася беларускае, як замежнае мове. Вось, што пісалі самыя прадстаўнікі інтэлігенцыі аб стане беларускае мовы на пачатку 20 стагодзьдзя:

“*Азнакаю беларуса служыць яго мова. Праўда, ёсьць шмат такіх беларусоў, што ня хочуць, а то і ня ўмеюць гукаць па-беларуску. Гэта іхнае няшчасьце. Ёсьць паміж беларусаў і зусім немыя людзі*”. Аркадзь Смоліч, 1914 г.

“*Выпушчаючы ў сьвет гэты слоўнік я цікаваў галоўным чынам практычную мэту і даў «Расійска-Крыўскі» слоўнік дзеля таго, што, мне думаецца, карыстацца ім будуць больш тыя, якія добра ведаюць мову расійскую, а слаба сваю – крыўскую, бо кожды інтэлігент вучыўся расійскай мовы ў школах, а сваю найчасьцей знае толькі з наслыху*”, Вацлаў Ластоўскі, 1924 г.

Большасьць калек сталася звыклай для слыху, і не заўсёды можна пачуць калькаванасьць слова, не паглядзеўшы ў старых (або некаторых добрых сучасных, як Станкевічавы) слоўніках. Для прыкладу можаце паглядзець на такія відавочныя калькаваньні:

нехватка - няхапка (нястача, нястаньне, нястатак)
сделка - зробка (умова, угода, пагадненьне)
подвиг - порух (вычын, учынак, дасягненьне)
сподвигнуть - спарушыць (падштурхнуць)
здравствуйте - здароўце (добры дзень)
проделки - прарoбкі (праборкі, выбрыкі)
превосходный - перавышальны/пераўзыходны (цудоўны, надзвычайны)
выполнить - выпаўніць (выканаць)
перевести (слова) - перавесьці (перакласьці)

Калі б іх скалькавалі ў СССР, то цяпер бы яны таксама ні для кога не былі б калькамі. Гэтак сама й калькаванасьць тых словаў, што пазначаныя ў слоўнічку, не для ўсіх ёсьць відавочная, бо гэтыя словы ўжываюцца паўсюль і ўжо доўгі час, але гэта ня робіць іх меншымі калькамі, чымся тыя, што мы прыдумалі й памянілі вышэй.

Таксама некаторыя словы ў расійскае мове могуць мець колькі значаньняў, а ў беларускае кожнаму з іх адпавядае іншае слова, напрыклад:

сплошной кусок - цяглы/суцэльны кавалак; сплошная вода - адна вада
варить - варыць; переваривать - страўляць
стирать карандаш - сьціраць аловак; стирать (вещи) - праць
мазать - мазаць, шмараваць; вымазать - запэцкаць
взрослый - дарослы; взрослеть - сталець
молоть - малоць; молоть языком - плявузгаць
нести - несьці; нести чушь - верзьці лухту
везти - везьці; повезло - пашанцавала, пашчасьціла
нежный человек - пяшчотны (бо "песьціць"); нежная (чувствительная) рука - мяккая, чуйная, адчувальная
жить - жыць; заживать (рана) - гаіцца; жыць (мець мяшканьне, рас. проживать) - мяшкаць
к сожалению - на жаль; жаль (прыслоўе) - шкада
смутить (пристыдить) - асароміць
смутить (озадачить) - зьбянтэжыць
честный (совестный) - сумленны ((па)чэсны = годны - достойный, заслуживающий, заслуженный, честной, чэсьць = годнасьць, гонар, рас. достоинство)
честно (откровенно) - шчыра
честно (справедливо) - справядліва
ругаться с кем-то - сварыцца
ругаться на что-то, кого-то - лаяцца
Щелкать пальцами - пстрыкаць
Щелкать семечки - лускаць (луска - рас. чешуя, шелуха)
Достоин уважения - годны павагі
Достоин внимания - варты ўвагі
Неловко (неумело) - няспрытна, нязграбна, няўдала, няўмела
Неловко (неудобно эмоционально) - няёмка
Неудобно (некофмортно для работы руками, физически) - нязручна
Неудобно (неловко эмоционально) - няёмка
Неудобно (в кресле, диване и тд, неуютно) - няўтульна
Сложность (в игре) - цяжкасьць (difficulty)
Сложность (темы) - складанасьць (complexity)

Але некаторыя слоўнікі могуць калькаваць такога кшталту словы (вышэй ёсьць папросту прыдуманыя прыклады), даводзячы гэта тым, што ў беларускае яны таксама ёсьць у нейкае форме.

Зважце на такія сучасныя гутарковыя скалькаваньні:

застолбить - заслупіць (заняць, замацаваць)
скачивать - пампаваць (сьцягаць)
приложение - дадатак (праґрама, аплікацыя)
прикол - прышпіл (жарт, сьцёб, досьціп, пацеха)
офонареть - аліхтарэць (ачмурэць)

І на такія спробы "замяніць" адну кальку на іншую: прадузяты - упярэджаны, адсутнасць - немень. Гэта не разьвязвае праблему калек, а толькі ўскладняе яе. Калі хтосьці запраўды думае, што раней людзі ня мелі нейкіх словаў для выражэньня сваіх думак і на месцы такіх словаў, што цяпер замяняюць калькамі, папросту маўчалі як рыбы праз няменьне сваіх уласных словаў, то яны памыляюцца. Разумейце, што раней людзі цалкам натуральна размаўлялі па-беларуску і мелі багатую мову без калькаваньня і стварэньня штучных словаў. Таму словы трэба браць менавіта з натуральнае лексыкі, нашто нам ствараць новую штучную мову і забіваць запраўдную і натуральную.

Таксама адныя самыя словы могуць мець розныя значаньні ў расійскае й беларускае:

заперці = засунуць, зацягнуць (Куды запёр (засунуў) рэч? Куды прэш (сунешся)?)
рас. запереть - зачыніць, замкнуць (нельга сказаць "заперці хату")

Некаторыя слоўнікі могуць яднаць усе гэтыя значаньні з абедзьвюх моваў.

Некаторыя людзі любяць называць словы "паланізамамі" папросту праз тое, што слова ёсьць у польскае, або нагадвае нейкае польскае слова, нават калі яно ўжываецца ўжо 500-700 гадоў з часоў ВКЛ (ёсьць у слоўніку старабеларускае мовы) і да сучаснасьці (ёсьць у слоўніку Насовіча, Станкевіча і іншых). Іх лёгіка такая: калі ёсьць у польскае і беларускае, значыць паланізм, але калі ёсьць у расійскае і беларускае, тады гэта нармальнае беларускае слова, нават калі яно ніколі не ўжывалася ў чыстае жывое мове (не ў трасянцы, або афіцыйнай кніжнай) і было ўпершыню дададзена ў слоўнікі ў СССР. У расійскае мове ёсьць багата падобных прыкладаў: "требовать", але "трэба" няма, "переполох", але "палохаць" няма, "рациональный", але "рацыя" (праўда) няма, "дармоед", але "дарма" няма, "недоразумение", але

“даразумявацца” няма, “обрушить”, “нарушить” ёсьць, але “рух” няма, “сказаць, указать” ёсьць, але “казаць” няма, “важный”, “уважать”, “отважный” ёсьць, але “вага”, “важыць” няма, “вельможа”, але “вельмі” няма але ж іх ніхто не называе беларусізмамі. Гэтак сама як у беларускае ёсьць “доўг” (віннасьць, пазыка, абавязак), але “доўжэн” (вінен) няма. Ці, напрыклад, у польскае мове ёсьць “dzialac”, у расійскае “делать”, а ў беларускае толькі “рабіць” (і “дзеяць”). Ці па-польску “trudnie”, па-расійску “трудно”, а па-беларуску “цяжка”, па-польску ёсьць wredny, па-расійску вредный, па-беларуску няма (было ў старабеларускае, а ў 19 ст. водле слоўніка Насовіча ўжо няма), па-расійску “хранить”, па-польску “chronic”, па-беларуску “хаваць”. Мовы ўтвараліся натуральным чынам, таму лексыка можа быць зусім рознай, некаторыя словы распаўсюдзіліся з аднымі каранямі, іншыя з іншымі. А што ўвогуле ёсьць “паланізм”? Слова, каторае ёсьць у польскае? Ну то 70% беларускіх словаў ёсьць “паланізмы”. Ці, можа, “слова, якое не ўжывалася ў жывое мове, а было штучна скапіявана з польскае мовы”? У такім разе тыя, хто называе беларускія словы “паланізмамі” ніколі не зазіралі ў слоўнікі жывое мовы (напрыклад, Насовічавы зьмяшчае мову сялян 1860-ых), бо гэтыя людзі называюць словы “гарбата”, “менавіта” - “паланізмамі”, а таксама часта ўпарта не заўважаюць калек з расійскае (маюць стороннасьць да розных моваў). Гэта робіць і ў адваротны бок, напрыклад, некаторыя могуць называць беларускія словы “расіізмамі”, напрыклад, “пагода”, “відзець” (відаць) і гд., але яны шырока ўжываліся ў жывое мове (не ў трасянцы). Для гэтага трэба глядзець у слоўнікі жывое мовы, а не гадаць, як мы й робім у гэтым слоўнічку. Багата людзей падаюць свае ўласныя думкі, угрунтаваныя на сваіх пачуцьцях, як факты.

Беларуская мова была так зьменена, разам з правапісам і словаўтварэньнем, што гэта даходзіць да сьмешнага. Напрыклад, слова ’футарал’ (скрыня, похва, тэка) запазычылася зь нямецкае (futteral) і потым, запазычыўшыся зь беларускае ў расійскую (ну, альбо тэлепартавалася зь Нямеччыны ў Расію, мінуючы Беларусь), адмянілася там на “футляр”, а потым зноў штучна скапіявалася камуністамі назад у беларускую ў расійскае адмене. Тое самае адбылася з словам “артыкль” (артыкул, анг. article) і “штат” (стан, анг. state). Слова “маґазын” (ням. magasin) азначала “склад, рэзэрвуар, сьвіран для збожжа”, таксама запазычылася расійскаю моваю й адмяніла там значаньне на “крама” (а таксама напісаньне на “магазин”) і ў такім выглядзе скапіявалася камуністамі назад ў беларускую мову. Sense (сэнс) і sensation (сэнсацыя) ёсьць аднакаранёвыя словы, але ў афіцыйнае норме яны пішуцца па-рознаму: сэнс і с<u>е</u>нсацыя, бо так пішацца па-расійску. Ці напрыклад, "ласцік" (лац. gummi elasticus - эластычная гума) у аф. норме пішацца з "ц", а "эластычны", аднакаранёвае слова, з "т".

Таксама некаторыя словы нетыпова ўтвараюць незакончанае трываньне: [падтрымліваць] замест “падтрымваць”. Каб зразумець наколькі гэта хібна, можна параўнаць з іншымі словамі: наменьваць - [наменьліваць],

паказваць - [паказьліваць]. Канчатак “ліваць” будзе толькі тады, калі незакончанае трываньне ўтвараецца ад зак. з націскам на корані і пры зьмене націска нез. трываньня з кораня на канчатак зьяўляецца (паўстае) літара "л": прывАбіць (прывабляць) - прываблiваць, прыцЯміць (прыцямляць) - прыцямліваць, абумОвіць (абумаўляць) - абумоўліваць. Калі націск не на корані (ці літара “л” не зьяўляецца), то правіла ня дзеіць: захапІць - захапляць, стрымАць - стрымваць, паказАць - паказваць, вЫмавіць - вымаўляць, загАніць (заганяць, няможна ўтварыць “заганьляць”) - заганьваць. Калі б, напрыклад, націскі былі б іншымі (і была бы літара “л” пры зьмене націску на канчатак у нез. трываньня), то й утварэньне было б іншым: атрЫміць (атрымляць) - атрымліваць, пакАзіць (паказьляць) - паказьліваць і гд. Некаторыя (напрыклад, Пацюпа Ю. В), разумеючы хібнасьць такога ўтварэньня, йдуць яшчэ далей і карыстаюць з іншага хібнага ўтварэньня: [падтрымоўваць]. Калькі ўвёў…, хто бы сумняваўся, слоўнік Байкова-Некрашэвіча. Памятайма, што беларускі правапіс, хоць і фанэтычны, але словаўтварэньне залежыць ад марфалёгіі. Успрымайце марфалагічны правапіс як “канструктар” для фармаваньня словаў перад тым, як “афанэтызаваць” іх напісаньне. Каб утварыць незакончанае трываньне ад закончанага, трэба дадаць марфэму “ыв” перад канчаткам “аць”:

подтрым+ать -> подтрым+ыв+ать (падтрымваць, “ы” ня чуецца, таму “ыв” пераходзіць у “в”)
хібна: подрым+ов+ать -> подтрым+ов+ыв+ать (падтрымоўваць)
накір+ов+ать -> накір+ов+ыв+ать (накіроўваць, бо “овыв” пераходзіць у “оўв”)

Калі закончанае трываньне было бы “падтрымАВаць”, то незакончанае было б “падтрымоўваць”, гэтак сама як, калі закончанае трываньне было бы “накіруць”, то закончанае было “накірваць”. Калі “падтрымоўваць” для вас не гучыць хібна (бо мозг прызвычаіўся чуць), то паглядзіце на слова “паказоўваць” замест “паказваць”.

Яшчэ раз абагульнім усе гэтыя ўтварэньні:

ПадтрымАць, паказАць - падтрымваць, паказваць (правільна)
ПадтрЫміць, пакАзіць - падтрымліваць, паказьліваць (хібны націск)
ПадтрымавАць, паказавАць - падтрымоўваць, паказоўваць (хібная форма зак. трываньня)

У слоўніку Байкова-Некрашэвіча ёсьць абедзьве хібныя формы слова “атрымваць”, а правільнае няма.

ПрывабІць - прывабваць (хібны націск)
ПрывАбіць (прывабляць) - прываблiваць (правільна)

ПрывабавАць - прывабоўваць (хібная форма зак. трываньня)

ЗагамАць - загамваць (хібная форма зак. трываньня)
ЗагАміць - загамліваць (хібная форма зак. трываньня)
ЗагамавАць - загамоўваць (правільна)

Утварэньне словаў залежыць ад канчаткаў, націскаў, формы нез. тр. з націскам на канчатак. Тыпаў утварэньня вельмі многа, таму калі трэба ўтварыць штосьці, трэба глядзець на іншыя словы з падобным выглядам.

Ну й наадварот у залежнасьці ад націску незаконачанага трываньня вы можаце даразумецца аб націску закончанага: спасабляць - спасабіць, калі бы было "спасобліваць", то закончананае было бы "спасобіць".

Багата словаў утвораныя хібна, але іх усе ужываюць і ніхто гэтага не заўважае, напрыклад, слова “адсутнічаць”. Мала таго, што яно ўтворана ад няіснага слова “адсутнасць” (што паходзіць ад штучнага “сутнасць”, каторае ёсьць калькай ад рас. “суть” і аднакаранёвым да рас. “существовать” - бел. “існаваць”), каторае стварылі Байкоў-Некрашэвіч, але й шчэ хібна, бо слова “адсутнік”, ад якога яно ўтворана, не існуе. Некаторыя “экспэрты” (напрыклад, Пацюпа Ю. В.) намагаюцца замяніць калькі з расійскае мовы і замяняюць іх на іншыя калькі з хібным словаўтварэньнем: падпісчык - падпісаньнік, выкладчык - выкладаньнік (правільна: падпіснік, выкладнік). Робяць яны гэта з тае прычыны, што імкнуцца паўтарыць словаўтварэньне такіх расійскіх словаў, як “священник”, “избранник”, але тыя маюць такія канчаткі, бо ёсьць ўтвораныя ад словаў “священный”, “избранный”, што маюць суфіксы “енн”/”анн”, а ў словах “падпісацца” і “выкладаць” іх няма (а яшчэ паўтараюць іншых такіх самых “экспэртаў”, як М. Гарэцкі). Гэта сьведчыць аб тым, што яны нічога ня ведаюць аб словаўтварэньні і думаюць па-расійску. Гэта ёсьць роўна тая самая прычына, зь якой Байковым-Некрашэвічам было ўтворана слова “адсутнічаць”, бо яны намагаліся паўтарыць словаўтварэньне такіх расійскіх словаў, як “вредничать", “дармоедничать” і гд, але гэта ёсьць асаблівасьці расійскае мовы і ў беларускае мове словы ўтвараюцца інакш: сваволя - сваволіць (рас. своевольничать”), бязьдзейнасьць - бязьдзеяць (не “бяздзейнічаць”), дакор - дакараць, драпежнік - драпежнічаць і гд. Як бачым, можна дадаць “аць”, але “нічаць” (нік, аць) - не. Яшчэ адна калька ад Байкова-Некрашэвіча: атрымоўваць (тое самае, што казаць “паказоўваць”), якая дасюль ёсьць у слоўніках. Калі казаць “атрымоўваць”, тады й правільна “атрымавала” (як адпрацоўваць - адпрацавала), а не “атрымала”, бо марфема [ов] (ав, оў) нікуды не зьнікае. І, вядома ж, такі экспэрт, як Пацюпа, ухваляе такую кальку і нават раіць выкарыстоўваць яе замест іншае калькі “атрымліваць”. Вось такія людзі ствараюць беларускую мову.

Яшчэ адна праблема - націскі. Паглядзім на такія прыклады: баязьлІвы (хоць і баЯцца), крыўдлІвы (хоць і крЫўдзіцца), вечарОвы (хоць і вЕчар), чаму тады урАдавы, калі мае быць (і ёсьць водле слоўніка Насовіча, што значыць, што сяляне казалі з націскам на “о”) урадОвы. Памылку пашырыў слоўнік Байкова-Некрашэвіча, што мае 2 націскі дазволенымі. А іншыя сьлепа скапіявалі, ня думаючы аб словаўтварэньні і націсках, не пастараўшыся унармаваць правілы.

У націсках прыметнікаў таксама ёсьць памылкі ў сучаснае норме. “нЕмы” (так казалі сяляне і так пададзена ў дасавецкіх слоўніках) замянілі на “нямЫ”, бо так па-расійску (немой), але там заўсёды націск ставіцца на “о”, калі канчатак “ой” (ручной, большой, озорной, удалОй), а калі канчатак “ый”, то націску на ім няма (мокрый, трудный, ушлый, пряный, удАлый), гэта іхняя асаблівасьць. Дык чаму ж вам канчатак “ы” больш напамінае “ой”, чым “ый”, калі вы ўжо й калькуеце ўсё адтуль. Мы ж кажам “іншы”, а не “іншЫ”, як у расійскае “инОй”. У беларускае мове няма канчаткаў “ой”, таму й націскі ніколі на ім ня будуць стаяць. У расійскае ёсьць 2 словы "м<u>а</u>лый" і "мал<u>о</u>й" і як бачым нават у іх з канчаткамі “ый” націск ставіцца не на ім. На беларускую калі скалкьаваць націскі, то будуць і "мАлы", і "малЫ" (правільна толькі "мАлы", а ў значаньні назова будзе "малец" ці "хлапчук", а не прыметнік). “СтАры” і “бУйны” чамусьці замянілі на памылковыя “старЫ” і “буйнЫ”. <u>У прыметнікаў з 2 складамі націск заўсёды ёсьць на першым складзе.</u> Тое самае датыча й прыметнікаў, што ўтвараюцца ад назоўнікаў - яны захоўваюць націск, а ў расійскае - не, бо яны маюць канчатак "ой", які заўсёды пад націскам: вобласьць - вобласны (областнОЙ). Таму й кажуць "урАдны", а не "урадны" - бо ў расійскае няма слова "урадной", інакш бы так скапіявалася ў беларускую, але "пашанцавала". У слова “воблачны” націск правільны, але толькі праз тое, што ў расійскае мове ў гэтага слова канчатак не “ой” (які пад націскам заўсёды), а “ый”. У сучаснае норме датрымваюцца "правіла": стаў націскі так, як па-расійску (хоць там зусім іншы канчатак). Казаць з націскам на канчатак “ы” ёсьць тым самым, што казаць “складавЫ”, а не “складовы” (рас. составной), ці стылявы, а не стылёвы. Уявіце па-расійску словы “кривый, малый, удалый, озорный”. Куды вы паставілі націск? Рацыя, па-расійску націск на канчатак “ый” ня ставіцца, а чаму па-беларуску ставіце на канчатак, калі мы ня маем канчаткаў “ой”, на які ў расійскае ставіцца націск?

У слова “прыгажосьць” ёсьць таксама нетыповы націск, бо звычайна, калі слова ўтвараецца ад прыметніка, яно захоўвае націск: бадзёры - бадзёрасьць, вялікі - вялікасьць, таму лагічней было бы “прыгожасьць” (так і ёсьць у слоўніку Байк.-Нек., але, відаць, адмянілі націск, каб напамінаў націск у слове “красота”). Націск на апошні склад адбываецца у словах з такім утварэньнем: прыгаство, хараство.

Націск у “верзьці” (напрыклад, лухту) адмянілі на “вярзці”, бо так больш нагадвае расійскае “нести” (чушь). Але ж у такіх словах націск не стаіць на канчатку: плесьці, несьці, берці (брацЬ), дзерці (драць).

У словах “знахадзіць”, “прыхадзіць”, “вынахадзіць”, “пахадзіць” (і гд.) беспрычынна адмянілі націскі на “знаходзіць”, “прыходзіць”, “вынаходзіць”, “паходзіць”. Тое самае і з “звадзіць”, “перавадзіць”, “навадзіць”, “вазіць”, “переваз іць”, “адвазіць” і гд. “Што рабіць” - вадзіць, таму й “перавадзіць”. Весьці - перавесьці. У некаторых словаў прыстаўка не мяняе трываньня: вазіць - перавазіць, а таксама націск у такіх словаў захоўваецца.

У сучасных слоўніках: адзіночны лік - навіна, множны - навіны. Націск ня мусіць залежыць ад ліку. Таму ў множным ліку павінна быць “навіны” (а прыметнік - навінны, як і гародніна - гароднінны).

У націсках спражэньняў дзеясловаў унармаванасьці няма. Кожнае слова мае свой выпадковы націск і ў формах гэтага слова націск мяняецца таксама выпадкова, не водле нейкага агульнага правіла. У польскае мове націскі ўнармаваныя, таму й спражэньне дзеяслова заўсёды аднолькавае.

Яшчэ адна распаўсюджаная памылка: калі бракавАць - бракУе, малявАць - малЮе, выпадАць - выпадАе, тады чаму існавАць - існуЕ, калі мае быць існУе?

Правільна: штурхаць - заштурхаць (заштурхнуць) - заштурхваць. Але ў афіцыйнае норме націскі неўнармаваныя і існуюць такія формы: штурхаць, заштурхнуць, заштурхоўваць (усе - хібныя). “Заштурхнуць” было бы правільным, калі бы быў націск “штурхаць” (як піхаць - запіхнуць), “заштурхоўваць” было бы правільным калі бы правільна было “заштурхаваць” (як нашпігаваць - нашпігоўваць). Прычына памылкі ёсьць тая, што ў дыялектах існавалі 2 варыянты, але як у літаратурную дадалі варыянт штурхаць, то й утвараць мусяць “заштурхаць”, а калі б дадалі “штурхаць”, то было бы правільна “штурхануць”, “заштурхнуць”.

ШтУрхаць - штУрхнуць, заштУрхаць, заштУрхнуць
ШтурхАць - штурханУць, заштурхнУць, заштурхАць

Няма ўнармаванасьці ва ўтварэньнях незакончаных трываньняў. Ад "забясьпечыць" утвараюць "забясьпечваць", а ад "замерыць" — "замяраць", хоць абедзьве формы зак. трываньня маюць націск на корані й аднолькавы канчатак. Лёгіка тут  ёсьць прыблізна такая: кажы так, як ёсьць па-расійску (обеспечивать, замерять). Але ж калі ўнармаваць, то будзе альбо "забесьпячаць", "замяраць", “накляяць”, “прыкмячаць”, “запрыкмячаць” (без захаваньня націску) альбо "забясьпечваць", "замерваць", “наклейваць”,

“прыкмечваць”, “запрыкмечваць” (з захаваньнем націску). Абодва ўтварэньні былі ў дыялектах, таму абодва можна дазволіць у літаратурнае мове. Адна толькі праблема ў сучаснае норме тут ёсьць, што адныя словы часьцей утвараюць з адным утварэньнем, іншыя - з іншым (калькуюць з расійскае), замест пазначаньня абедзьвюх формаў. Тое самае датычыць і такога ўтварэньня: атаясамліваць - атаясамляць, падкрэсьліваць - падкрасьляць, прываблiваць - прывабляць, прыцямліваць - прыцямляць і гд. Я асабіста аддаю перавагу ўтварэньню з захаваньнем націску, бо утварэньне з націскам на канчатку (напрыклад, замерыць - "замяраць" замест "замерваць") ужо выкарыстоўваецца з дзеясловамі, што маюць націск на канчатку ў зак. трываньні (апрануць - апранаць). Таму, калі захоўваць націск, можна будзе бачачы нез. трываньне адразу даразумецца аб націску ў закончаным. Напрыклад, чалавек, які кепска ведае беларускую можа падумаць, што ад слова "замяраць" закончанае трываньне будзе "замярыць", а ад "замерваць", ведаючы аб захоўваньні націскаў, правільна ўтворыць "замерыць". Таму форму з захаваным націскам можна зрабіць літаратурнай, а без - дазволенай, але не рэкамэндаванай. Пры захоўваньні націскаў ад такога слова, як "падвучыць" утворыцца не "падвучваць", а "падвучаць" (так і падаецца ў слоўніку Насовіча). Калі слова ў закончаным трываньні мае націск на прыстаўцы (і да таго ж мяняецца словаўтварэньне), то ў незакончаным я раджу, каб ён і заставаўся не на корані: выкінуць - выкідаць (але вылізаць - вылізваць, бо словаўтварэньне не зьмянілася). Бо ад "выкідваць" можна хібна ўтварыць зак. трываньне "выкІдаць". Паглядзім на такія словы як "пасабляць", "спасабляць", "заспасобліваць". Дзякі захоўваньню націскаў, чалавек даразумеецца, што ў закончаным трываньні яны будуць "пасабіць", "спасабіць" і "заспасобіць". Калі зрабіць націскі занадта вольнымі, то чалавек , бачачы рад "пасабляць", "спасабляць", "заспасабляць" не зразумее, што апошняе мае чытацца з іншым націскам у закончаным трываньні. Калі захоўваць націскі, то чалавек, які убачыць "зганьбліваць", зразумее, што "зганьбіць" мае націск на першы склад, а з "зганьбляць" можа падумаць, што закончанае трываньне "зганьбіць" з націскам на 2 склад.

Часам пры захаваньні націскаў нез. трываньні супадаюць з закончанымі: што зрабіць - сказаць, што рабіць - сказаць. І гэта ёсьць абсталютна нармальна, так ёсьць у старых слоўніках і так казалі раней. Таму рас. "ты говоришь" у старых тэкстах можна пабачыць у выглядзе "ты сказуеш" (ад нез. "сказаць"), а не "ты сказваеш" (ад нез. "сказваць"). У такіх словах літару "в" дадаюць (і мяняюць націск) для таго, каб зак. і нез. трываньні розьніліся, але гэта ня ёсьць абавязкова.

У націсках дзеепрыметнікаў унармаванасьці няма таксама. АбгрунтавАць - абгрунтавАны, абрЭзаць - абрЭзаны, тут націскі захоўваюцца. А чаму ж тады тут не: напісАць - напІсаны, сказАць - скАзаны. Адказ: бо такія націскі ў расійскае мове і іх скапіявалі стваральнікі слоўнікаў. Як бы выглядала слова “абгрутавАны” ў расійскае мове, калі бы было? “ОбгрунтОванный”. І

менавіта так бы яго скапіявалі стваральнікі слоўнікаў: абгрунтОваны. Але “пашанцавала”, што яго няма там xD. Націскі дзеепрыметнікаў супадаюць з імі ў дзеясловаў у закончаным трываньні.

Бальшыня людзей размаўляюць па-беларуску, перакладаючы кожнае слова, прыназоўнік, адмену і нават марфему з расійскае. Іх мову можна коратка апісаць як “хоць сажалку сажалкуй”, “колькі вартуе”, “што яно сабой уяўляе”, “ня лёс” ці “мову адняло” (гэта на ясных прыкладах паказуе як яна выглядае).

Прычынай зьменаў ёсьць ня толькі няведаньне і забыцьцё мовы, а й наўмыснае набліжэньне да расійскае, пераважна падчас існаваньня Савецкага Саюзу. Аб гэтым можна пачытаць у “Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу” Станіслава Станкевіча. Але й убачыць гэта самому няцяжка. Напрыклад, слоўнік Насовіча (той, што зьмяшчае мову сялян) мае такі прыклад: “*Втренцаць [утранцаць] (втручаць [утручаць]). Вмешивать. Не втренцай мне в гето дзело. Мы й его втренцимъ в нашу кашу.*”. “Утранцаць” ёсьць дыялектным варыянтам слова “утручаць” і азначае рас. “вмешивать”. У тлумачальным слоўніку беларускае мовы (2002, правапіс да 2008 г.) маецца такі прыклад: “*мяшаць. Пераноснае значаньне: Уцягваць, умешваць, ублытваць у што-н. з чым-н. (размоўнае). Не мяшай мне ў гэту справу.*”. Як бачым, прыклад тут акурат з слоўніка Насовіча, толькі “утручаць” замянілі на “мяшаць”, а “дзела” адмянілі на “справа”. Разам з тым слова “утручаць” у гэтым слоўніку няма. Гэта сьведчыць аб тым, што русыфікацыя была наўмысная. Укладнікі слоўніку бачылі, што ў слоўніку Насовіча няма слова “мяшаць”, а ёсьць толькі ’утручаць’ (і ’утручацца’, паходзіць ад слова ’труціць’), але сьвядома не дадалі яго і замянілі на расійскую кальку. Разам з тым слова “утручаць” ёсьць і ва ўкраінскае й польскае мовах, што набліжае нашыя мовы разам лексычна й гістарычна. Часам значаньне слова мяняюць на адваротнае: беларускае слова “прагадлівы” (угадлівы) значыць рас. “предусмотрительный”, а “прагадваць” - “предусматривать” (і “приготавливать”, “промышлять”, “предпринимать”). У савецкія й сучасныя слоўнікі дадалі толькі “прагадваць” з адваротным значаньнем “памыляцца”, як у расійскае, а “прагадлівы” выкінулі з слоўнікаў. Ці, напрыклад, раней “запомніць” і “запамятаць” азначала “забыць”, а “запомнены” - “забыты/забытковы”. “Урода” азначае “прыгожасьць”, “уродлівы” - “прыгожы”, а “урод” - “прыгожы чалавек; ураджай”, і тут зноў значаньні скалькавалі з расійскае (выродлівы, вырадак). “Пазорны” (прыгожы) не дадалі ў савецкія слоўнікі, бо слова супярэчыць расійскаму “позорный” водле сэнсу.

Дзясяткі тысяч словаў былі папросту аўтаматычна скапіяваныя ў беларускую з расійскае мовы з падладкай да беларускае вымовы (нп. чарцёж), што становіць ці не палову ўсёй лексыкі мовы. Людзі, размаўляючы па-беларуску, думаюць па-расійску і перакладаюць кожнае слова літаральна зь

яе, таму, калі слова нейкага няма, яно калькуецца, хоць па-беларуску раней папросту казалі зусім інакш. У польскае, напрыклад, няма слова "дарэчы" (адным словам), але яны не калькуюць “dorzeczy”.

Было дададзена багата замежных словаў (ангельскія, французскія і гд.), якіх раней ніхто не казаў. Лёгіка некаторых людзей: “ну, гэта ж не расіізмы, таму нармальна”. Але гэта не зусім нармальна. Першае, многа беларускіх словаў папросту замяняюцца запазычаньнямі, напрыклад, “канкрэтны” замест “пэўны”, “канкрэтна” замест “менавіта”, “альтэрнатыва” замест “адменнік”, “сакрэт” замест “таямніца”. Другое, часам замест аднаго запазычаньня раней панаваў іншы, а цяпер людзі карыстаюцца тымі, што ў расійскае мове, напрыклад, арыгінал - аўтэнтык, характар - натура, калька - барбарызм.

Транслітацыя таксама была зьменена. Напрыклад, раней было “этэр” (ether), цяпер “эфір”, але “псыхапат” (psychopath) не сталася “псіхапаф”. Водле арыгінальных правіл TikTok мае транслятавацца “ТыкТок” (бо гэта ёсьць менавіта так, як яно гучыць у ангельскае), водле афіцыйных - “ЦікТок”. Але разам з тым “псыхапат” (psychopath) не адмянілі на “псіхапат”, ці “матэматыка” (mathematics) на “мацемаціка”, а “актыўны” на “акціўны” (але замянілі “актор” на “акцёр”). То бок дзесьці th = т, а дзесьці = ф, дзесьці t = т, дзесьці = ц. Арыгінальная транслітацыя надае ўвагу вымове, а афіцыйная (іншымі словамі расійская) - напісаньню і літаральнаму перапісваньню (таму слэнг flood яны странслятавалі як “флуд”, а не “флад”).

Беларуская ёсьць супер неўнармаваная: мы кажам «ён кажа» (не «кажыць»), «ён хоча» (не «хочыць»), але разам з тым «ён датычыць» (не «датыча»), «ён ставіць» (не “ставя” ці “ставі”). Таксама мы кажам «ён ставіць» (ад слова «ставіць»), але «я стаўлю» (ад слова «стаўляць»). Дасюль колькі дыялектаў суіснуюць у адное норме. Як лагічна для мяне:

Ставіць. Я ставю - ён/яна ставі - яны ставяць - ставеньне (працэс)
Паставіць. Я паставіў - ён/яна паставіў(а) - яны паставілі - паставеньне (зьява, аднаразовае дзеяньне), пастава (зьява з “абнуленьнем”)
Пастаўляць. Я пастаўляю - ён/яна пастаўляе - яны пастаўляюць - пастаўленьне (працэс)
Абнаўляць. Я абнаўляю - ён/яна абнаўляе - яны абнаўляюць - абнаўленьне (працэс)
Абнавіць. Я абнавіў - ён/яна абнавіла - яны абнавілі - абнавеньне (зьява, аднаразовае дзеяньне), абнова (зьява з “абнуленьнем”)
Станавіцься. Я станавюся - ён/яна станавіся - яны станавяцься - станавеньне (працэс), альбо з іншым націскам:
Становіцься. Я становюся - ён/яна становіся - яны становяцься - становеньне (працэс)

Выносіць. Я выношу - ён/яна выносі - яны выносяць - выношаньне (працэс)

Вынесьці. Я вынес - ён/яна вынес(ла) - яны вынеслі - вынесеньне, вынес (зьява)

Такім чынам, канчатак “_ць” сымбалізуе альбо пачатковую форму дзеяслова (інфінітыў), альбо форму множнага ліку. Але тут будзе выкарыстоўвацца афіцыйнае ўтвараньне.

У сучаснае норме: “ён падпарадкоўвае” (подчиняЕТ), але “ён падпарадкоўваецца [падпарадкоўваець-ся]” (подчиняеЕТся). Чаму праз постфікс канчатак мяняецца? Нелагічна. Мусіць быць падпарадкоўвае - падпарадкоўвае се. Адказ: бо так гучыць больш па-расійску, а людзі, што нармавалі (“што рабілі”) беларускую, мелі расійскую першай мовай.

Таксама мы кажам “я стаў”, але “я станаўлюся” (а не “я стаюся”), то бок розныя словы выкарыстоўваюцца для featured рознага часу (яны абодва існавалі: “ставаць” і “станавіць”).

Няма ўнармаванасьці ў формах дзеясловаў. Ставіць, паставіць, пастаўляць. Сярод “ставіць” і “стаўляць” першае выбралі як “галоўнае” і літаратурнае для пачатковае формы (хаця ў дыялектах былі абодва). [Губіць], згубіць, згубляць. Тут чамусьці “губляць” выбралі як літаратурную норму для пачатковае формы замест “губіць” (як з словам “ставіць”). [Купіць], пакупіць, пакупляць. Тут тое самае, але яшчэ слова “купіць” азначае не незакончанае трываньне (як “ставіць”), а закончанае, а літаратурным незакончаным выбралі “купляць” (разам з тым чамусьці “рабіць”, а не “рабляць”). Для іншаземца вывучыць гэту нестандартаваную мову будзе вельмі цяжка. Лёгікі ва ўтварэньнях няма, давядзецца вучыць усе формы для кожнага слова асобна, бо кожнае падпарадкоўваецца свайму правілу.

Наконт фанэтычнага правапісу - я таксама ня згодны з ім, уважаю, што трэба яго камбінаваць з марфалагічным, напрыклад, замест “цца” пісаць “цься” (а лепш “ць се”), замест “наватвор” пісаць “новатвор”, а замест “псаваць” - “псуваць/псуць”, але, напрыклад, працягваць пісаць “боскі”, а не мяняць на “божскі”, а таксама пісаць “наваграцкі”, а не “навагрaдзкі”. Можна, нават, стварыць 2 правапісы - фанэтычны й марфалагічны і карыстаць з іх абодвух у залежнасьці ад сытуацыі (марфалагічны ў кніжках беларускае мовы, фанэтычны - ў рэшце). Таксама я б дазволіў пісаць постфікс “се (ся)” (у залежнасьці ад націска) асобна перад словам, бо ён ёсьць сынонімам-скарачэньнем да “сябе” [себе]: ён круціся = ён ся круці / ён круці се. Так было ў старабеларускае мове.

Як карыстацца слоўнічкам? Словы разьмешчаныя ў альфабэтным парадку, таксама можаце скарыстаць з ctrl + F для хутчэйшага пошуку. Словы запісаныя ў іх простае форме, у незакончаным трываньні, напрыклад, калька “прымяніць” запісана як “прымяняць”. У слупку перакладаў словы падаюцца таксама ў незакончаным трываньні, часта ўтвораныя ад закончанага, напрыклад, для калькі “адмяняць” пададзеныя адначасна такія пераклады, як “касаваць”, “скасоўваць” і “пакасоўваць” (утвораныя ад “скасаваць” і “пакасаваць”). Часам падаюцца сталыя выразы, пераносныя значаньні, гутарковыя выразы, а таксама словы, якія ёсьць не зусім перакладамі, але могуць ужывацца ў падобных сытуацыях; яны адзьдзяляюцца пустым радком. Калі ў слоўніку пададзены прыметнік (нп. трапны), то, імаверна, існуе й прыслоўе (трапна), але тут не заўсёды гэта дублюецца.

У слупку “слоўнікі” пазначаецца наяўнасьць слова ў вышменаваных слоўніках, напрыклад, “-ін бн -яс -эс” сьведчыць ал тым, што калька з такім значаньнем знайшлася толькі ў слоўніку Байкова-Некрашэвіча і яе бракуе ва ўсіх іншых, у тым ліку Насовічавым, слоўніках, што значыць, што гэта слова не ўжывалася сялянамі і, імаверна, ёсьць калькай 20 стагодзьдзя (магчыма, створана Байковым).

Часам у слупку перакладаў пазначаюцца словы ў спрошчаных дужках, што значыць, што яны ўтвораныя правільна, але іх няма ў сучасных слоўніках, альбо слова ёсьць штучным.

Часам словы пазначаюцца як працэс і вынік/зьява/факт/рэч/аднаразовае дзеяньне. **Працэс** – гэта тое, што мае працягласьць у дзеяньні. Ён утвараецца ад незакончанага трываньня (якое мае працягласьць у значаньні) з дапамогай «ньне»: ладзіць – ладжаньне, уладжваць – уладжваньне, кіраваць – кіраваньне, накіроўваць – накіроўваньне, касаваць - касаваньне, скасоўваць - скасоўваньне, тварыць - тварэньне, ствараць - ствараньне, абнаўляць - абнаўляньне, вымаўляць - вымаўляньне, дазваляць - дазваляньне, тлумачыць - тлумачаньне, апавядаць - апавяданьне, апавяшчаць - апавяшчаньне, вядоміць - вядоменьне, паведамляць - паведамляньне. **Вынік**, адпаведна, ня мае працягласьці. Ён утвараецца ад закончанага трываньня (і часам ад незакончанага трываньня, што ня мае працягласьці ў значаньні) з дапамогай «ньне» (і, што важна, захоўвае націск ад закончанага трываньня амаль заўсёды*): уладзіць – уладжаньне, накіраваць – накіраваньне, скасаваць - скасаваньне, стварыць - стварэньне, абнавіць - абнавеньне, вымавіць - вымавеньне, дазволіць - дазволеньне, вытлумачыць - вытлумачэньне, патлумачыць - патлумачаньне, паведаміць - паведаменьне, апавесьці - апавешчаньне, або ад незакончанага з **«абнуленьнем»** (бо абнуляецца частка марфем): кіраваць – кірунак, зьвязваць – зьвяз, зьвязак, тварыць - твор, творык, значыць - знак, значок, азначаць - азнака, абнаўляць ([обновляць]) - абнова ([обнова]), вымаўляць ([вымовляць]) - вымова, дазваляць - дазвол,

апавядаць - аповед, ведаміць - ведамасьць, паведаміць - паведамка, апавесьці - апавестка, рабіць - работа. Як відаць, з абнуленьнем такія калькі, як "накірунак" (кірунак, накіраваньне), ["нарысунак"] (рысунак), "палёт" (лёт, бо няма слова "палятоўваць", толькі "лётаць"), "узровень" (ровень), і ["запах"] (пах) утварыць няможна, бо незакончаныя трываньні гэтых словаў прыставак ня маюць (ёсьць выняткі: пачастунак, паратунак і гд.), а таксама такія словы, як "апавяданьне" і "абнаўляньне" ня ёсьць зьявы. Таксама існуе багата іншых прыкладаў "абнуленьня": кіраваць ([кіровацъ]) - кіроўца ([кіровца]), ламаць - лом, ломка, зьбягаць - зьбег, заляцацца ([залецацься]) - залёт, падкапваць - падкоп, абстаўляць - абстава і гд. Увага! Аканчэньне на "цыя" азначае зьяву, а не працэс! (напрыклад, "абстракцыя", "інструкцыя", "ізаляцыя". Працэсы: абстрагаваньне/абстрактаваньне, інструктаваньне, ізаляваньне).

* Націскі захоўваюцца пры ўтвараньні працэсаў і вынікаў:
Аспрэчыць - аспрэчаньне
[Аспрачыць] - [аспрачэньне] - хібныя націскі
Аспрэчваць - аспрэчваньне
[Аспрачаць] - [аспрачаньне] - магчымая форма, але яе няма ў слоўніках
Ганіць - ганьба
Страляць - стральба
Касіць - касьба

Але. Правіла 3 складаў: калі пасьля націску йдуць 3 склады ці меней, значыць іх можна вымавіць, калі 4 - ужо не:
Дазволіць - дазволеньне (2 склады пасьля націску, можна вымавіць)
ВЫтлумачыць - вЫтлумачаньне (4 склады пасьля націску, няможна вымавіць, таму будзе вытлумачЭньне)
Таксама вынятак: калі дзеяслоў у нез. тр. мае 2 склады й націск на першы (мовіць, школіць, цьвічыць), а працэс мае канчатак "(е/э)ньне", то націск будзе на ім (мавеньне, шкаленьне, цьвічэньне).
Таксама зьявы з націскам на прыстаўку (часьцей гэта "вы") могуць мець свадобны націск яшчэ й на "(е/э)ньне" (калі яно ёсьць у слова, вядома): вымавеньне.
Таксама, калі націск на прыстаўку (выбачыць, выпрасіць, выказаць), то ў незакончаным трываньні націск можа быць выпадковым - выбачаць, выпрошваць (выпрашаць), выказваць (выказаць).

Так (як апісана вышэй) утвараюцца словы й у слоўніку Насовіча (у мове сялян).

Наяўнасьць разрозьненьня паміж працэсамі і зьявамі стварае дадатковую гнуткасьць у беларускае мове. Напрыклад, мы можам сказаць "бяз бачаньня чэку мы ня можам дапамагчы з зваротам грошай", а па-расійску так сказаць нельга ("видения"). Ці, напрыклад, па-беларуску можна сказаць

"тваё спаньне ёсьць/было надта доўгае", па-расійску давядзецца сказаць "сон", хоць гэта розныя словы, нават не аднакаранёвыя. Ці можна гнутка ўтвараць зьявы: я прыняў тваё сказаньне няправільным чынам (ад "сказаць", замест зап. “фраза”)

Глядзіце як нелагічна, ад слова “абвяшчаць” у афіцыйнае норме ўтвараюць “абвяшчэнне”, ад “абнаўляць” - “абнаўленне”, але ад “навучаць” - “навучанне”, а не “навучэнне”, ад “пад’ядаць” - “пад’яданне”, а не “пад’ядзенне” і ад “зарабляць” - “зараблянне”, а не “зарабленне”, але пры тым “разрабленне”, а не “разраблянне”. Пасьлядоўнасьці ў утварэньні няма (яна наступная: кажы так, як больш гучыць па-расійску: зарабАтывание - зараблЯнне, обновлЕние - абнаўлЕнне, але ў расійскае няма розьніцы паміж працэсамі ды зьявамі, напрыклад, расійскае “расстование” па-беларуску гучыць “расстаньне”, бо “расставаньне” ёсьць ужо працэсам, а ў расійскае й тым і тым адначасна). Тут будзе выкарыстоўвацца правільнае для мяне ўтварэньне, але афіцыйнае часам пазначаецца ў дужках, напрыклад, працэс “абнаўляньне (абнаўленне)”, зьява “абнавеньне (абнаўленне)”.

У расійскае мове няма розьніцы паміж працэсамі і зьявамі, таму перакладаць адтуль на беларускую трэба пільна:

рас. впитывать - убіраць, уцягваць
рас. варить до полного впитывания - варыць да поўнага/цалковага убраньня/уцягненьня (рас. [“впитания”]) (не "убіраньня" і не "уцягваньня" - гэта працэс, які не азначае выніку, які тут патрэбны)

Калі сказаць "варыць да поўнага убіраньня", гэта будзе тым самым, што сказаць "у закончваньні дадам" замест "у заканчэньні дадам" (рас. в заключении добавлю).

У сучаснае норме нават няма падставовых словаў, такіх як “тканінны” (рас. тканевый). Ёсьць толькі “тканкавы”, што мае анатамічнае значаньне (утворана ад “ткань”, а не “тканіна”). А таксама няма нез. тр. “заваджваць”, але ёсьць толькі “завадзіць” у зак. тр. і чамусьці пазначана там гутарковым, хоць слова ўжывалася шчэ ў старабеларускае мове (афіцыйна) і ёсьць у польскае (ня толькі як гутарковае). Таксама некаторыя словы наўпрост выкінулі з слоўнікаў (напрыклад, грамадны (ад “грамада” - масіўная рэч) - велізарны, азнака - рас. признак, зналы - рас. знающий, клочча - рас. клочья, кудла - рас. клок, застанаўляць - рас. приостановлять, задерживать, останавливать, застанаўляцца - рас. останавливаться, задерживаться). Многіх словаў няма ў слоўніках (варушлівы - рухлівы, вёрткі, рас. подвижный, активный, загадлівы - рас. командующий, любит указывать), часам ёсьць толькі адна з іх формаў (напрыклад, завадзіць), а іншых няма (заваджваць).

| | Акурат як бацька | Наўпрост |
|---|---|---|
| -ін -бн -яс -эс | Прамавугольнік | Простакутнік |
| -ін -бн -яс -эс | Прамалінейнасць | Просталінейнасьць<br>Шчырасьць |
| -ін -бн -яс -эс | Прамы | Просты |
| -ін -бн -яс -эс | Прамы (беспасярэдні)<br><br>рас. прямой потомок - найбліжэйшы нашчадак<br>рас. прямое участие - беспасярэдні ўдзел<br>рас. прямой аналог - наўпросты/ найбліжэйшы/ беспасярэдні адпаведнік | Беспасярэдні<br>Найбліжэйшы<br>Наўпроставы, наўпросты |
| -ін -бн -яс -эс | Прамы (этэр) | Жывы |
| -ін -бн -яс -эс | Прападаць (зьнікаць) | Зьнікаць<br>Губляцца<br>Страчвацца |
| -ін -бн -яс эс | Прапажа | Страта<br>Згуба<br>Зьніканьне (працэс)<br>Зьнікненьне (зьява) |
| | Прапанаваць, прапаноўваць (што рабіць), прапанаваць (што зрабіць)<br><br>“Пра” у нез. тр. прапанаваць людзям нагадвае прыстаўку “пре” у слове “предложить”, таму яны блытаюць | Прапанаваць (што рабіць), запрапанаваць (што зрабіць)<br><br>Ёсьць толькі 2 варыянты:<br><br>1. Правільны<br>нез. Прапанаваць, запрапаноўваць<br>зак. Запрапанаваць<br><br>2. Няправільны<br>нез. Панаваць, прапаноўваць (гэта зусім іншае слова - кіраваць, загадваць)<br>зак. Прапанаваць |
| | Праслізнуць (нац.) | Праслізгнуць (ад “слізгаць”) ("г" выпадае прыблізна як у расійскіх "гре[б]сти" і "об[в]язать") |
| | Прасоўванне | Прамоцыя, прамаваньне |
| | Прасоўваць (брэнд, марку або працаўніка ў пасадзе)<br><br>рас. продвинуть по службе - спрамаваць у службе | Прамаваць, спрамоўваць, запрамоўваць (лац. promovere, анг. promote) |
| | Праходзіць, пройдзе, | Лепш: мінае, міне, мінуў час |

| | | |
|---|---|---|
| | прайшоў час | |
| | Праца (пра рэчы і працэсы, не людзёў)<br><br>рас. работа сердца - работа сэрца | Работа (ад “рабіць”, зьява)<br>Рабеньне (працэс)<br>Функцыянаваньне<br>Дзеяньне |
| | Праца (усякае рабеньне, як у “кошт (адное) работы майстра”, “ручное работы”) | Работа (ад “рабіць”) |
| | Працаваць (пра рэчы, ворганы і працэсы, не людзёў. З раскладамі працы усё адно “працаваць”)<br><br>рас. перестал работать - спыніў работу, перастаў рабіць<br>рас. таблетки сработали - таблеткі падзеялі | Рабіць<br>Функцыянаваць<br>Дзеяць (пол. dzialac)<br><br>Рабіць:<br>1. Работать, заниматься чем-то, особенно грязная или неофициальная работа (пол. robic).<br>2. Работать (функционировать), пол. dzialac.<br><br>Працаваць (пол. pracowac):<br>1. Трудиться.<br>2. Работать с целью заработка денег, чаще официальная работа. |
| | Працаваць: падпрацоўка (гучыць сарамліва як рас. “подтружка”) | Часовая праца<br>Праца з абмежаваным тэрмінам<br>Работа (звычайна азначае неафіцыйную, брудную альбо кароткую ў часе працу) |
| | Працаздольны (пра рэч) | Работаздольны |
| | Працоўны (пра рэчы, што робяць, у рабочым стане) | Рабочы<br>Функцыянальны, які функцыянуе<br>Дзейны |
| -ін -бн -яс -эс | Прывет | Вітаю<br>Вітаньне (працэс)<br>Прывітаньне (зьява і працэс, рас. приветствие) |
| | Прывыкаць (аўт.) | Звычаіцца, звыкацца, навыкаць, абвыкаць, прызвычайвацца, упрызвычайвацца, запрызвычайвацца<br>Своіцца, асвойвацца<br>Унаджвацца (зак. унадзіцца, узяць за звычку рабіць штосьць) |

| | | |
|---|---|---|
| | Прывычка (аўт.)<br><br>Прызвычайваньне ката да латку - рас. обучение кота лотку<br>Прызвычаіўся да ўмоваў - рас. привык к условиям, обучил себя условиям | Звычка, звыкласьць, навычка, [навыкласьць], абвычка, абвыкласьць, прызвычаеньне, упрызвычаеньне, запрызвычаеньне (зьява)<br>Звычаеньне, звыканьне, навыканьне, абвыканьне, прызвычайваньне, упрызвычайваньне, запрызвычайваньне (працэс, рас. привыкание, введение в обыкновение)<br>Асвоеньне (зьява) |
| | Прыгажосць (нац.) | Прыгожасьць, прыгаство<br>Хараство<br>Краса<br>Сьлічнасьць<br>Пекнасьць<br>Урода<br>саст. Лепата, лепасьць |
| | Прыдумляць, выдумляць (словаўтв. нац.) | Прыдумваць, выдумваць |
| -ін -бн -яс -эс | Прыём (захад) | Захад |
| | Прыём (словаўтв.)<br><br>Прыймо доктара | Прыняцьце, прыймо (зьява)<br>Прыманьне (працэс) |
| | Прыёмны (словаўтв.) | Праймовы |
| -ін -бн -яс -эс | Прызнак | Азнака, знак (ад “значыць, азначаць”)<br>Прыкмета (ад “прыкмячаць”, якое ад “кмеціць”), адметнасьць (ад “адмячаць”, якое ад “(к)меціць”) |
| | Прыкалвацца (трас.) | Жартаваць<br>Сьмяяцца<br>Кпіць*, з каго*<br>Сьцябацца<br>Цешыцца<br>Зьдзеквацца |
| -ін ?бн -яс -эс | Прыкладна | Каля<br>Блізка, блізу, *чаго*, прыблізна |
| -ін -бн -яс -эс | Прыкладны (прыблізны) | Прыблізны, блізкі (да чаго?) |
| | Прыкол (трас.) | Жарт<br>Кпіна*, з каго*<br>Сьцёб<br>Досьціп (рас. остроумие)<br>Пацеха<br>Сьмяшынка, сьмяхнулька |
| | Прыкольны, прышпільны | Цікавы |

| | | |
|---|---|---|
| | (трас., наватвор) | Сьмешны<br>Пацешны<br>Незвычайны<br>Файны<br>Дзіўны |
| -ін -бн -яс -эс | Прымаць удзел, удзельнічаць<br>Прыміце (ўдзел)<br><br>Прямое участие - беспасярэдні ўдзел<br>Поучаствовать напрямую - узяць просты/беспасярэдні ўдзел, узяць удзел наўпрост/беспасярэдне<br>Принятие участия - браньне ўдзелу (саст. пойма ўдзелу) | Браць (ўдзел)<br>Вазьміце, займіце, пайміце (ўдзел) |
| -ін ?бн -яс -эс | Прымаць, прадпрымаць (захады) | Рабіць<br>Ужываць<br>Ужыцьцяўляць<br>Даваць рады, *з чым* (рас. справляться, сводить концы с концами)<br><br>Прагадваць (рас. предпринимать, предусматривать, промышлять)<br>Прамысляць, вымысляць |
| | Прыметнік замест назоўніка, прыслоўя і іншых словаў:<br><br>Астатняе (хібна, рас. остальное)<br>Узьбярэжная<br><br>Будучае<br>Прошлае, мінулае<br><br><br>Сталовая<br>Падаткавая<br>Кніжны<br>Піўная<br>Камэнтарый<br>Млекакармільны<br>Марожанае<br>Ванная | Рэшта, іншае<br><br>Узьбярэжжа<br>Узьбярэжная лінія<br>Будучыня<br>Прошласьць<br>Быласьць<br>Мінуласьць<br>Харчоўня, страўня, ядальня<br>Падаткоўня, падаткавы адзьдзел<br>Кнігарня, кніжная крама<br>Піўня, піўніца<br>Камэнтар<br>Сысун<br>Марозіва, лёд<br>Ванны пакой, лазьня, мыйня<br>Наперадзе |

| | | |
|---|---|---|
| | На передовой | |
| -ін -бн -яс -эс | Прымяненне | Ужываньне (працэс)<br>Ужытак, ужыцьце (ужыцьцё) (факт, зьява)<br>Дастасаваньне<br>Прытарнаваньне (зьява)<br>Тарнаваньне (працэс)<br>Ужыцьцяўляньне (працэс)<br>Ужыцьцявеньне (зьява)<br>Карыстаньне, выкарыстоўваньне (працэс)<br>Выкарыстаньне (зьява) |
| -ін -бн -яс -эс | Прымяняць<br><br>рас. применить настройки - ужыць, захаваць, выкарыстаць налады | Ужываць, *з чым*<br>Стасаваць, дастасоўваць, прыстасоўваць, *да чаго*<br>Дапасоўваць (рас. приспосабливать), *да чаго*<br>Тарнаваць, прытарноўваць, *да чаго*<br>Ужыцьцяўляць<br>Карыстаць, выкарыстоўваць<br>Захоўваць |
| | Прынялі, прыняла, прыняло (нац.) | Прынялі, прыняла, прыняла |
| | Прыспічыла (безас.)<br><br>Прырынула пайсьці да туалету<br>І прырынула табе туды ісьці так рана? | Прырынула (ад “рынуць”)<br><br>Закарціла (моцна захацелася) |
| | Прыступаць, прыступім | Распачынаць, распачнем |
| -ін бн -яс -эс | Прысутнасць | Наяўнасьць<br>Бытнасьць, быцьцё<br>Існаваньне<br>Знаходжаньне<br><br>Стача, дастача, дастатак (рас. хватка, достаток) |
| -ін -бн -яс -эс | Прысутнічаць, быць прысутным | Быць<br>Быць у наяўнасьці<br>Мецца<br>Знахадзіцца<br>Існаваць<br>Зьмяшчацца (рас. содержаться) |
| -ін бн -яс -эс | Прысутны<br><br>рас. кто с присутствующих - хто з | Наяўны<br>Бытны<br>Маны<br>Існы |

| | | |
|---|---|---|
| | туташніх | Туташні, тутэйшы<br>Зьмешчаны (рас. помещенный)<br>Які знаходзіцца, знаходны |
| | Прыходзіцць (нац.) | Прыхадзіць |
| | Псаваць, псуе, псую і гд. | Лепш: псуць, псуе, псую |
| | Пылесос, прапылесосіць (няма слова “сасаць”, толькі “сысаць” і “смактаць”) | Адпыльнік, адпыліць |
| | Пыльны (няма слову “пыль”)<br>Пылавы (калька ад рас. “пылевой”) | Пылкі, запылены<br>Пыловы<br><br>Стыль + овы/ны = стылёвы, стыльны<br>Стыл + овы/ны = стыловы, стылны<br><br>“Пылавы” утварылі ад “пыл”, бо інакш бы было “пылявы”, а ўжо пыльны ўтварылі ад “пыль”, то бок самі сабе пярэчаць стваральнікі слоўнікаў |
| | Пявучы (словаўтв.) | Пяяльны (ад “пяяць”)<br>Сьпявальны, сьпеўны (ад “сьпяваць”) |
| -ін -бн -яс -эс | Пячэнне (печаныя вырабы) | Печыва |
| | Пяшком | Пеша, пешы, пешкі |
| -ін -бн -яс -эс | Рабяты | Дзеці, дзецюкі<br>Народ, людзі<br>Спадарства, паньства<br>Дзеўкі і хлопцы |
| -ін -бн -яс -эс | Раён, участак | Дзяльніца<br>Акруга<br>Пляц<br>Частка |
| | Раз (калі)<br><br>Табе сьмешна, як ты сьмяешся | Як<br>Калі |
| | Раз’ём (словаўтв.) | Разойма |
| -ін -бн -яс -эс | Разбаўляць (мяшаць) | Разваджваць, зак. развадзіць (ад слова “вада”)<br>Развадзіць, зак. разьвесьці (ад слова “вадзіць”)<br>Мяшаць, зьмешваць<br>Распускаць<br>Разрэджваць |

| | | |
|---|---|---|
| | Раздражняльны (рас. раздражительный)<br><br>Упомніце: ляльны = рас. ющий (радзей “ющийся”)<br><br>Раздражняльны = рас. раздражающий<br><br>Раздражняльнік - рас. раздрожитель (а не тот, кого раздразнили, раздразненный) | Раздражлі̲вы (агулам прыкмета)<br>Раздражнёны (цяпер, рас. раздразненный)<br>Уразьлівы (каго можна лёгка ўразіць, рас. задеть)<br>Абурлівы<br>Зласьлівы<br>Заходлівы (хутка заходзіць за межы) |
| -ін -бн -яс -эс | Разлічаны (зьмеркаваны) | Прызначаны<br>Зьмеркаваны, вымеркаваны |
| -ін -бн -яс -эс | Разнастайваць (неал.) | Размаі̲тваць |
| -ін -бн -яс -эс | Разнастайнасць, разнаякасць (рас. разновидность) (неал.) | Рознасьць, разнароднасьць<br>Адмена, адменнік<br>Кшталт |
| -ін -бн -яс -эс | Разнастайнасць, шматстайнасць (рас. разнообразие) (неал.) | Рознасьць, разнароднасьць, размаі̲тасьць<br>Багацьце |
| -ін -бн -яс -эс | Разнастайны, разнаякасны, шматстайны (неал.) | Розны, разнародны, размаі̲ты<br>Стракаты |
| | Раніцай | Ураньні, уранку, ураніцы |
| -ін -бн -яс -эс | Распрацоўваць | Разрабляць<br>Ствараць |
| -ін -бн -яс -эс | Распрацоўка | Разробка<br>Стварэньне |
| -ін -бн -яс -эс | Распрацоўшчык | Разробнік, выбрабнік<br>Творца, стваральнік, вытворнік |
| | Растваральны (нп., кава)<br><br>“Рашчапляльны” паходзіць ад “рашчапляцца”, бо кава “рашчапляе сябе”, “рашчапляецца”. Канчатак “ляльны” ужываецца з словамі на “ць”, або “цца” | Рашчапляльны, рашчэпны (ад “рас” + “чапляць”)<br>Распушчальны, распусны, распушчаны (апошняе значыць рас. “растворенный”, а апошнія 2 таксама азначаюць рас. “пошлый, распущенный”)<br>Расчыняльны, расчынны |
| -ін -бн -яс -эс | Расхвалёўвацца | Узрушвацца<br>Узбуджацца<br>Узбурацца<br>Уражвацца |
| -ін -бн -яс -эс | Рашаць, вырашаць (наважвацца) | Наважвацца, адважвацца<br>Меркаваць, зьмяркоўваць<br>Думаць, надумваць |

| | | |
|---|---|---|
| -ін -бн -яс -эс | Рашаць, вырашаць (праблему, задачу, мат. прыклад, анг. solve)<br><br>рас. решение проблемы - разьвязаньне праблемы<br>рас. хорошее решение (идея) - добрае рашэньне | Разьвязваць (анг. solve, а '(вы)рашаць' значыць анг. decide) |
| -ін -бн -яс -эс | Рашаць, вырашаць (суд) | Выракоўваць<br>Пастанаўляць<br>Прысуджаць |
| -ін -бн -яс -эс | Рашэнне (напрыклад, праблемы. анг. solution = разьвязаньне, анг. decision = рашэньне)<br><br>рас. хорошее решение проблемы - добрае разьвязаньне праблемы<br>рас. хорошее решение (идея, придумка) - добрае рашэньне, замысел | Разьвязваньне (працэс)<br>Разьвязаньне, разьвязак (зьява) |
| -ін -бн -яс -эс | Рашэнне (суду) | Вырак<br>Пастанова<br>Прысуд |
| | Розыгрыш | Розыйгра |
| | Русізм (калька з расійскае мовы, ня рускае) (славаўтв.) | Расіізм |
| | Рускі (які стасуецца Расіі, не Русі) (славаўтв.) | Расійскі<br><br>Русь - рускі<br>Беларусь - беларускі |
| | Рускі, руская (нацыянальнасьць) (славаўтв.) | Расіец, расійцы<br>Расіянін, расіяне |
| | Ручны (нац.) | Ручны |
| | Рэгулёўка, рэгуліроўка (славаўтв.) | Рэгуляцыя, рэгула, зрэгуляваньне (зьява)<br>Рэгуляваньне (працэс і зьява) |
| -ін -бн -яс -эс | Рэзка (пра час) | Раптам, раптоўна (ад лац. raptus, анг. abruptly)<br>Неўзабаве<br>Зьнянацку<br>Нeспадзявана, неспадзёўкі<br>Нечакана<br>Ґвалтоўна<br>Зьнячэўна, зьнячэўку<br>Нагла |

| | | |
|---|---|---|
| | | Спадналуску (ад “з-пад налуску”)<br>Імгненна, імгненьнем, мігам, у міг<br>Мамэнтальна, у момант<br>Адразу, у раз<br>Махам<br>Мелькам<br>дыял. маг. смал. Жыгам, у жыг |
| -ін -бн -яс -эс | Рэзка (хутка) | Хутка<br>Шпарка (аднак. да “шпарыць”, лупіць, рабіць з асаблівай сілай, імпэтам)<br>Борздка<br>Жвава<br>Ґвалтоўна<br>Жорстка<br>Імкліва<br>Крута |
| -ін -бн -яс -эс | Рэзкасць (выявы, экрану) | Вострасьць |
| -ін -бн -яс -эс | Рэзкі (пра выяву, экран) | Востры |
| -ін -бн -яс -эс | Рэзкі (пра гук) | Прарэзьлівы<br>Дзяркаты |
| -ін -бн -яс -эс | Рэзкі (пра зьмену формы, нахілу, анг. bold) | Круты<br>Стромкі, стромы, стромісты |
| -ін -бн -яс -эс | Рэзкі (пра рух) | Рухлівы<br>Шпаркі (аднак. да “шпарыць”, лупіць, рабіць з асаблівай сілай, імпэтам)<br>Борздкі, борзды<br>Ускідзісты |
| -ін -бн -яс -эс | Рэзкі (пра час) | Раптоўны (ад “рапт” = імгненьне, лац. raptus, анг. abrupt)<br>Ґвалтоўны<br>Жорсткі<br>Неспадзяваны<br>Зьнянацкі, зьнянацны<br>Зьнячэўны<br>Наглы<br>Імгненны |
| -ін -бн -яс -эс | Рэзкі, храбры, стойкі, рашучы (анг. bold, brave, audacious, valorous, valiant, courageous, fearless, intrepid, plucky, stout-hearted, dauntless) | Адважны<br>Мужны<br>Сьмелы<br>Бойкі<br>Цьвёрды<br>Нязломны<br>Рызыкоўны (анг. risky)<br>Упэўнены<br>саст. Безбаязны, безбаязьлівы (анг. fearless) |

| | | |
|---|---|---|
| | | саст. Няўляклівы (“лякацца” = “пужацца”, рас. непугливый)<br>старабел. Харобры |
| | Са (прыназоўнік) | З (чытаецца як “зы”/”зэ”) |
| | Сабіраць, сабраць, сабралі, сабрала, сабраў (словаўтв.)<br><br>Сабраны | Лепш:<br><br>Зьбіраць, зьберці, зьбёрлі, зьбёрла зьбёр<br>саст. Панімаць (паняць - узяць, заняць, прыняць, пабраць)<br><br>Зьберты, збраны, зборны |
| -ін -бн -яс -эс | Садзейнічанне, судзеянне | Пасобеньне, спасобеньне (зьява)<br>Собеньне, пасабляньне, спасабляньне (працэс)<br>Помач, падмога, запамога, дапамога, успамога, успамажэньне (зьява)<br>Памаганьне, успамаганьне, дапамаганьне (працэс)<br>Прыяньне, спрыяньне (працэс)<br>Падпора, апора, усьпераньне, успора (зьява)<br>Падпіраньне, усьпіраньне (працэс) |
| -ін -бн -яс -эс | Садзейнічаць, судзеяць<br><br>Краіна спрычынілася да поймы/паняцьця Эўропы міґрантамі - рас. страна стала причиной наводнения Европы мигрантами | Прыяць, спрыяць<br>Сабіць, пасабляць (зак. пасабіць), спасабляць (зак. спасабіць)<br>Падпіраць, усьпіраць<br>Памагаць, дапамагаць, запамагаць, успамагаць<br>Прычыняцца, спрычыняцца, *да чаго* (зак. спрычыніцца) |
| | Садраць, садралі, садрала, садраў | Зьдзерці, зьдзёрлі, зьдзёрла, зьдзёр |
| | Сальецца, зліецца (словаўтв.) | З’льецца |
| -ін -бн -яс -эс | Самаўнушэнне | Саманамаўляньне (працэс)<br>Саманамова, саманамовеньне (зьява)<br>Самапераконваньне (працэс)<br>Самаперакананьне (зьява)<br>Аўтасуґестыя<br>Аўтаґіпноз |
| | Сартоўка (словаўтв.) | Сартаваньне |
| -ін -бн -яс -эс | Састаў | Склад |
| -ін -бн -яс -эс | Састаўляць (ствараць штосьці) | Складаць |

| | | |
|---|---|---|
| -ін -бн -яс -эс | Састаўны | Складовы |
| -ін -бн -яс -эс | Састаўны (частка, кампанент, інгрыдыент) | Складнік |
| -ін -бн яс -эс | Своеасаблівы | Адмысловы<br>Асаблівы<br>Унікальны<br>Адметны<br>Непаўторны |
| | Сенсацыя | Сэнсацыя |
| | Сілай, насільна<br><br>ґвалтам забіраць | Лепш: ґвалтам, ґвалтоўна<br>З насілу, насілам |
| | Сказаны (нац.) | Сказаны |
| | Скарочанне (нац.) | Скарачэньне, скарот |
| -ін ?бн -яс -эс | Складаць (раўняцца чамусь, пра колькасьць і памеры)<br><br>рас. не составляет сложности - ня робіць цяжкасьці<br>рас. площадь составляет - плошча становіць / дасягае / раўняецца / ёсьць | Дасягаць<br>Станавіць (= вызначаць стан)<br>Раўняцца<br>Быць |
| | Склады (нац.) | Склады |
| -ін -бн -яс -эс | Спаборнік | Супар, супраціўнік, супернік<br>Спадужнік, [дужак], [дужар]<br>Змагар |
| -ін -бн -яс -эс | Спаборніцтва | Супарства, супараваньне (рас. соревнование)<br>Спадужаньне (рас. состязание)<br>Змаганьне (рас. состязание)<br>Выперадкі (рас. соревнования, перегонки) |
| -ін -бн -яс -эс | Спаборнічаць | Супараваць, [суперыць], гутар. супернічаць<br>Дужаць, спадужаць<br>Змагацца<br>Ісьці на выперадкі |
| | Спампоўка (суч.) | Сьцягненьне, [сьцяжка] (зьява, файл)<br>Сьцягваньне (працэс) |
| | Спартсмен | Спартовец |
| -ін -бн -яс -эс | Спецыяльны (анг. special) | Адмысловы (ад “ад мыслі”, рас. с задумкой, особенный)<br>Асаблівы |
| | Справа, па: па справе | Трапна, добра, акуратна, удала |
| | Справа: гэта не справа | Гэта не работа (рас. делать - |

| | | |
|---|---|---|
| | | рабіць) |
| | Справа: іншая справа | Іншая рэч |
| | Справа: на самой справе | Запраўды, напраўду ж<br>[На самое рэчы] |
| | Справа: на самой справе | [на самое рэчы], запраўды, папраўдзе, аджаж |
| | Справа: прыняцца за справу | Пачаць работу |
| | Справа: справа ў тым, што | Рэч ў тым, што, рэч такая, што |
| | Справа: як справы (тое самае, што "как управы" па-расійску. Ад слова "спраўляцца") | Як ты? Як там? Што там? Што чуваць? Што новага? Як маешся? Як пачуваешся? |
| -ін бн -яс -эс | Справаздача (наватвор 20 ст.) | Справа<br>Рапарт<br>Ведамасьць<br>Данос |
| -ін бн -яс -эс | Справаздачыцца | Здаваць справу<br>Рапартаваць<br>Агалошваць<br>Паведамляць<br>Данасіць |
| -ін -бн -яс -эс | Сталовая (словаўтв.) | Ядальня<br>Страўня<br>Харчоўня<br>прост. Сталоўка |
| -ін ?бн -яс -эс | Station: Станоўчы (саст. станоўчы = упэўнены, катэгарычны, бо не мяняе стану, стаіць на сваім) | Пазытыўны<br>Дадатны<br>Добры<br>саст. Палажоны |
| | Стары (нац.) | Стары |
| -ін -бн -яс эс | Сторож | Вартаўнік<br>Брамнік |
| -ін -бн -яс -эс | Стоўпатварэньне | Натоўп, стоўпішча<br>Талака<br>Грамадка<br>Збой<br>Збор<br>Гармідар |
| | Страваваць (словаўтв., рас. переваривать)<br><br>рас. переваривать пищу/ содержимое желудка - страўляць харч/ зьмесьціва жалудка | Страўляць, патраўляць, ператраўляць (зак. стравіць, патравіць, ператравіць) |
| ін -бн -яс эс | Страсць (дыял. усх.) | Страх |

| | | |
|---|---|---|
| | | Запал<br>Захоп, захапеньне<br>дыял. усх. Жарсьць<br>Пасыя<br>Жаданьне<br>Ахвота, хоць<br>Цяга<br>Парыванньне<br>Азард (рас. азарт)<br>Рызыка<br>Апантанасьць<br>Заўзятасьць<br>Палкасьць<br>Адданасьць |
| -ін -бн -яс -эс | Страхаванне | Забясьпечаньне, убясьпечаньне |
| | Страхавацца,<br>перастрахоўвацца | Убясьпечвацца |
| -ін -бн -яс -эс | Страхаваць,<br>застрахоўваць | Забясьпечваць, убясьпечваць |
| | Страхаваць:<br>перастрахоўшчык | Перасьцярожлівы,<br>засьцярожлівы<br>Прагаднік, прагадлівы<br>(прагадваць - рас.<br>предусматривать) |
| -ін -бн -яс -эс | Строіцца (вайск.) | Шых(т)авацца |
| -ін -бн -яс -эс | Строіць (з сябе)<br><br>рас. строить из себя<br>крутого - удаваць з сябе<br>нязломніка | Удаваць (з сябе)<br>Удавацца, прыдавацца (кім, рас.<br>выдавать себя за кого-то)<br>Прыкідвацца (притворяться,<br>превращаться) |
| -ін -бн -яс эс | Строй (вайск.) | Шых(т) |
| -ін -бн -яс -эс | Суаднесены | Зьвязаны<br>Прыдзелены, *да*<br>Які стасуецца, *да чаго, чаго* |
| -ін -бн -яс -эс | Суадносіны (зьвязак) | Стасунак<br>Зьвязак<br>Залежнасьць<br>Карэляцыя |
| -ін бн -яс -эс | Суадносіны (пра лічбы,<br>памеры і колькасьць) | Стасунак (чаго да чаго)<br>Умеркаваньне, разьмеркаваньне,<br>мера<br>Каэфіцыент |
| -ін -бн -яс -эс | Суадносіцца | Стасавацца<br>Зьвязвацца |
| -ін -бн -яс -эс | Суадносіць | Параўнываць (як паказаць -><br>паказ(ы)ваць)<br>Зьвязваць<br>Прыдзяляць, *да* |

| | | |
|---|---|---|
| | | Умяркоўваць, разьмяркоўваць |
| -ін -бн -яс -эс | Суадноснасць |102Параўнальнасьць<br>Зьвязанасьць |
| -ін -бн -яс -эс | Суадносны | Параўнальны |
| -ін -бн -яс -эс | Субяседнік (субяседнік - рас. собутыльник, гость, зусім не афіцыйнае слова) | Суразмоўца |
| -ін бн -яс -эс | Сувязь | Зьвязак, зьвязанасьць, павязанасьць, повязь, дыял. віц. зьвязь, зьвязка (анг. tie)<br>Спалучэньне, лучнасьць (анг. connection)<br>Злучэньне (пра тэлефон, інтэрнэт і гд.)<br>Стасунак (рас. отношение, анг. relation) |
| | Сукупляцца | Спалучацца, злучацца<br>Укупвацца, скупвацца |
| -ін -бн -яс -эс | Сукупнасць, сукупленне (ц.-с.)<br><br>рас. совокупность всех факторов способствует развитию - наяўнасьць усіх фактараў спасабляе (спрыяе) разьвіцьцю | Спалучэньне, лучнасьць<br>Суцэльнасьць<br>Збор<br>Збой<br><br>Наяўнасьць<br>Бытнасьць<br>рас. совместность:<br>Купа, укупнасьць (ад "у купе")<br>Супольнасьць, абапольнасьць, паспалітасьць<br>Сумеснасьць |
| -ін -бн -яс -эс | Сукупны (ц.-с.)<br><br>"па-с" = "су" = "с-па", што значыць "разам". Паспаліты і супольны маюць адзін корань "пол", што значыць "палова". То бок су + пол ці пас + пол значыць 2 паловы разам<br><br>Ёсьць толькі слова "укупны" (ад "у купе"), якое азначае "сумесны, супольны, абапольны, паспаліты"<br><br>рас. все совокупно - усё лучна, разам | Спалучаны, лучны (таксама значыць рас. “меткий, ловкий” ад “лучаць” - попадать, соединять), злучаны<br>Суцэльны<br>Зборны<br><br>Супольны, абапольны, паспаліты<br>Сумесны<br>Укупны (ад "у купе" - рас. в куче, в целом, рас. совместный, не "совокупный")<br><br>Гэта ёсьць наша ўкупнае рашэньне - рас. это наше совместное (не "совокупное") решение |

| | | |
|---|---|---|
| | рас. совместно - укупна, разам, сумесна, супольна, абапольна, паспаліта | |
| | Сумленна (анг. fair)<br><br>рас. это довольно честно, анг. that's pretty fair - гэта ёсьць даволі справядліва ("сумленна" бы азначала тут рас. "совестно") | Справядліва |
| | Сунуць -> прасоўваць (словаўтв.) | нез. Сунуць -> зак. прасунуць (прасунь) -> нез. прасуньваць<br>нез. Суваць -> зак. усуваць, прасуваць (прасуй) -> нез. прасоўваць |
| -ін -бн -яс -эс | Суперажыванне | Спачуваньне (працэс)<br>Спачуцьцё (зьява)<br>Спагаданьне (працэс)<br>Спагада (зьява)<br>Шкадаваньне (працэс)<br>Пашкадаваньне (зьява, рас. жалость, пощада)<br>Літасьць<br>Жаль (да) |
| -ін -бн -яс -эс | Суперажываць<br><br>*гл. яшчэ “паблажлівы”* | Спачуваць, *каму*<br>Спагадаць, *каму*<br>Шкадаваць, *каго* |
| | Супер<br><br>Пры транслітаваньні вымова захоўваецца ў напісаньні (нп. “артыкль”, а не “артикль” як у рас.) | Супэр<br><br>анг. super - супэр<br>супер = супраць (насуперак, насупраць, супернік, супраціўнік. Перці = праць = усх. пароць, як і берці = браць = усх. бароць) |
| | Суправадзіць, справодзіць (словаўтв.) | Справаджаць, выpraваджаць |
| | Супрацоўнік (словаўтв.) | Працаўнік |
| | Супрацоўніцтва | Супраца |
| | Супрацоўнічаць (словаўтв.) | Супрацаваць (спапрацаваць, паспрацаваць) |
| -ін -бн -яс -эс | Супрацьлеглы | Адваротны<br>Супраціўны, праціўны |
| -ін -бн -яс -эс | Сутнасць<br><br>рас. уловил суть дела - зразумеў/ахапіў істоту справы, зразумеў сэнс анг. in essense, рас. по | Існасьць, іста, істота<br>гутар. Цымус (найстотнейшае, рас. самый сок, самая суть) |

| | | |
|---|---|---|
| | существу, по сути - у істоце/існасьці, фактычна, папраўдзе<br>рас. суть заключается - істота палягае<br>рас. войти в суть дела - паглыбіцца ў справу, (у)вайсьці ў існасьць справы | |
| -ін -бн -яс -эс | Схрон, сховішча | Схоў, ухова<br><br>Похва (ад “пахаваць”, рас. чехол, папка, футляр)<br>Насоў (рас. чехол, накидка)<br>Навалка (рас. чехол, наволочка) |
| | Сышчык | Шукач (мн. шукачы), пашуковец<br>гутар. Шныпар (ад “шныпаць” - поркаць, рас. шарить, рыскать)<br>гутар. Знайда (рас. воришка) |
| | Сэканомліваць (словаўтв.) | Заашчаджаць (зак. заашчадзіць)<br>Зэканомліваць |
| | Сябры (нац.)<br><br>Імаверна калька ад рас. "друзьЯ". “Сябр” ёсьць скарачэньнем ад “сябар” | Сябры, сябары<br>Прыяцелі, прыязьнікі (ад “прыяць”, як і “прыязны”)<br>Друзі (1 - друг) |
| | Так сабе | Неяк так, так-так<br>Ня вельмі |
| -ін -бн -яс -эс | Тармазіць (пра стан работы рэчы або чалавека) | Марудзіць<br>Валачыся (марудна ісьці або рабіць нешта) |
| -ін -бн -яс эс | Тармазіць (пра транспарт) | Гамаваць<br>Паволіць, запавольваць<br>Прыпыняць, спыняць<br>Застанаўляць (зак. застанавіць ад “станавіць”) |
| | Тканкавы (не ў анатамічным сэнсе) (словаўтв.) | Тканінны (ад “тканіна”) |
| | Ткачыха (словаўтв.) | ж. Ткаха, ткачка<br>м. Ткач |
| | Трапіць (зак. тр. Нез. тр. “трапіць” адказвае на “што рабіць”) | Патрапіць |
| | Трасенне, страсенне (словаўтв.) | Трушэньне, струшаньне, трэшчаньне/трышчаньне (трушчаньне) (працэс)<br>Струс, струшэньне, стрэшчаньне (зьява) |

| | | |
|---|---|---|
| -ін -бн -яс -эс | Трук, прыём (фокус) | Штука<br>Фокус |
| -ін -бн -яс -эс | Трукар (фокусьнік) | Штукар<br>Фокусьнік |
| | Трэніроўка, трэноўка (словаўтв.) | Практыкаваньне, практыка<br>Трэнаваньне, трэнінг<br>Навучаньне (працэс)<br>Навука, навучэньне (зьява)<br>Шкаленьне<br>Цьвічэньне |
| | Туса (гутар.) | Кутн<u>я</u> (рас. кутеж)<br>Вечарына<br>Пагуляньне, гулянка, гулі, пагулюшкі<br>Гудзеньне<br>Забава<br>Бяседа<br>Імпрэза |
| | Тусавацца (гутар.) | Куц<u>і</u>ць (мы - куц<u>і</u>м)<br>Гуляць<br>Гудзець<br>Бавіцца, бавіць час, забаўляцца<br>Бяседаваць<br>Круціцца<br>Ладзіць/гуляць вечарыну<br>Тасавацца (літаральна "перамешвацца") |
| | Тым больш, больш за тое, больш таго | Пагатоў, пагатове |
| | Тычыцца (рас. касается. Слова "тычыцца" азначае "колецца")<br><br>Калі казаць "тычыцца", бярэцца слова "тыкацца", якое азначае не "касаться", а "тыкаться" | Датыча (датычыць)<br><br>рас. касаться (переносное значение) - датычыць, НЕ “тыкаць”<br>рас. коснуться - даткнуць (ці “дакрануцца”, але гэта больш "дотронуться"), не "тыкнуцца" |
| -ін <u>бн</u> -яс -эс | Тэрмінова<br><br>рас. срочная необходимость - пільная патрэба | Пільна<br>Неадвалочна, безвалочна, без адвалокі, без правалокі<br>Неадкладна<br>Неадменна<br>Сьпешна<br>Канечне<br>Абавязкова<br>Мусова |
| -ін <u>бн</u> -яс -эс | Тэрміновы<br><br>рас. срочные новости - | Пільны<br>Неадвалочны, безвалочны<br>Важны |

| | | |
|---|---|---|
| | найноўшыя,<br>найважнейшыя навіны | Неадкладны<br>Неадменны (рас. непременный)<br>Сьпешны<br>Канечны<br>Абавязковы<br>Ґвалтоўны<br>Найноўшы (пра навіны) |
| | У цэлым<br>Па вялікім рахунку<br>У агульнай складанасці | Агулам<br>Усяго<br>У купе<br>У суме<br>Разам<br>Збольшага<br>Кругом беручы<br>Цалкам<br>З шырокага погляду /малюнку |
| | Уборка (словаўтв.) | Прыбраньне, пабраньне (зьява)<br>Прыбіраньне, пабіраньне (працэс)<br>Спратаньне (зьява)<br>Пратаньне, спратваньне (працэс) |
| | Уборшчык | м. Прыбірач, ж. прыбірачка<br>м. Прыбіральнік, ж. прыбіральніца<br>гутар. Сьметнік (ад “сьмятаць”) |
| | Уваход, увайсці, увабраць (калькаваньне расійскае прыстаўкі “во” як “ува”) | Уход, вайсьці, убраць (рас. впитать, вобрать) |
| -ін -бн -яс | Уводзіны | Уступ<br>Перадмова<br>Ад укладніка ([укладцы], выдаўца) |
| -ін -бн -яс | Угамоньваць, угаманіся (словаўтв.) | Угамоўваць, угамуйся |
| | Удзельнічанне<br><br>рас. во время участия - падчас удзелу<br>рас. поучаствовав - узяўшы ўдзел | Удзел, удзельніцтва |
| | Удзельнічаць<br><br>рас. участвует в состязании - мае ўдзел у супарстве/супараваньні | Браць/мець удзел |
| | Узаемадзейнічаць | Узаемадзеяць<br>Інтэра(кт/ґ)аваць<br>Стасавацца |
| -ін бн -яс | Узаемасувязь | Зьвязак, повязь, павязанасьць, |

| | | |
|---|---|---|
| | | зьвязанасьць<br>Стасунак<br>Карэляцыя |
| -ін -бн -яс | Уздзейнічанне (словаўтв.) | Уплыў |
| -ін -бн -яс | Уздзейнічаць (словаўтв.) | Дзеяць<br>Уплываць, надаваць уплыў<br>Закранаць (закратваць) |
| | Узровень (словаўтв.) | Ровень<br>Межань |
| -ін ?бн -яс | Уключацца (дадавацца) | Улучацца<br>Дадавацца |
| -ін ?бн -яс | Уключаць (дадаваць) | Улучаць<br>Дадаваць |
| -ін ?бн -яс | Уключаць (мець) | Улучаць<br>Мець |
| -ін -бн -яс | Уключаць (нп. ваду, сьвятло, кампутар і гд.) | Улучаць<br>Запускаць |
| -ін -бн -яс | Уключэнне (дадаваньне) | Улучэньне<br>Запуск, [запусьценьне] |
| | Умяшанне<br>Умешванне | Утручэньне<br>Утручаньне |
| -ін -бн -яс | Унушальны | Самавіты, саст. асамісты (ад слова “сам”, рас. солидный, видный, осанистый, состоятельный)<br>Грунтоўны (рас. основательный)<br>Спаважны, паважны<br>Сталы<br>Сур’ёзны<br>Буйны |
| -ін -бн -яс | Унушаць<br><br>Уражаць камусьці пэўныя думкі і пачуцьці<br>Яму намовілі і ён верыць<br>Выклікаць у кагосьці пэўныя думкі і пачуцьці<br>Убіваць камусьці штосьці ў галаву<br>Усяліць/намовіць/уразіць пачуцьцё віны<br>Усяліць страх - анг. instill fear | Уражаць, *каму*<br>Намаўляць, умаўляць, *каму*<br>Выклікаць, *у каго што*<br>Усяляць, каму<br>Убіваць, *ува што* (рас. вдалбливать)<br>Пераконваць |
| | Унясенне (словаўтв.) | Унёс, унёсак, унесеньне (зьява)<br>Уношаньне (працэс) |
| | Упакоўшчык | Пакавальнік |
| | Упустую, ухаластую | Марна<br>Дарэмна, дарма (ад “дар”, блізка да рас. даром) |

| | | |
|---|---|---|
| | Урадавы (нац.) | Урадовы (націск як у “прамысловы, чарговы, адмысловы” і гд.) |
| -ін -бн -яс | Уразацца | Стукацца<br>Убівацца<br>Угрохвацца<br>Убухвацца (зак. убухацца)<br>Усякацца (зак. усячыся)<br>Ударацца<br>Уцінацца, выцінацца (зак. утнуцца, вытнуцца)<br>Умінацца (з. умяцца) |
| -ін -бн -яс | Уразаць (рас. врезать) | Стукаць<br>Угрохваць<br>Біць<br>Сячы, усякаць<br>Ударыць<br>Цяць, уцінаць, выцінаць, *каго, што*<br>Умінаць (ад "мяць", таксама значыць "многа браць у рот і есьці" - "умяў усю булку за раз") |
| -ін -бн -яс | Урач | Лекар, лекарка<br>Доктар, доктарка<br>Медык, медычка |
| | Урачэбны (словаўтв.) | Лекарскі<br>Доктарскі<br>Медычны |
| -ін -бн -яс | Урод (пра чалавека) | Вырадак, вырад |
| -ін -бн -яс | Уродлівы (непрыгожы. “Уродлівы” = “прыгожы”) | Выродлівы |
| -ін -бн -яс | Урок (занятак. Урок - рас. сглаз, ад слова “урочыць”) | Занятак |
| -ін -бн -яс | Урок (перан. значаньне)<br><br>рас. это тебе урок - гэта табе навука/досьвед<br>рас. преподать урок - навуку падаць, задаць, даць навуку, паказаць навуку | Навука, навучэньне (ад “навучыць”)<br>Досьвед, дасьведчаньне<br>Практыка |
| -ін -бн -яс | Урон (у рас. мове ад “уронить”)<br><br>Няснoсныя крыўды чыніць пачалі | Шкода<br>Страта<br>Крыўда (ад “крывы”)<br>Протар (дзеяс. пратараць - рас. протаптывать, вынимать, убирать, пробивать, напрыклад, “пратарыць сьнег, корак у |

| | | |
|---|---|---|
| | | праходзе”)<br>Вуйма, [адойма] |
| | Урочышча (урочышча = урок, рас. сглаз) | Лепш: угамонішча |
| -ін -бн -яс | Уручную | Ручна, уласнаруч<br>Сваймі рукамі<br>Сам, сама, самому, самое |
| | Усталёўка (словаўтв.) | Усталяваньне (зьява)<br>Усталёўваньне (працэс) |
| -ін -бн -яс | Устройваць (на працу) | Ладкаваць, уладкоўваць |
| -ін -бн -яс | Устройваць (рабіць)<br><br>рас. устроить бал - зладзіць/справіць баль | Ладзіць, наладжваць, зладжваць<br>Арганізаваць, зарганізоўваць<br>Чыніць, учыняць, вычыняць<br>Спраўляць<br>Рабіць, парабляць<br>Дзеяць, зьдзяйсьняць |
| -ін -бн -яс | Утрыманне (пра склад, зьмест чагось)<br><br>Зьмест бялкоў, тлушчоў і вугляводаў<br>Зьмест кнігі | Зьмест, зьмесьціва (анг. content, зьява, пол. zawartość, treść) |
| -ін -бн -яс | Утрымліваць (пра склад, зьмест чагось)<br><br>рас. содержать воду, жиры - зьмяшчаць ваду, тлушчы<br>рас. содержать информацию - зьмяшчаць інфармацыю/зьвесткі<br><br>рас. содержать животных - трымаць, утрымваць жывёл<br>рас. содержать в тюрьме - трымаць у вязьніцы<br>рас. содержать за свой счет - трымаць на свой кошт | Зьмяшчаць (пол. zawierać)<br>Мець<br><br>рас. содержащийся - які зьмяшчаецца<br>рас. помещенный - зьмешчаны, пакладзены |
| | Уцягнутасць (нац.) | Уцягнутасьць (ад “уцягнуць”) |
| -ін -бн -яс | Ушчыльную (словаўтв.) | Усутыч, насутыч<br>Усчырк<br>Упрытык<br>Шчыльна |
| -ін -бн -яс | Хапаць (быць дастатковым)<br><br>Чаго табе не стае | Ставаць, даставаць (зак. стаць, дастаць, аднак. да “(ня)стача”, “(не)дастатак”)<br>Ста(р)чыць (ста(р)чаць), |

| | | |
|---|---|---|
| | Наяўных (рас. имеющихся, а наличка - гатоўка) сродкаў выстарчыла для набыцьця купоўлі | выста(р)чаць (зак. ста(р)чыць, выста(р)чыць) - з літарай “р” заходні дыялект (аднак. да “пастачаць, дастарчаць” - дастаўляць) |
| | Хапаць: перахопліваць, схопліваць і гд. (словаўтв.1. Не захоўваецца каранёвая “а”. 2. Не захоўваецца націск ад зак. тр.) | Перахапляць, схапляць |
| -ін -бн -яс -эс | Хвалявацца, перажываць (турбавацца)<br><br>рас. не переживай/ волнуйся - не турбуйся, не нэрвуйся, не клапаціся<br><br>Пярэймы - рас. корчи, перехваты, схватки<br>Пайсьці на пярэймы - рас. пойти наперерез<br>Пераймаць - удаваць, рас. перенимать, подражать<br>Пераймацца - удавацца, рас. перенимать чьи-то черты (корчиться от боли), притворяться, переживать (с изменениями на лице) | Турбавацца (лац. turba - калыхаць, хістаць)<br>Трывожыцца<br>Непакоіцца<br>Нэрвавацца<br>Клапаціцца (турбавацца), клапатаць (дбаць, рас. хлопотать, заботиться, беспокоиться)<br>Пераймацца (рас. переживать с изменениями (корчами) на лице, назоўнік - пярэймы, рас. корчи, схватки, “пераемнік” ёсьць аднакаранёвы, рас. преемник, перехватчик)<br>Мітрэнжыцца (наз. - мітрэнга, рас. мигрень)<br>Мітусіцца<br>Бянтэжыцца (рас. смущаться, конфузиться, сбиваться с толку)<br>Дбаць, *пра каго* (анг. care)<br>Пячыся, запякацца (анг. care) |
| -ін -бн -яс | Хваляваць (турбаваць)<br><br>рас. меня не волнует - мяне не калыша - анг. doesn't bother<br>рас. в ус не дую - я не шманаю<br>рас. усом не веду - я ня дбаю<br>рас. мне все равно - мне усё адно<br>анг. didn't bother anyone - нікога не скалы(х)нула | Турбаваць (лац. turba - калыхаць, хістаць)<br>Калыхаць (анг. bother, зак. скалы(х)нуць)<br>Трывожыць<br>Непакоіць<br>Пераймаць (рас. перенимать, заполнять, занимать чувствами, назоўнік - пярэймы, рас. схватки, обременения)<br>Нэрваваць<br>Мітрэнжыць<br>Мітусіць (асаб., рас. болтать, мешать, тревожить, волновать, нарушать порядок, наводить суету)<br>Бянтэжыць (рас. смущать, |

| | | |
|---|---|---|
| | | сбивать с толку) |
| | Хвастом (нац.) | Хвостам |
| -ін -бн -яс | Хвацкі (наватвор)<br><br>*гл. яшчэ круты, чоткі, лоўкі, меткі, адменны* | Ліхі, заліхвацкі<br>Спрытны<br>Умелы<br>Выдатны<br>Удалы<br>Дыхтоўны<br>Спраўны<br>Ёмкі<br>Лучны |
| -ін -бн -яс | Хопіць (стоп)<br><br>рас. хватит с меня - годзе мне | Годзе (ад “год” - “час”, загадзьдзя = заўчасна, літаральна рас. “достаточно”)<br>Дастаткова, удосталь<br>Досыць<br>Даволі<br>Будзе<br>Стане<br>Выстарчыць (выстачыць) |
| -ін -бн -яс | Цесны (старабел.) | Вузкі<br>Сьціслы<br>Шчыгульны<br>Шчыльны<br>дыял. віц. Сьнічны<br>дыял. смал. Снадны |
| | Цэласны<br><br>Цэласнасьць | Цалковы, суцэльны, пол. цалкавіты<br><br>Цалковасьць, суцэльнасьць, пол. цалкавітасьць |
| -ін -бн -яс | Цюль | Фіранкі |
| -ін -бн -яс | Чай<br><br>рас. чайная ложка - мАлая лыжка, гарбатная лыжка<br>рас. заварить чай - запарыць гарбату | Гарбата |
| -ін -бн -яс | Чайнік | Імбрык (рас. чайник, заварник)<br>Кіпяцільнік<br>[Гарбатнік] |
| -ін -бн -яс | Чамадан | Валіза, валізка |
| -ін ?бн -яс | Чарговы (іншы, рас. очередной) | Іншы<br>Новы<br>Далейшы<br>Наступны<br>Яшчэ адзін |
| -ін -бн -яс | Чарцёж | Рысунак |

| | | |
|---|---|---|
| | | Выкрас (ад “выкрасьліць”)<br>Узор<br>Плян |
| -ін -бн -яс | Чарціць, зак. ачарціць | Рысаваць, зак. абрысаваць<br>Крэсьліць, зак. акрэсьліць |
| -ін -бн -яс | Чарчэнне | Рысунак (прадмет, нп. у школе)<br>Рысаваньне (працэс)<br>Крэсьленьне (красьленьне) (працэс) |
| | Часціца | Часціна |
| -ін -бн -яс | Чахол, футляр, расчахляць<br><br>рас. чехол-книжка - похва-кніжка<br>рас. чехол (двухсторонний) - похва<br>рас. чехол (односторонний) - насоў | Похва (ад “пахаваць”, для кінжала, закрыты для тэлефона і гд.)<br>Насоў (ад “насоўваць”, для коўдры, падушкі, бампэр для тэлефона і гд.), высоўваць<br>Навалка (навалачка), вывалакаць<br>Футарал (рас. футляр, ням. futteral)<br>Тэка, тэчка (з лац.) |
| -ін -бн -яс | Чаявыя | Гасьцінец<br>(грашовая) Падзяка, удзячнасьць<br>саст. Падзенькаваньне |
| | Чывы:<br><br>Уступчывы<br>Пераменчывы<br><br>Прыліпчывы<br>Запальчывы<br>І гд.<br><br>рас. чивый = лівы, ны<br>рас. ающий = альны (акт. дз.), ны (пас. дз.) (рас. прилипающий = прыліпальны, які прыліпае) | <br><br>Саступлівы, саступны<br>Адменлівы, адменны, зьменлівы, зьменны<br>Прыліплівы, прыліпны, ліпкі<br>Запальны, запальлівы<br><br>Канчатак "ць" у беларускае пераходзіць у "ль" ("лівы", "льны"), "н" ("нік" -> “нічы”), у расійскае "ть" часьцей у "ч" ("чик"), "щ" ("ющий"), "ть" ("тель(ный)"), “ц”<br><br>Уступчивый - саступлівы<br>Прилипающий - прыліпальны<br>Перевозчик - перавозьнік<br>Спасатель - ратаўнік<br>Спасательный - ратаўнічы<br>Спасающий - ратавальны<br>Учитель - настаўнік<br>Частица - часьціна<br>Притворяющийся - удаваны<br>Притворившийся - уданы |
| | ЧЫК суфікс: | |

| | | |
|---|---|---|
| | Перакладчык<br>Заказчык<br>Падпісчык<br>Прадаўшчык<br>Прадаўшчыца<br>Блакіроўшчык<br>Датчык | Перакладнік<br>Замоўца, замоўнік<br>Падпісант, падпісьнік<br>Прадаўнік, прадавец<br>Прадаўніца, прадавачка<br>Блакавальнік<br>Чуйнік, сэнсар |
| -ін -бн -яс | Чыноўнік | Ураднік, урадовец<br>Службовец |
| | Чэл (трас. словаўтв.) | Чол<br>Тып<br>Хлопча (клічная адмена), хлапчук |
| -ін -бн -яс | Шакалад | Чакаляда |
| -ін -бн -яс | Шакаладны | Чакалядовы |
| | Шлюха (рас. шляться - шлындаць) | Шлында<br>Самадайка<br>Прасталытка |
| | Шмат (многа) (неал.) (шмат, шматок = кавалак) | Многа, мно[г]ства (ад “многа” + ств, але “г” выпала)<br>Лічна (рас. (много)численно)<br>Багата<br>саст. Сута<br><br>Значна<br>Дужа (моцна) |
| -ін -бн -яс | Шмат- (першая частка складаных словаў, напрыклад, шматзначны) | Многа- (многазначны) |
| -ін -бн -яс | Шматлікі | Лічны |
| | Штат<br><br>анг. United States of America - Зьяднаныя Станы Амэрыкі, uno - адзін, united - зьяднаны (нарк. Спалучаныя Штаты Амерыкі) | Стан (анг. state)<br><br>Таму Казахстан, а не Казахштат |
| | Штодзённа, штомесячна | Лепш: штодзень, штомесяц |
| -ін -бн -яс | Шторы<br><br>рас. занавесить шторы - зашморгнуць гардзіны (шморгаць - рас. шморгать, издавать звук *шморг*) | Гардзіны |
| | Штрых | Рыса, рыхт (аднак. да рас. “штрих” зь ням. мовы) |

| | | |
|---|---|---|
| | | Чырк (раптоўнае дзеяньне, напрыклад, чырканьне запалкаю) |
| | Штурхаць, заштурхоўваць, штурхнуць, заштурхнуць, наштурхнуць (словаўтв. нац.) | Штурхаць, заштурхваць, штурхнуць (і штурх**а**нуць), заштурхаць (заштурхнуць), наштурхнуць<br>Піхаць, пхаць<br>саст. Каўхаць (зак. каўхануць, “коўх” - рас. толчок)<br><br>Турыць (гнаць, зак. турнуць)<br>Поркаць (шахерыць, шныпарыць, штурхаць, шукаючы, рас. шарить, рыскать) |
| -ін -бн -яс | Штуршок | Штурхель (мн. штурхялі), штурханец<br>Піх, пам.-ласк. пішак<br>Выспятак (пятой)<br>саст. Каўхень, коўх<br><br>Порка, порканьне (шуканьне, штурхаючы) |
| | Ядзерны (словаўтв.)<br><br>У расійскае ў корані пры словаўтварэньні можа зьяўляцца галосны, у беларускае - не, “ядро” - “ядЕрный”. Чаму так? Бо ў расійскае найчасьцей прыметнік утвараецца з дапамогаю суфікса “н”, а ў беларускае й “н” і “ов”, калі з “н” не ўдаецца, то будзе “ов”, як з “ядровы” | Ядровы (ад ядро + суфікс “ов”, націск захоўваецца) |
| | Як максымум | Як найболей<br>Ня больш за |
| | Як мінімум, па меншай меры, па крайняй меры, мінімум<br><br>рас. по крайней мере не вредный — прынамсі не завадны/вадлівы/шкодны | Як найменей, ня менш за<br>Прынамсі, прынаймней (ад “пры + най + меней”) |
| | Як правіла | Зазвычай, звычайна |
| -ін -бн -яс | Яркі | Яскравы<br>Зыркі (асьляпляльны) |
| -ін -бн -яс | Ярлык | Цэтлік<br>Бірка (у адзеньні) |

| | | |
|---|---|---|
| -ін -бн -яс | Ярус | Паверх<br>Пятра (пол. piętro, аднак. да “петрыць", лац. penetrare, анг. penetrate) |
| | Яўка (словаўтв.) | Наяўнасьць, яўля (ява), зьявеньне, аб’явеньне (зьява)<br>Зьяўляньне, аб'яўляньне (працэс)<br>Бытнасьць, быцьцё, прыбыцьцё (зьява)<br>Прыбываньне (працэс) |

Тут ня ёсьць дададзеныя словы такога кшталту:

- хоць і ня ёсьць у несавецкіх слоўніках (скалькаваліся з расійскае), але ўважаюцца зразумелымі, правільна ўтворанымі і прыжытымі ці гуткарковымі (разьбірацца)
- словы, што хоць і не ўжываліся ў чыстае жывое мове, але ёсьць правільна ўтвораныя ад іншых словаў (супаставіць - прымеркаваць, стагодзьдзе - век)
- выразы (аказваць уплыў, у гонар)
- размоўныя словы й выславы з расійскае мовы (па тыпе, падкатваць)
- калькаванае словаўтварэньне (цяпер: абачлівы - рас. осмотрительный, раней такога слова не было, а рас. осмотрительный было “бачны” ці “бачлівы”. Слова “абачвацца” няма, ёсьць толькі “аглядацца”)
- некаторыя запазычаньні з расійскае мовы (провад - дрот, халадзільнік - лядоўня, кнопка ў інтэрфэйсе - гузік, прысьціўка, правільны - слушны, праўдзівы, існы, рэгулярны, няправільны - хібны, памылковы, непраўдзівы, нерэгулярны, машына - аўта, непаладка - нелад, няладзіца, завада)
- штучныя словы, што былі створаныя вылучна для беларускае мовы, а не скалькаваліся з расійскае
- штучныя словы, што нямоцна розьняцца ад аўтэнтыка лексычна (відавочны - “відаць вачам”, ачавісты - “ачам відаць”)
- штучныя словы, што нямоцна розьняцца ад аўтэнтыка сэнсава (раней маґазын = склад, рэзервуар, сьвіран для збожжа, цяпер магазін - крама)
- кніжныя (з рэдкімі выняткамі, выпраменьваць - вылучаць, разнастайны - розны, разнародны, размаіты, відавочца - сьведка)

- іншаземныя, якія, хоць і не казалі раней, але запазычыліся (скапіяваліся) з заходніх моваў праз расійскую (спецыяльны, апетыт, бутэрброд)
- словы, што ёсьць скапіяваныя з расійскае і ўтвораныя ад няісных словаў у беларускае, але ёсьць у іншых славянскіх (у тым ліку заходне-) мовах (створка - дзьверцы, затвор - засаўка, замок, брама. рас. “отворять, затворять” - адчыняць, зачыняць)
- “Інтэрславянізмы” - словы, якія былі рэдкімі ў беларускае, але ёсьць у іншых мовах, напрыклад, адначасна ў расійскае й польскае (мудры, крэпкі, удар)

Але многа з гэтага ёсьць ніжэй у артыкуле “Трасянка”.

За час работы над слоўнікам выявіліся некаторыя патэрны калькаванасьці слова, напрыклад:

- (!) амаль усе словы, што канчаюцца на “нічаць” - штучныя (дзейнічаць - дзеяць, [бяздзейнічаць] - бязьдзеяць, не чыніць, спаборнічаць - супараваць, прысутнічаць - быць (у наяўнасьці), адсутнічаць - ня быць, удзельнічаць - браць/мець удзел, амурнічаць - заляцацца, скнарнічаць - скнарыць і гд.). Такое словаўтварэньне болей распаўсюджана ў расійскае мове: штукарыць - фокусничать, сваволіць - своевольничать. Наведайце slounik.org, упішыце ў радок “*нічаць” і ўбачыце там багата калек. Часам такое словаўтварэньне сустракаецца ў беларускае, але часьцей у гутарковае мове і яно ўжываецца з словамі, што канчаюцца на “нік”: злосьнік - злосьнічаць, драпежнік - драпежнічаць. Але, напрыклад, “дармаеднічаць” утворана хібна, бо няма слова “дармаеднік”, гэта ўжо вылучна расійскамоўнае словаўтварэньне (дармоедничать). Адна рэч, калі дадаеш “аць”, а іншая, калі “нічаць” (нік + аць). Бо дадацьцё “аць” пры словаўтвараньні — гэта звыклая практыка ў беларускае мове: дакор - дакараць. **Як замяніць такія калькі?** Апрача разоў, калі трэба цалкам адмяніць слова, часам давядзецца сказаць у 2 словы: агароднічаць - займацца агародніцтвам, дармаеднічаць - быць дармаедам, паклёпнічаць - узводзіць паклёп, крывадушнічаць - крывіць душою, велікоднічаць - сьвяткаваць Вялікдзень. Або зьмяніць словаўтварэньне: паклёпнічаць - кляпаць, крывадушнічаць - крывадушыць, дармаеднічаць - дармаедзіць, велікоднічаць - велікодніць і гд. Або замяніць на іншае слова: паклёпнічаць - звадзіць, падарожнічаць - вандраваць.

- складаныя словы з коранем “шмат” (шматстайны - разнародны, шматлікі - лічны, шматзначны - мнагазначны і гд.). “Шмат” азначае “кавалак” (як і “шматок”) і пачало выкарыстоўвацца як цалковая замена расійскага “много” ў 20 ст. расійскамоўнай інтэлігенцыяй, што размаўлялі па-беларуску як замежнай мовай (дагэтуль не выкарыстоўвалася ў жывое мове ў складаных словах)

- неалагізмы, што канчаюцца на “іны” й ня маюць адзіночнага ліку (абставіны, адносіны, уводзіны - уступ, паводзіны і гд.). Такое словаўтварэньне выкарыстоўваецца ў гутарковае мове (народзіны, агледзіны)

- усе словы на -чык (перакладчык, укладчык). 95% з іх - штучныя, 5% - усходнія дыялектызмы. Па-беларуску выкарыстоўваецца суфікс “нік” (показчик - паказьнік) і іншыя замест “чык”. Нават у Віцебскае гаворцы выкарыстоўваўся суфікс “нік”, а не “чык” водле Віцебскага Краёвага Слоўніка Касьпяровіча, 1927 г.

- словы з прыстаўкай “прад” (прадказваць - прараkаць, прад’яўляць - зьяўляць, прадбачыць - прагадаць, агадаць). Па-беларуску ёсьць толькі слова “перад” (ёсьць чаргаваньне зычных ды галосных). “Прад” - царкоўнаславянізм, скалькаваны з расійскае мовы, замест яго раней часьцей ужывалася “пра”, “у” і іншыя прыстаўкі. Часам можна разкалькаваць слова на ўзор: предзаказ - перадзамова, папярэдняя замова. Але некаторыя слова запазычыліся з такой прыстаўкай вельмі даўно (ёсьць у слоўніку Насовіча, напрыклад, “прадмова”, таксама “прадстаўнік” ня мае добрага адпаведніка). У слоўніку М. Гарэцкага багата такіх калек

- усе словы на "эбны" (напрыклад, "вучэбны", "служэбны") - калькі (калі гэта ня ёсьць частка кораню, як у "патрэбны", "срэбны", а частка словаўтварэньня)

- прыметнікі, што канчаюцца на “ы” (у муж. родзе) і маюць націск на апошні склад ёсьць альбо калькамі (прамы - просты), або памылкамі ў націску (нямы - немы, удалЫ - удАлы). У беларускае мове націскі ў такіх словах не стаяць на канчатку. Гэта калькаваньні з расійскае мовы словаў, што канчаюцца на “ой”: немОй - нямы (немы), прямОй - прамы (просты), удалОй - удалЫ (удАлы) і гд. Але у расійскае мове, калі канчатак “ый”, націск на ім не стаіць таксама (удАлый). “СтарЫ”, “буйнЫ” таксама ёсьць памылкамі

- усе словы на ‘ём (прыём, аб’ём і гд.) маюць скалькаванае словаўтварэньне

- усе назоўнікі замест якіх выкарыстоўваюцца прыметнікі (набярэжная - узьбярэжжа), ці прыслоўі, якія ўтвораныя ад прыметнікаў (уручную - ручна, ушчыльную - усутыч, усчырк, шчыльна)

- прыслоўі з колькіх словаў (напрыклад, "в упор"). У беларускае прыслоўі складваюцца з 1 слова (нават калі гэта 2 словы ў вадным)

- словы, што канчаюцца на "оўка" (трэноўка і гд.), што ўтвораныя ад дзеясловаў, што ня маюць націску на "оў", трэнаваць (не трэноўваць) - трэноўка. А вось занатоўваць - занатоўка утворана правільна, бо пад націскам. Правільна: трэнаваць - трэнаваньне, занатоўваць - занатоўка, занатаваць - занатаваньне

- усе словы з прыстаўкай са- (састаўны, сабраць, садраць і гд.). У беларускае мове гэта прыстаўка рэдкая, часьцей будуць "з" і "с": складовы, зьберці, зьдзерці

Іншыя патэрны глядзіце ў артыкуле "Трасянка" ніжэй.

Дадатковыя згадкі:

1. Слоўнікі на verbum.by (зьмяшчае ў тым ліку слоўнік старабеларускае мовы).
2. @BelazarBot тэлеграм-перакладнік (не беззаганны, зьмяшчае багата наватвораў і памылак у словаўтварэньні ад Пацюпы, але гаднейшы за G. translate, для яго "лякаць" літаратурнае, а ўжо "зьлякнуць" дыялектнае).
3. Слоўнікі на bydialects.org.
4. knihi.com, літаратура да 1933-га года ("перыёдыка" і "архівы").
5. Internet Archive (мова: беларуская).
6. Гістарычны слоўнік беларускае мовы.
7. Слоўнікі на slounik.org.
8. Віцебскі краёвы слоўнік Касьпяровіча, 1927 г.
9. Слоўнік Вацлава Ластоўскага, 1924 г.
10. Пацюпа Ю. В. "Свой лад", 2003; © Пацюпа Ю. В., 2008 (толькі пачаў карыстаць).

Часам выкарыстоўваліся й іншыя матар'ялы, але яны не спамінаюцца праз іх вельмі нізкую якасьць і аманлівую натуру (адным з такіх ёсьць праца спадара А. М.).

Глядзіце яшчэ: Інтэрнэтна-тэхнічны слоўнічак Сынонімы

## “Трасянка”. Найчасьцейшыя памылкі, літаральныя пераклады і калькаваньне словаў і словаўтварэньня

Тут пазначаныя найчасьцейшыя (вольным парадкам) памылкі ў беларускае мове, гэтаксама й гутарковай, гэтаксама й словаўтваральныя. Найчасьцей яны вынікаюць зь літаральнага перакладу з расійскае мовы. Большасьць памылак ёсьць у савецкіх і сучасных слоўніках. Высновы, што ўважаць памылкамі, зробленыя на падставе аналізу нерасііфікаваных крыніцаў беларускіх тэкстаў і часам ёсьць асабістым меркаваньнем. Многа чаго з гэтай інфармацыі не адпавядае сучаснае афіцыйнае норме мовы (бо яна была моцна зьменена і расііфікавана), стаўцеся да інфармацыі, як вам хочацца.

| **Памылка (трасянка)** | **Выправеньне** |
| --- | --- |
| Падвоеныя выразы, што калькуюцца з расійскае мовы | |
| Ідзе ўсталёўка праграмы | Праграма ўсталёўваецца |
| Весьці працу, бой, перамовы, размову | Працаваць (мець працу), ваяваць (мець бой), дамаўляцца (мець перамову), размаўляць (мець размову) |
| Вядзеньне працы, бою, перамоваў, размовы | Праца, бой, перамовы, размова |
| Весьці працу, бой, перамову, размову | Працаваць, ваяваць, дамаўляцца, размаўляць |
| Навука вядзеньня бою | Навука бою |
| Праца, бой, перамова, размова вядзецца | Праца, бой, перамова, размова трывае |
| Завесьці сябра | Пасябраваць, знайсьці/здабыць/займець сябра |
| Завесьці шмат сяброў | Займець/знайсьці/здабыць многа сяброў |
| Чытаць рэп | Рэпаваць |
| Скалькаваныя нелагічныя выразы з расійскае мовы | |
| Аўтобус прыйшоў | Аўтобус прыехаў/прыбыў |
| Пасылка прыйшла | Пасылка прыбыла |

| | |
|---|---|
| Дождж ідзе | Дождж лье |
| Фільм выйшаў | Фільм зьявіўся |
| Кніга выйшла | Кніга зьявілася/выдалася |
| Слоўнік налічвае (словаў) | Слоўнік мае/зьмяшчае |
| Прыбягаць да дапамогі | Прасіць/вымагаць дапамогі<br>Карыстацца |
| Заводзіць жывёлаў | Здабываць жывёлаў |
| Гэта дзікая жывёла тут ня водзіцца | Гэта дзікая жывёла тут не бытуе |
| Дзікі водзяцца ў лясох | Дзікі бытуюць ў лясох |
| Нясе пазнавальны характар | Мае пазнавальны характар |
| Калькаваньне расійскага “получаться” (дубль) | |
| Атрымлівацца (анг. succeed) | Удавацца/выхадзіць/патрапляць |
| У мяне атрымалася (анг. succeed) зрабіць гэта | Мне ўдалося/выйшла зрабіць гэта<br>Я патрапіў зрабіць гэта |
| Атрымліваецца (анг. so, that means), што… | Выходзіць/значыць/значыцца, што… |
| Атрымліваецца (анг. turns out), што… | Выяўляецца/высьвятляецца/<br>выходзіць/стаецца, што… |
| Як так атрымалася, што | Як так выйшла/сталася, што… |
| Атрымалася (анг. worked out) добра | Выйшла/удалося добра |
| Калькаваньне канчаткаў -чны замест -льны | |
| Укладачны | Укладальны (укладны) |
| Уборачны | Прыбіральны (прыборны) |
| Выкарыстаньне дзеепрыслоўяў замест назоўнікаў<br><br>Калькуюцца з расійскай, але некаторыя не скалькаваліся, напрыклад “служащий” скалькавалі як “служачы”, а “действующий” не скалькавалі “дзейнічаючы”, а пакінулі “дзейны”, такім чынам, нават у савецкім стандарце няма цалковага калькаваньня і пасьлядоўнасьці. Словы, што канчаюцца на “чы” (дзеепрыслоўі) адказваюць на пытаньне не “які”, а “што робячы” | |
| Пачынаючы | Пачаткоўца, пачатковец |

| | |
|---|---|
| Веруючы | Вернік |
| Жадаючы | Ахвотнік |
| Служачы | Службовец, урадовец,ураднік |
| Выкарыстаньне дзеяпрыслоўяў замест складаназалежных сказаў ці прыметнікаў | |
| Чалавек, пачынаючы новую працу | Чалавек, які/што пачынае новую працу |
| Чалавек, веруючы ў цуды | Чалавек, які/што верыць ў цуды |
| Чалавек, жадаючы большага | Чалавек, які/што жадае большага |
| Той чалавек, ідучы да крамы | Той чалавек, што/каторы ідзе да крамы |
| Выкарыстаньне дзеяпрыслоўяў замест прыметнікаў | |
| Існуючы стандарт | Існы стандарт |
| Дзеючы | Дзейны |
| Выкарыстаньне расійскіх гутарковых і слэнгавых словаў | |
| Ты спаліўся | Ты выкрыўся (рас. разоблачился)/ цябе выкрылі |
| Адсылка на фільм (“адсылка” - калі штосьці адсылаюць, а “спасылка” - калі на штосьці спасылаюцца) | Спасылка на фільм/ згадка фільму |
| Пацан | Хлопец, дзяцюк, малец |
| Падкатваць | Заляцацца (да), рабіць залёты |
| Падставіць (’падставіць’ значыць рас. подвергнуть, нп. “падставіць пад небясьпеку) | Здрадзіць |
| Прам | Нават, аж, ажно, запраўды, нібы, вельмі, няўжо |
| Прам ты ня ведаў | Нібы/няўжо ты ня ведаў |
| Прам вельмі падабаецца фільм | Аж/ажно/нават вельмі падабаецца фільм |
| Тыпу, тып, рас. типа | Накшталт, кшталту, нібы(та), як (анг. like, рас. тип) |

| | |
|---|---|
| Тыпу такога | Такога кшталту, накшталт гэтага |
| Заброшка | Занядбан, занядбанак, забыткоўка (ад слова “забытковы”) |
| Па тыпе гэтага (ага, “па тыпу” - гэта хібны канчатак увогуле) | Накшталт гэтага<br>На гэты ўзор |
| Што за дзіч | Што за лухта |
| Нясьці дзіч | Верзьці лухту/хлусьню |
| Што ты нясеш | Што ты верзеш |
| Напічкаць | Напхаць, нашпігаваць, паўсоўваць, заштурхаць, зашпурляць |
| Хто тут такі намаляваўся | Хто тут такі выявіўся/зьявіўся |
| Праблема намалявалася | Праблема зьявілася |
| Праграма завісла | Праграма захрасла |
| Вісне | Храсьне (stuck, рас. застревает, застывает)<br>Марудзіць (рас. тормозит) |
| Якая лічба (месяца)? | Каторы дзень? Якая дата? |
| Зычэньне “не пераживаць” літаральна азначае “памры”. Заўважце як па-расійску кажуць “переживешь, все нормально”, а потым “не переживай” з адным значэньнем | |
| Мда | Ммм (ясна) |
| рас. ниче так (норм) | Ніштавата |
| рас. а ты шаришь | А ты цяміш/кеміш/петрыш |
| рас. приличный, прилично (прыстойны, але ў пераносным сэнсе) | Дастатковы, дастаткова, досыць<br>Вялікі, дужы, багата, многа |
| рас. ещё прилично идти | Яшчэ дастаткова ісьці |
| рас. блин | Блямба, курда |
| рас. мне не пофиг? | Я дбаю? Я шманаю? Мяне калыша? |
| рас. мне пофиг | Я ня дбаю, не шманаю, мне усё адно, мне да дупы, дарма (, што), мяне не калыша |

| | |
|---|---|
| рас. пофигист | Нядбайнік (ад “нядбайны”), нядбалец, нядбайла |
| рас. пофиг на | Ня дбаю аб, усё адно да, гэта мне (ёсьць) да дупы, дарма (, што) - у пачатку сказа, мяне гэта не калыша/турбуе |
| рас. пофиг | Няважна, усё адно, да дупы мне, не калыша мяне |
| рас. решить вопрос | Разьвязаць праблему |
| рас. обсудить вопрос | Абмеркаваць праблему |
| рас. уточнить вопрос | Задаць пытаньне<br>Высьветліць дэталі |
| Як пытаньне можна разьвязваць ці абмяркоўваць? Гэта не ёсьць сынонім да “праблема” | |
| рас. жоска | Люта (жорстка = рас. жестоко!) |
| рас. жесть | Лютасьць, жах |
| рас. жоский чел | Люты тып/чол (бо "чалавек" марфалагічна запісваецца як "чоловек", а рас. лоб - бел. чола) |
| рас. ерунда, ересь | Штука, дробязь, недарэчнасьць, лухта, глупства, дурнота |
| рас. забей | Занядбай (= ня дбай), *што, аб чым*<br>Забудзь |
| рас. как бы, вообще-то<br>рас. как бы, типо | Калі што<br>Нібыта |
| рас. пасхалка, отсылка | Згадка, спасылка, Велікоднае яйка |
| Па факце | Фактычна, напраўду, папраўдзе, запраўды |
| рас. ишь какой | Во які, глядзі які |
| рас. я в афиге | Я зьбянтэжаны, засмучаны, уражоны, у шоку |
| рас. забить (застолбить) | Замацаваць (за сабой), заняць |
| рас. шарить (разбираться) | Цяміць, кеміць, петрыць, панатрыць (панатраваць) |

| | |
|---|---|
| рас. шарить (искать) | Шахерыць, поркаць, шныпарыць (шныпаць) |
| Страдать фигнёй | Бавіцца, гуляць, бавіць час, забаўляцца |
| Калькаваньне расійскіх выразаў з “у” і прыметнікаў на месцы прыслоўяў | |
| У асноўным | Пераважна, збольшага, агулам, галоўна |
| Ведаю багата моваў, але *галоўна* размаўляю па-беларуску | |
| У прынцыпе (ня супер калька) | Агулам, увогуле, папросту, у гэтае сытуацыі, галоўным чынам |
| | |
| | |
| У сярэднім | Сярэдне |
| У пляне | З пункту гледжаньня/ боку, як |
| У гэтым пляне | З гэтага пункту гледжаньня |
| У пляне настаўніка ён добры | Як настаўнік ён добры |
| У якім пляне? | Што маеш на ўвазе?<br>Пра што ты? |
| Калькаваньне расійскага “за” замест “па”<br><br>“За” значыць штосьці аддаляецца і ты ідзеш за ім, “па” - значыць ідзеш з нейкай мэтай, каб штосьці здабыць | |
| Іду ў лес за грыбамі | Іду ў лес па грыбы<br>Іду ў грыбы |
| Іду да крамы за ежай | Іду да крамы па ежу |
| Калькаваньне расійскага “в качестве” | |
| У якасьці (тое самае што “in quality” - ня мае сэнсу) | - (творная адмена), як, на месцы, для |
| Працаваць у якасьці настаўніка | Працаваць настаўнікам |
| У якасьці настаўніка ён добры | Як настаўнік ён добры |
| Калькаваньне прыназоўніка “па” з расійскае мовы замест іншых ці зьмены адмены | |

Беларускі прыназоўнік “па” мае 3 значэньні:
1. Уздоўж паверхні, над. Па дарозе, сцежцы
2. Пасьля. Па заканчэньні вайны
3. Ісьці па штосьці. Іду ў лес па грыбы. Іду да крамы па куплі

| Пытаньне па | Пытаньне наконт/пра |
|---|---|
| Па пытаньні<br>Па пытаньнях | Наконт пытаньня, у пытаньні<br>У пытаньнях |
| Заняткі па матэматыцы | Заняткі (чаго) матэматыкі/ (чым) матэматыкай |
| Што задалі па матэматыцы | Што задалі ў/на матэматыцы |
| Артыкул па бел. мове | Артыкул пра бел. мову |
| Па прычыне | З прычыны/нагоды, на падставе |
| Адзіная прычына, па якой я... | Адзіная прычына, праз каторую я…<br>Адзіны довад, для каторага я… |
| Па якой прычыне вы зрабілі гэта | Зь якой прычыны вы зрабілі гэта |
| Па той жа прычыне | З тае самае прычыны |
| Па просьбе | З просьбы, на просьбу |
| Па згодзе бакоў | З згоды бакоў |
| Па першаму ўражаньню | З першага уражаньня<br>Паводле перашага ўражаньня<br>Згодна з першым уражаньнем |
| Вядомы па сваёй ролі | Вядомы сваёй рольлю |
| Глядзець па тэлевізары | Глядзець у тэлевізары |
| Большы па памеры | Большы памерам |
| Па вашым запыце знайшлося | На ваш запыт знайшлося |
| Спытайце па тэлефоне/ па пошце | Спытайце праз тэлефон/ пошту |
| Адкажы па тэлефоне | Адкажы на/праз тэлефон |
| Зьвяртайцеся па тэлефоне/ па пошце | Зьвяртайцеся праз тэлефон/ праз пошту<br>Зьвяртайцеся на пошту |
| Па прынцыпах тэрмадынамікі | З прынцыпаў тэрмадынамікі |

| | |
|---|---|
| | (Па)водле прынцыпаў тэрмадынамікі<br>Згодна з прынцыпамі тэрмадынамікі |
| Па правілах | Паводле правілаў<br>Згодна з правіламі |
| Міністэрства па падатках | Міністэрства падаткаў |
| Па заслугах | Паводле заслугаў<br>Згодна з заслугамі |
| Па нагодзе (рас. по поводу) | Наконт, з нагоды |
| Па адрасе | На/у адрасе |
| Па ідэі | Тэарытычна, меркавана, хіба (ж), хіба што |
| Судзіць па | Судзіць/меркаваць паводле |
| Пошук па | Пошук у |
| Шукаць па словах | Шукаць паводле словаў<br>Шукаць з дапамогай словаў |
| Па магчымасьці | Пры магчымасьці<br>З магчымасьці |
| Аплікацыя па пошуку лекаў | Аплікацыя для пошуку лекаў |
| Відаць па табе | Лепш: ведаю то/гэта водле/паводле цябе |
| Па сабе ведаю | Ведаю з уласнага досьведу |
| Інфармацыя па праекце | Інфармацыя аб праекце |
| Напамінае па смаку | Напамінае смакам<br>Напамінае паводле смаку |
| Дадаваць па смаку | Дадаваць да смаку (“даспадобы”, напрыклад, таксама ўтвараецца з прыназоўнікам “да”, а не “паспадобе”, як у “по нраву”)<br>Дадаваць на (асабісты) густ |
| Па жаданьні | На жаданьне<br>З ахвоты |
| Па плошчы | Плошчай |
| Большы па плошчы | Большы плошчаю |

| | |
|---|---|
| Які ён па плошчы? | Якой ён плошчы?<br>Якую ён мае плошчу? |
| З 15-га па 25-ы дзень | Ад/з 15-га да 25-га |
| Спагнаньне па частках | Спагнаньне часткамі |
| Па прыкладзе, па ўзоры | На ўзор<br>Паводле прыкладу, на прыклад |
| Па звычцы | Са звычкі<br>Праз звычку |
| Адрозьнівацца па значэньні | Розьніцца ў значэньнях |
| Адрозьнівацца па прызнаку | Розьніцца азнакай |
| Гэта штосьці па… (наконт) | Гэта штосьці з |
| Што па коштах | Што з коштамі, што наконт коштаў, якія кошты |
| Што ў нас удома па прадуктах | Што ў нас дома з прадуктаў, з прадктамі |
| Па боку (не “по стороне”, а “по боку” - пофиг. “По стороне” - “па боку” будзе) | Аб бок (усё аб бок яму), адсюль “абібок” |
| Па неверагодных цэнах | За неймаверныя цэны |
| Купіць па зьніжцы | Купіць з зьніжкай |
| Памочнік па | Памочнік у/з<br><br>Памочнік з матэматыкай<br>Памочнік у матэматыцы |
| Адправіць па дамах | Паадсылаць усіх дадому<br>Адправадзіць (паадправаджаць) усіх у дамы |
| Удакладніць па<br><br>Удакладніце па вашых зваротах | Удакладніць наконт/аб/пра<br><br>Удакладніце наконт вашых зваротаў |
| Па бялку пераважае макарона | У бялку (паводле бялку) пераважае макарона |
| Калькаваньне прыназоўніка “па” (сталыя расійскія выразы) | |
| Судзіць па першаму погляду | Меркаваць паводле першага |

| | |
|---|---|
| | ўражаньня<br>Меркаваць з першага ўражаньня<br>Меркаваць ад першага погляду |
| Па сутнасьці | Фактычна, у існасьці (ісьце),<br>папраўдзе, напраўду |
| Па вашаму меркаваньню | На вашу думку, на ваш погляд |
| Па жыцьці | У жыцьці<br>Заўсёды, увесь час |
| Сам па сабе | Сам сабой<br>Сам<br>Такі |
| Ён сам па сабе неблагі тэлефон | Ён сам (сабой) неблагі тэлефон<br>Ён неблагі такі тэлефон |
| Не па сябе | Дрэнна, пагана, несамавіта |
| Як правільна перакладаць расійскае “па”? Напрыклад, хтосьці пытаецца як разьвязаць матэматычную праблему, а яму адказваюць па-расійску “давай по Лопиталю”. Трэба перакладаць не літаральна расійскі выраз, а СЭНС. У гэтым выразе сэнс такі: “давай пойдём по пути использования правила Лопиталя”. Тут ёсьць загадны лад (“давай”), які па-беларуску ўтвараецца інакш, а таксама прыназоўнік “па”. Як перакласьці на беларускую: хадзем шляхам Лапіталя, або разьвяжма (з) Лапіталем, або хадзем спосабам Лапіталя, або разьвяжма правілам Лапіталя. | |
| Па змаўчаньні | Моўчкі<br>Стандартна<br>З заводу |
| Налады па змаўчаньні | Стандартныя налады<br>Заводныя/завадовыя налады |
| Па чарзе | На зьмену, мяняючыся<br>Паводле чаргі |
| Гуляць па чарзе | Гуляць на зьмену |
| Па гэтай частцы | Да гэтага<br>Наконт гэтага<br>Стасуецца гэтага<br>На гэтае долі |
| Па яго частцы | На яго долі, яго работа |
| Гэта па частцы матэматыкі | Гэта стасуецца матэматыкі |
| Што па частцы гэтага | Што да гэтага, што наконт гэтага |

| | |
|---|---|
| Па памяці | На памяць, з памяці |
| Па маім меркам | Паводле маіх меркаваньняў/мерак |
| Па словах | З словаў<br>Паводле словаў |
| Па памылцы | Памылкова<br>Праз памылку (рас. из-за) |
| Па сетцы | Праз сетку |
| Выкарыстаньне прыназоўніка “на” і “у” замест іншых | |
| Публікаваць на канале | Публікаваць у канале |
| Падобны на | Падобны да |
| Размаўляць на беларускай мове | Размаўляць беларускай мовай<br>Размаўляць па-беларуску |
| Пісаць на 2 мовах | Пісаць дзьвюма мовамі |
| Я на працы | Я ў працы |
| Выкарыстаньне “у” з часам | |
| У 5 гадзін 33 хвілін | А 5 гадзіне 33яй хвіліны |
| Выкарыстаньне “у” замест “да”<br><br>“У” - калі вы ўжо там, “да” калі хочаце там апынуцца і апісваеце працэс траплянньня туды | |
| Ісьці ў школу | Ісьці да школы |
| Хачу ў туалет | Хачу да туалету |
| Выкарыстаньне “стаць” замест “стацца” з прыметнікамі і калі гаворка пра якасьць<br><br>Стаў - гэта калі няма нутраных зьменаў: гэты горад стаў сталіцай<br>Стаўся - калі ёсьць: горад стаўся прыгажэйшым<br><br>Дарэчы, у расійскае мове няма лёгікі: яны кажуць “я стал лучшим”, але “я становлюсь лучшим”, то бок у адным выразе ёсьць постфікс, у іншым няма | |
| Стаць лепшым | Стацца лепшым |
| Стаць прыгожым | Стацца прыгожым |
| Калькаваньне прыметнікаў на месцы назоўнікаў ці прыслоўяў і іншага | |

| | |
|---|---|
| | |
| | |
| | |
| | |
| | |
| | |
| | |
| | |
| | |
| | |
| | |
| | |
| <u>Калькаваньне расійскіх прыслоўяў утвораных ад прыметнікаў на месцы прыслоўяў</u><br><br>Параўнайце: рас. впервые - упершыню | |
| <u>Калькаваньне словаўтварэньня</u>. Калі слова ёсьць, але ад яго хібна ўтварылі іншае, альбо скалькавалі такое слова, якога раней ніхто не казаў у чыстае мове (нават, калі словаўтварэньне добрае) | |
| Набярэжны | Узьбярэжны |
| Паштальён | Паштар, паштавік |
| Цеплаізаляцыя | Ізаляцыя цеплыні, цяпельная ізаляцыя |
| Усур’ёз | Сэр’ё, на сэр’ё (з Насовічава слоўніку) |
| Здабыча | Здабытак, здабыцьцё (зьява і рэч)<br>Здабываньне (працэс) |
| Прыцягальны | Прываблівы<br>Пазорны |
| | |

<table>
<tr><td></td><td></td></tr>
<tr><td>Удачны (’удачны’ ўтворана ад ’удача’, а ’удача’ ад “удацца”. ’Удалы’ адразу ад ’удацца’)</td><td>Удалы<br>Шчасьлівы<br>Пасьпяховы</td></tr>
<tr><td>Маўчанка</td><td>Маўчалка (“ць” адмяняецца на суфікс “л” пры словаўтвараньні, напрыклад, лічыць - лічылка)</td></tr>
<tr><td>Двайны, трайны</td><td>Падвойны, патройны</td></tr>
<tr><td>Футляр</td><td>Футарал, похва, скрыня</td></tr>
<tr><td colspan="2">’Футарал’ - запазычаньне зь нямецкай (futteral), трапіла ў расійскую праз беларускую (ну, альбо тэлепартавалася адразу ў расійскую мінуючы Беларусь) и адмянілася там на "футляр", а потым скалькавалася камуністамі зноў у беларускую. Гэтак сама і з словам "маґазын". Гэта запазычаньне зь нямецкай (ням. magasin - бел. склад, рэзервуар) і азначала тое самае ў беларускай, было сынонімам да "сьвіран для збожжа", "рэзервуар у лямпе", або папросту "склад рэчаў на заводзе", у расійскай адмянілася на "магазин" і набыло значэньне "крама" і скалькавалася ў беларускую з гэтым значэньнем і напісаньнем камуністамі</td></tr>
<tr><td>Музыкант</td><td>Музыка</td></tr>
<tr><td colspan="2">“-шча” - усходне-дыялектнае словаўтварэньне. Такіх словаў у чыстае мове даволі мала</td></tr>
<tr><td colspan="2">Хібнае ўтварэньне зьяваў праз “абнуленьне”<br><br>Гэтак сама як рас. запах (утворана ад запахнуть) - пах<br><br>Як утвараюцца назоўнікі (зьява, факт) ад дзеясловаў:<br>Напрыклад, маем слова ’кіраваць’ у незакончаным трываньні. Можам ад яго ўтварыць ’кірунак’. Можам, дадаўшы прыстаўку, зрабіць закончанае трываньне, і будзе ‘накіраваць’. Ад яго можна ўтварыць ’накіраваньне’. Калька “накірунак” утворана цалкам хібна, бо, калі ўтвараць ад закончанага трываньня з прыстаўкай, канчацца будзе слова на “ньне”<br><br>Для ўтвараньня працэсаў трэба рабіць тое самае, але ўтвараць ад незакончанага трываньня, напрыклад, накіроўваць - накіроўваньне (нп. “накіроўваньне чалавека да мэтро), кіраваць - кіраваньне.</td></tr>
<tr><td colspan="2">Хібны пераклад значэньняў, калі слова ёсьць, але ня мае гэтых значэньняў у беларускай</td></tr>
<tr><td></td><td></td></tr>
<tr><td></td><td></td></tr>
</table>

| | |
|---|---|
| Прыступаць (’прыступаць’ азначае “уступаць”, напрыклад, “я не прыступлю табе гэтага”) | Распачынаць |
| Выдзяляць сінім колерам | Пазначаць/адзначаць/ падкрэсьліваць/вылучаць сінім колерам |
| Спісаньне (грошай) | Спагнаньне, зьняцьце |
| Твар | Асоба |
| Трызьненьне (калі хтосьці кажа бязглуздзіцу) | Лухта, брахня, хлусьня, бязглуздзіца, недарэчнасьць, бессэнсоўнасьць, глупства, бздура |
| Трызьніць (калі хтосьці кажа бязглуздзіцу) | Лухціць, брахаць, хлусіць |
| Пакуль | Бывай, да сустрэчы |
| Адкрываць, закрываць (калі ёсьць мэханізм адчыненьня/зачыненьня, напрыклад, ключы) | Адчыняць, адмыкаць, зачыняць, замыкаць<br>АЛЕ калі назаўсёды, то “закрыць”<br>Закрыць краму - больш не працуе<br>Закрыць сход - больш ня дзеіць, рас. завершить собрание<br><br>Закрыць пакой - папросту закрыць дзьверы<br>Зачыніць пакой - на ключ |
| Разьбірацца (‘разьбірацца’ азначае разьбіраць рэчы ў хаце пасьля нейкай паездкі). Нават калі й ужываць гэта слова, то трэба ўжываць у форме “разьбіраць” бо ён пераходны і актыўны, а яго ўжываюць як непераходны чамусьці. “Разабраць праблему” - “падзяліць праблему на часткі, каб прасьцей было разьвязаць”. А “разабрацца ў праблеме” гэты нібы вы ўнутры праблемы зайшлі і там сябе разабралі на часткі | Быць дасьведчаным<br>Быць спрактыкаваным, зналым<br>Вырашаць, кеміць, цяміць, петрыць, даразумявацца, панатрыць (панатраваць), аналізаваць, дасьледваць, вывучаць, даведвацца, высьвятляць, выяўляць, выясьняць, праясьняцца, спраўляцца, разьвязваць, цьвічыць, вучыць |
| Разабрацца ў праблеме | Разьвязаць праблему |
| Разьбярыся зь ім добра | Скажы яму, абцьвіч яго добранька, |

| | |
|---|---|
| | навучы яго |
| Ты ўжо разьбярыся | Ты ўжо выясьні<br>Ты ўжо выбяры<br>Ты ўжо вызначы |
| Разьбярыся ў сябе | Праясьніся |
| <u>Літаральны пераклад расійскіх сталых выразаў</u> | |
| Праводзіць час | Бавіць/мець час<br>Быць (дзесьці, за нечым) |
| Правёў час за камупатарам | Забавіў час за кампутарам (адсюль словы "забава", "забаўляцца")<br>Меў час за кампутарам<br>Прабыў за кампутарам |
| Дадзены момант (хто яго дае?) | Цяперашні момант, цяпер |
| Ва ўсіх адносінах | З кожнага пункту гледжаньня |
| У маральных адносінах | З маральнага пункту гледжаньня / боку |
| У гэтых адносінах гэта добрая рэч | З гэтага пункту гледжаньня гэта добрая рэч<br>З гэтага боку гэта добрая рэч |
| Вялікі дзякуй | Вельмі/шчыра/сардэчна дзякую<br>Вялікая падзяка |
| Скажы “дзякуй” за тое, што... | Падзякуй за тое, што<br>Будзь удзячным за тое, што… |
| “Дзякуй” ёсьць размоўная штучная форма, утвораная ад дзеяслова “дзякую” (з абнуленьнем апошняга гука “у”. Без слова “дзякую” “дзякуй” бы не існавала, яно ёсьць скарачэньнем) у адпаведнасьці з расійскім недзеясловам “спасибо”, што абвяшчае, але не выражае падзяку для выкарыстаньня ў такіх выразах , як:<br>“Дзякуй” на хлеб не намажаш<br>“Дзякуй” у кішэню не пакладзеш<br><br>“Дзякуй” толькі абвяшчае, можна сказаць, пераймае падзяку, але не выражае саму падзяку.<br><br>Казаць “дзякуй” замест дзеяслова “дзякаваць” ёсьць тое самае, што казаць “благодарность” замест “спасибо”, альбо “a thank” замест “thank you”. | |
| Як справы? (справа - вельмі афіцыйна) | Як ты? Як там? Што там? Што чуваць? Як маешся? Як пачуваешся? |
| У мяне ёсьць | Я маю |

| | |
|---|---|
| З задавальненьнем | Ахвотна, з радасьцю |
| Прыйсьці ў сябе | Апрытомнець, ачуняць, ачухацца, ачомацца, агойтацца |
| Быць у курсе | Ведаць, усьведамляць |
| Трымай у курсе | Трымай у веданьні/усьвядоменьні<br>Дзякую за ўдакладненьне/сказаньне |
| У першую чаргу, перадусім | Найперш, перш-наперш, найбольш, на першым месцы, першым чынам, першым разам, спачатку, сьпярша, насамперад |
| У сваю чаргу | Са свайго боку |
| У любым выпадку | Ва ўсялякім/усякім разе<br>У кожным разе |
| Прыемнага апетыту | Смачна есьці, смачнай ежы |
| У прыватнасьці (анг. in particular) | А менавіта, таксама, напрыклад, асабліва, у асаблівасьці, часткова, у тым ліку, для прыкладу, асобна, у асобнасьці, падрабязна, у падрабязнасьці, у часткoвасьці |
| Сьмешная калька. Праз тое, што рас. “частный бизнес” перакладаецца як “прыватны бізнэс, тут “частность” скалькавалі як “прыватнасць”. Па-расійску “в частности” кажуць, бо штосьці ёсьць малой часткай (складнікам, анг. part) агульнага, а “прыватнасць” не азначае гэтага | |
| Пры чым | Да таго (ж), разам з тым/гэтым |
| Пры чым я ня быў там | Да таго ж я там ня быў |
| Пры чым тут гэта | Да чаго тут гэта |
| Зь меркаваньняў бясьпекі | Дзеля бясьпекі |
| Сыходзячы з | Грунтуючыся на, паводле |
| За кошт гэтага (да чаго тут кошт?) | Дзякі гэтаму, з дапамогай гэтага, праз гэта (нэгатыўны сэнс) |
| За кошт гэтага я спазьніўся | Праз гэта я спазьніўся |
| Вельмі да месца | Вельмі да рэчы, вельмі дарэчна |

| | |
|---|---|
| Сэнс заключацца ў | Сэнс палягае ў (на) |
| Пры дапамозе | З дапамогай |
| Ты праўда ў гэта верыш? | Ты запраўды ў гэта верыш? |
| Паходзе дождж сёньня будзе | Хіба/відаць дождж сёньня будзе |
| Ты павінна быць жартуеш? | Ты хіба/мусіць жартуеш? |
| Што яно сабой уяўляе (па-расійску “представляет” выкарыстана не як “воображает” (уяўляе), а як “показывает/репрезентует” | Што яно такое<br>Чым/што яно ёсьць<br>Што яно сабой рэпрэзентуе<br>Хто ты такі (пра чалавека)<br><br>Азначаць<br>Паказваць |
| Сьмешная калька ад “представляет”, па-расійску гэта мае сэнс, бо “представлять” мае 2 значэньні: уяўляць (у галаве) і рэпрэзентаваць/паказваць, а “уяўляць” толькі адно з іх | |
| Сфэра (самое слова ёсьць, але мае геаметрычны сэнс) | Плынь, галіна |
| Эканамічная сфэра | Эканамічная галіна |
| Па аналогіі з | Адпаведна з, згодна з, на падставе |
| Судзячы/мяркуючы па ўсяму, паходзе (рас. походу, по ходу дела), рас. вроде бы | Відаць, імаверна, здаецца, паводле ўсяго, меркавана, хіба, хіба што |
| Прыватны выпадак | Асобны, асаблівы, спецыяльны выпадак |
| Зноў тая самая калька, што і з “у прыватнасці”. “Прыватны” гэта той, што ў прыватнасьці (хаваецца ад кагосьці, ці належыць прыватнай асобе). Па-расійску кажуць “частный случай”, бо гэты выпадак ёсьць часткай ад усіх выпадкаў | |
| У канцы канцоў | Урэшце, зрэшты, нарэшце<br>Канечна, пад канец<br>Наастачу |
| Driving Ключавы (ня супер-калька) | Грунтоўны, падставовы, каранёвы, галоўны, найважнейшы |
| З улікам гэтага | Разам з гэтым |
| У чым праблема/сэнс | Якая праблема/сэнс |

| | |
|---|---|
| У чым прыкол так рабіць | Што за радасьць/пацеха так рабіць<br>Якая радасьць/пацеха так рабіць |
| У карысьць каманды | На карысьць каманды |
| Для тваёй карысьці | На тваю карысьць |
| Мінімальны | Найменшы, наймалейшы |
| Максымальны | Найбольшы, найвялікшы |
| Усё роўна на | Усё адно да |
| У сувязі з | З нагоды/прычыны<br>На падставе, *чаго* |
| Стрымліваць словы | Датрымваць словы |
| Заключаць здзелку | Укладаць/складаць угоду/пагадненьне/дамову<br>Пагаджацца<br>Дамаўляцца |
| Судзіць сыходзячы з | Меркаваць паводле гэтага |
| Гаворка вядзецца | Гаворка ідзе<br>Ідзе (кароткая форма) |
| Тут гаворка вядзецца аб… | Тут ідзе аб… |
| Вясьці гаворку | Гаварыць, размаўляць, гутарыць |
| Вяду здаровы вобраз жыцьця | Захоўваю/трымаю здаровы лад жыцьця |
| Выйграць час | Набыць перавагу ў часе |
| Застацца пры сваім меркаваньні | Застацца з сваім меркаваньнем |
| Трымайся | Змагайся<br>Дужай |
| Мяне не хвалюе | Мяне не калыша |
| Гэта па-вашаму нармальна? | Гэта для вас нармальна? |
| Па-твойму гэта сьмешна? | Гэта для цябе (ёсьць) сьмешна? |
| Па-мойму гэта было інакш (ступень няўпэўненасьці) | Хіба гэта было інакш<br>Хіба што гэта было інакш |
| Я зраблю па-свойму/па-твойму | (нармальна) |

| | |
|---|---|
| Падагрэць інтарэс | Узбудзіць зацікаўленасьць<br>Заахвоціць |
| Хутчэй за ўсё | Імаверна, хіба, відаць |
| Якімі лёсамі (рас. какими судьбами) | Якім чынам<br>[На якое шчасьце] |
| Ня лёс (рас. не судьба) | Не наканавана<br>Ня выракавана<br>Не прызначана<br>Не прысуджана |
| Роўным лікам | Абсалютна<br>Цалкам |
| Увайсьці ў сутнасьць справы | Паглыбіцца ў справу<br>Увайсьці ў існасьць/істоту справы |
| У якасьці выбачэньняў (рас. в качестве извинений, тут адразу 2 розныя калькаваньні) | Каб папрасіць прабачэньне<br>Каб перапрасіць (нез. перапрашаць) |
| Гладзіць сабачка (гладзіць - рабіць гладкім) | Чухаць сабачка |
| Пры гэтым | Разам з гэтым |
| З мэтай | Дзеля |
| За выключэннем | З выняткам |
| рас. в конечном счете | Урэшцце |
| рас. на постоянку | Назаўсёды, на сталасьць |
| Калі сумленна | Калі шчыра |
| Большая карціна (bigger picture)<br>From the bigger picture | Шырэйшы/большы малюнак<br>З шырэйшага малюнку/ погляду |
| На кантрасьце | У кантрасьце з |
| рас. имеет место быть | Бывае, выпадае, здараецца<br>Магчыма |
| рас. решать (не) тебе | (Не) табе меркаваць |
| рас. на слово | На павер |
| рас. на спор | У заклад, у заставу |
| рас. спорим, что… | Кладземся, што… |

| | |
|---|---|
| | Ставімся, што… |
| рас. поспорили | Заклаліся<br>Заставіліся |
| рас. чтоб не сглазить | Няўрокам кажучы<br>Каб не сурочыць |
| рас. как ни в чем ни бывало | Як нічога не было |
| рас. в лицо (например, врать) | Аб вочы |
| рас. поздно метаться | Позна перамяркоўваць |
| рас. занавесить шторы/тюль | Зашморгнуць гардзіны/фіранкі |
| рас. бьет значит любит | Хто каго любіць, той таго й чубіць |
| рас. знаю тебя с пеленок | Ведаю цябе як аблупленага<br>(=абодранага, голага) |
| рас. род деятельности | Кшталт заняткаў |
| рас. полагать, предполагать | Выказваць думку/домысел<br>Гадаць, агадваць |
| | |
| рас. за неимением | Праз няменьне<br>З прычыны няменьня |
| рас. не твоего ума дело | Не тваёй галавы справа |
| рас. своими собственными глазами | На свае ўласныя вочы |
| рас. воочию | На вочы, на вачох |
| Супер-трасянка, калі словаў няма нават у сучасных слоўніках | |
| Састаяць | Належыць (да)<br>Быць |
| Састаяць у групе | Належаць да групы |
| Састаяць на ўліку | Стаяць на ўліку<br>Быць на ўліку<br>Лічыцца ў |
| Порціць | Псуць, псаваць (псуваць) |
| Прыўрочыць | Дапасаваць, прымеркаваць |

| | |
|---|---|
| Пытаюся | Намагаюся |
| Чэсны (чэсны/пачэсны - той, хто мае чэсьць/годнасьць, =годны, рас. достойный) | Сумленны, шчыры |
| Разіна | Гума |
| <u>Сучасныя тэрміны, што калькуюцца не з мовы крыніцы (ангельскай), а з расійскай</u> | |
| Пампаваць файл | Сьцягаць (сьцягваць), зацягаць (зацягваць) (у Linux карыстаюцца гэтым перакладам, а таксама яно ўжываецца ў чэскай, славацкай і польскай у гэтым значэньні) |
| Спампоўкі | Сьцягненьні, сьцяжкі |
| <u>Хібнае ўтварэньне загаднага ладу</u><br><br>Слова “давай” або прошлы час дзеяслова ў беларускай не ўтвараюць загаднага ладу! Калі ня ведаеце як утварыць, папросту ўжывайце будучы час<br><br>Па-беларуску загадны лад утвараецца з дапамогай дзеяслова 2 асобы (“што рабі”) + “ма”: спьявайма. Некаторыя словы маюць няправільную форму загаднага ладу: хадзем, бярэм-бяром (але могуць мець яшчэ й правільную: ходзьма). Калі баіцеся сказаць няправільна, папросту карыстайцеся будучым часам: пойдзем, засьпяваем. Таксама часта можна сказаць у 2 словы - хадзем + …: рас. давай погуляем - хадзем на шпацыр. Альбо “лепш” + … А таксама замяніць на “прапаную” | |
| Давай, ну давай | Хадзі (анг. go ahead) |
| Ну давайце | Ну хадзіце, ну ходзьма |
| Давайце я пакажу | Хадзем я пакажу<br>Лепш я пакажу |
| Давайце зробім гэта | Зробьма гэта |
| Давай сьпяваць | Сьпявайма |
| Паехалі, пагналі | Едзьма |
| Давай адбымацца | Абдымімася, абдымемся |
| Давай рабіць | Зрабіма (зробьма), робім (жа), хадзем зробім |

<table>
<tr><td>Давай адрэжам</td><td>Адрэжма</td></tr>
<tr><td>Давайце абмяжуем</td><td>Прапаную абмежаваць</td></tr>
<tr><td>Давай дапамагу</td><td>Дазволь дапамагчы</td></tr>
<tr><td colspan="2">Выкарыстаньне вінавальнай адмены замест роднай<br><br>Выснова зроблена на падставе аналізу тэкстаў да 1933 года. Правільна “чаго ты хочаш”, але напрыклад з залежным словам будзе “што”: “што ты хочаш зрабіць”, бо “што” цяпер стасуецца не да слова “хочаш”, а “зрабіць”. Бо мы ж кажам “я хачу кавы”, а не “я хачу кава”, тады чаму мы кажам “што хочаш” замест “чаго хочаш”. У слоўніку Насовіча і тэкстах да 1933 выкарыстоўваецца правільнае адмяненьне.<br><br>Казаць “што шукаеш” замест “чаго шукаеш” прыблізна тое самае, як казаць “хачу гэта” замест “хачу гэтага”. Але калі ёсьць залежнае слова, то будзе “што хочаш знайсьці” і “хачу гэта зьесьці”.<br><br>Вінавальная адмена выкраыстоўваецца, калі ёсьць актыўнае дзеяньне ў дачыненьні да прадмету: п’ю каву (тут вы зьмяняеце колькасьць кавы), а родная, калі пасыўная: няма кавы, шукаю кавы (тут вы нічога ня робіце з кавай, не зьмяняеце стан кавы).<br><br>Вучэньне, навучаньне матэматыкі р ад.<br>Вучыць матэматыку (самому) в. ад.<br>Вучыцца матэматыкі (самому) р. ад.<br>Вучыць матэматыкі (іншых) р. ад.</td></tr>
<tr><td>Прасіць дапамогу</td><td>Прасіць дапамогі<br>але: узычаць/зьяўляць дапамогу</td></tr>
<tr><td>Патрабаваць справядлівасьць</td><td>Патрабаваць справядлівасьці<br>але: чыніць справядлівасьць</td></tr>
<tr><td colspan="2">але: чыніць справядлівасьць (актыўнае дзеяньне)</td></tr>
<tr><td>Што шукаеш?</td><td>Чаго шукаеш?</td></tr>
<tr><td>Шукаю каву</td><td>Шукаю кавы</td></tr>
<tr><td>Што хочаш</td><td>Чаго хочаш (але: што хочаш зрабіць)</td></tr>
<tr><td>Што ты ад мяне хочаш</td><td>Чаго ты ад мяне хочаш</td></tr>
<tr><td colspan="2">але: што ты хочаш, каб я зрабіў</td></tr>
<tr><td>Не зразумеў пытаньне</td><td>Не зразумеў пытаньня</td></tr>
<tr><td>Хачу рэдбул</td><td>Хачу (чаго?) рэдбула (тут колькасьць рэдбула не зьмяняецца, пасыўнае</td></tr>
</table>

| | |
|---|---|
| | дзеяньне)<br>Але: хачу піць (што?) рэдбул (а тут зьмяняецца, актыўнае дзеяньне) |
| Хачу бургер | Хачу (чаго?) бургера, хачу зьесьці (што) бургер |
| Шукаю словы | Шукаю словаў |
| рас. узнаю/узнаю что-то новое | Даведваюся/даведаюся чагосьці новага |
| рас. делали по той причине, которую мы не знаем | Рабілі з тае прычыны, якой мы ня ведаем |
| рас. не знаю причину | Ня ведаю прычыны |
| Што я хацеў | Чаго я хацеў |
| Што я хацеў зрабіць | (норм) |
| Вымагаю зварот грошай | Вымагаю звароту грошай |
| Чакаю адказ | Чакаю адказу, але: мяняю адказ |
| Выкарыстаньне вінавальнай адмены замест роднай з нэгацыямі (адмаваеньнямі) | |
| Ня маю гарбату | Ня маю гарбаты |
| Не знайшоў варэнікі | Не знайшоў варэнікаў |
| Каб маглі туманіць ваш мозг | (тут норм) |
| Каб не маглі туманіць ваш мозг | Каб не маглі туманіць вашАГА мозгУ |
| “Мяняе націскі”, але “не мяняе націскаў” | |
| Не кажы лухту, бздуру | Не кажы лухты, бздуры |
| Дзе выкарыстоўваць канчатак "у", а дзе "а"<br><br>Канчатак "у" выкарыстоўваецца пераважна там, дзе сэнс ёсьць уяўным, гаворка йдзе не аб чымсьці фізычным ці пэўным. Канчатак "а" выкарыстоўваецца там, дзе сэнс ёсьць яўны, гаворка йдзе аб чымсьці фізычным ці пэўным | |
| Няма ўніверсытэту (установа адукацыі), дзе я б хацеў навучацца | |
| Стаю каля ўніверсытэта (будынак), чакаю цябе | |
| Калі жывеш у канцы гораду (усякі горад), трэба доўга дабірацца да цэнтру | |

| | |
|---|---|
| Я жыву ў канцы свайго горада (пэўны горад) | |
| Слова мае такое значэньне паводле слоўніку (як крыніца інфармацыі) | |
| Кніга ляжыць каля слоўніка (як прадмет) | |
| Стваральнікі слоўніку не дадалі гэта слова (слоўнік як крыніца інфармацыі, не як фізычны прадмет, нават калі гаворка йдзе аб пэўным слоўніку) | |
| | |
| | |
| | |
| | |
| | |
| | |
| | |
| | |
| Блытаньне ‘які’ (якасьць) і ‘каторы’ (спасылка на рэч)<br><br>Выразы:<br>“Той, каторы”<br>“Такі, які”<br><br>“Той, які” - памылка<br><br>- Які сабака?<br>- Прыгожы<br><br>- Каторы сабака?<br>- Каторы сядзіць каля паркану | |
| Тыя дамы, якія стаяць на цантральнай вуліцы | Тыя дамы, каторыя стаяць на цантральнай вуліцы |
| Блытаньне дзеяньня і выніку/зьявы/факту, калькуючы іх з расійскае. Вынік утвараецца ад закончанага трываньня, дзеяньне - ад незакончанага<br><br>Выкарыстаньне словаў на -цыя на месцы працэсу - расійскамоўная зьява, хоць гэтыя словы не абазначаюць працэсаў, а толькі зьявы. Напрыклад, “кантрыбуцыя” значыць “унёсак”, але не працэс “унясеньне”. Напрыклад, “значны ўнёсак у гісторыю”, але “уношаньне зьменаў у дакумэнт”<br><br>Для прыкладаў з працэсамі зручна выкарыстоўваць словы “падчас”, | |

| | |
|---|---|
| “адбываецца” і “пасьля/перад [працэс]”.<br><br>Параўнайце:<br>рас. привидение - прывід<br>рас. имение - маёнтак, маёмасьць<br>рас. отчаяние - адчай, роспач<br>рас. здание, строение - будынак, пабудова<br>рас. продолжение - працяг<br>рас. положение - стан, становішча<br>рас. дополнение - дадатак<br>рас. изобретение - вынаходка, вынаходства, вынаходніцтва | |
| Адбываецца здабыча/здабытак карысных выкапняў | Адбываецца здабываньне карысных выкапняў |
| Здабытак з паляваньня | (тут добра) |
| Адбываецца ацэнка маёмасьці | Адбываецца ацэньваньне маёмасьці |
| Адбываецца здымка фільму | Адбываецца здыманьне фільму |
| Падчас гульні ў шахматы | Падчас гуляньня ў шахматы |
| Там ідзе будаўніцтва дому | Там ідзе будаваньне дому |
| Падчас арганізацыі акцыі | Падчас арганізаваньня акцыі |
| Удзельнічаньне (няма такога слова, як і “дзейнічаньне”) ў конкурсе | Удзел / удзельніцтва у конкурсе |
| Ступень усмоктваньня пажыўных рэчываў | Ступень усмокту пажыўных рэчываў |
| Адбываецца абнаўляньне | (добра) |
| Зьявілася новае абнаўленьне | Зьявілася новае абнавеньне/абнова |
| Адбываецца рэалізацыя | Адбываецца рэалізаваньне |
| <u>Хібнае ўтвараньне працэсаў</u> | |
| Пабудаваньне дому | Будаваньне дому (бо ад незаконачанага трываньня - будаваць) |
| Накіраваньне чалавека да мэтро | Накіроўваньне чалавека да мэтро (бо ад незаконачанага трываньня - накіроўваць) |
| <u>Раз і выпадак</u> | |
| Ні ў якім выпадку | Ні ў якім разе |

| | |
|---|---|
| Ва ўсялякім выпадку | Ва ўсялякім разе |
| На ўсялякі выпадак | На ўсялякі раз (“усякі” значыць “кожны”, а “ўсялякі” - “адзін з многіх”) |
| У такім/гэтым выпадку | У такім/гэтым разе |
| У выпадку гэтага | У разе гэтага |
| Заўсёды казаць незакончанае трываньне з прыстаўкамі як у расійскай<br><br>Гэта не памылка, але няведаньне кароткіх формаў | |
| Адрозьніваць | Розьніць |
| Апранаць (апратваць) | Пратаць (=сунуць, дзець, перці/праць) |
| Запавольваць | Паволіць |
| Абараняць | Бараніць |
| Патрапляць | Трапіць |
| Заўсёды казаць “маленькі” замест “малы” (гэта не абавязкова) | |
| Маленькі каток | Малы каток |
| Выкарыстаньне “ж” замест/з “самы” як у расійскай<br><br>\`Самы\` часам адпавядае анг. very:<br>the very exact moment - той самы момант<br>the very beginning - самы пачатак<br>the very first encounter - самая першая сустрэча<br><br>Часьцінка “ж” дадае пацьвярджальны сэнс, напрыклад:<br>- якога ён колеру<br>- такога самага<br><br>- якога ён колеру<br>- такога самага ж! / такога ж самага!<br><br>Ня блытаць:<br>рас. также - таксама, гэтаксама<br>рас. так же (как и) - так сама, гэтак сама<br><br>Тоесамасьць - рас. тождество<br>Атаясаміць - рас. отождествить | |
| Такі ж, такі ж самы | Такі самы |

<table>
<tr><td>Столькі ж</td><td>Столькі сама</td></tr>
<tr><td>Так жа</td><td>Так сама, гэтак сама</td></tr>
<tr><td>Тое ж</td><td>Тое самае (адсюль словы “атаясьняць”, “атаясамліваць)</td></tr>
<tr><td>Адно і тое ж</td><td>Адно самае</td></tr>
<tr><td>рас. точно так же, как</td><td>Роўна, як<br>Так сама, як<br>Гэтак сама, як</td></tr>
<tr><td colspan="2"><u>“Працаваць” і “рабіць”</u><br><br>Рабіць - рас. работать, делать<br>Працаваць - рас. трудиться, работать<br>Работа - рас. работа, “делание”<br>Праца - рас. труд, работа<br><br>Рэчы ня могуць працаваць, толькі людзі (нп. праца чалавека ў полі, працаўладкаваньне, але работа трактара ў полі)</td></tr>
<tr><td>Тэлефон не працуе</td><td>Тэлефон ня робіць<br>Тэлефон не функцыянуе<br>Тэлефон ня дзеіць</td></tr>
<tr><td>Тэлефон запрацаваў</td><td>Тэлефон зарабіў/зафункцыянаваў/задзеіў</td></tr>
<tr><td>Праца тэлефона (калі так, то значыць ён у полі арэ бульбу)</td><td>Работа тэлефона<br>Функцыяваньне тэлефона</td></tr>
<tr><td>Гадзіньнік спрацуе</td><td>Гадзіньнік заробіць/задзеіць/падзеіць</td></tr>
<tr><td>Зараз можа спрацуе</td><td>Зараз можа паробіць, зробіць<br>Зараз можа падзеіць<br>Зараз можа зафункцыянуе</td></tr>
<tr><td>Апрацоўка</td><td>Абробка</td></tr>
<tr><td>Распрацоўшчык</td><td>Разробнік</td></tr>
<tr><td>Распрацоўваць план</td><td>Разрабляць плян</td></tr>
<tr><td colspan="2"><u>Калькаваньне словаў на -цель</u><br><br>Словы на -цель у значэньні прафэсыі ці кшталту заняткаў у беларускае амаль няма. Ім адпавядаюць канчаткі -нік, -ца і іншыя. А вось слова пасьцель ёсьць, але гэта ня кшталт заняткаў. Таксама ёсьць ’круцель’ (=крут) і ’вучыцель’, ’хлусель’ (=хлус), ’прыяцель’. Таксама ўжываюцца ў</td></tr>
</table>

| | |
|---|---|
| праваслаўнае рэлігійнае лексыцы, бо запазычылася з расійскае (нп. настаяцель, хрысьціцель) | |
| Любіцель | Аматар, ахвотнік |
| Вадзіцель | Кіроўца |
| Пакарыцель | Пераможца |
| Служыцель | Служка, служнік, службовец |
| Абавязацельства | Забавязаньне, абавязак |
| Блытаньне “з-за” і “праз”<br><br>“Праз” - прычына<br>“З-за” - фізічны сэнс (нп. “з-за лесу”) | |
| З-за дажджу не пайду да крамы | Праз дождж не пайду да крамы |
| З-за цябе не пасьпеў | Праз цябе не пасьпеў |
| Калькаваньне формаў і парадку словаў | |
| Мы засмучаны, што… (рас. мы расстроены) | Нам смутна (ад таго), што… |
| Часаць/чухаць і сьвярбець<br><br>Чухаць/часаць - актыўны дзеяслоў, не пасыўны<br><br>рас. рука чешется - рука сьвярбіць<br>рас. чесать руку - чухаць/часаць руку<br><br>Калі сказаць “рука чэшацца”, значыць яна чухаецца кімсьці, а не сама, нп. “рука чэшацца пазурком” | |
| Неалагізмы 20 ст.<br><br>Прыкладам такіх неалагізмаў можа служыць слова “абставіны” | |
| ’Патрабаваць’ ды ’вымагаць’<br><br>Часта ёсьць узаемазамяняльныя:<br><br>Ён патрабуе/вымагае грошай - рас. ему нужны деньги<br>Ён вымагае/патрабуе грошы - рас. он требует (выпрашивает) деньги<br>Ці патрабуеце дапамогі - рас. вам нужна помощь? (гэта НЕ “вы требуете помощь?”)<br>Вымагаеце дапамогу - рас. вы требуете помощь | |

<table>
<tr><td>Я патрабую справядлівасьці!</td><td>(лепш) Жадаю справядлівасьці!</td></tr>
<tr><td colspan="2">Выкарыстаньне незакончаных трываньняў замест закончаных, як у расійскае<br><br>Напрыклад, “папулярызаваць” - гэта “што рабіць”, таму калі сказаць “ён папулярызаваў” - гэта тое самае, што “ён кіраваў” замест “ён накіраваў”<br><br>Менавіта з гэтае прычыны “папулярызоўваць” - таксама хібна, бо гэта як сказаць “кіроўваць”. А вось “спапулярызоўваць” - добра (і “папулярызаваць”)<br><br>У “прапанаваць” “пра” - не прыстаўка ў беларускае мове (толькі ў лацінскае, адкуль слова цалкам запазычылася). А яшчэ людзям падсьвядома “пра” у слове “прапанаваць” напамінае “пре” у “предложить”, каторае ёсьць закончаным трываньнем.<br><br>Часам ёсьць блытаніна. “Ануляваць” - гэта незакончанае трываньне (закончанае - “зануляваць”), але людзі могуць казаць “ануляваць” у закончаным. Чаму так? Бо людзі падсьвядома думаюць, што “а” у слове “ануляваць” ёсьць прыстаўкай (нібы слова ўтворана ад “нуль” з прыстаўкай “а”, што ня ёсьць так, бо слова запазычана адразу з літарай “а” - annul). То бок ёсьць 2 варыянты:<br><br>1. незак. ануляваць + зак. зануляваць<br>2. незак. нуляваць + зак. Ануляваць<br><br>Калі нез. тр. пачынаецца на “а”, то прыстаўка будзе “за”, часам “з”<br><br>Авторизовываться - аўтарызавацца<br>Авторизоваться - зааўтарызавацца<br>Организовать - арганізаваць<br>Организовать (что сделать) - зарганізоўваць</td></tr>
<tr><td>Прапанаваць (рас. предложить)</td><td>Запрапанаваць</td></tr>
<tr><td>Анансаваць (закончанае трываньне)</td><td>Заанансаваць</td></tr>
<tr><td>Папулярызаваць (што зрабіць)</td><td>Спапулярызаваць</td></tr>
<tr><td>Рэалізаваць (што зрабіць)</td><td>Зрэалізаваць</td></tr>
<tr><td>Актываваць</td><td>Заактываваць</td></tr>
<tr><td>Кампенсаваць</td><td>Скампенсаваць</td></tr>
<tr><td>Ня суджана (рас. не суждено)</td><td>Не прысуджана<br>Не наканавана<br>Не выракавана<br>Не прызначана</td></tr>
</table>

| | |
|---|---|
| Пала | Упала, заняпала |
| Паланізаваны | Спаланізаваны |
| Русіфікаваны | Зрасіфікаваны (утвараецца ад зак. тр.) |
| Хібнае выкарыстаньне незакончанага трываньня | |
| Актывоўваць | Актываваць |
| Прапаноўваць | Прапанаваць |
| Рэгулёўваць | Рэгуляваць |
| Менавіта таму “рэгулёўка” - хібна, бо няма слова, ад якога яно ўтворана. Правільна: рэгуляцыя, так сама як і “актывацыя”, а не “актывоўка”. А таксама “блакоўка”, “рыхтоўка” і гд. - хібныя | |
| нез. сарбаваць - зак. абсарбаваць - нез. Абсарбоўваць (аб ня ёсьць прыстаўкай) | нез. абсарбаваць - зак. заабсарбаваць - нез. заабсарбоўваць (анг. absorb) |
| Выкарыстаньне прыметнікаў, утвораных ад незакончаных трываньняў дзеясловаў замест закончаных | |
| Калькаваныя словы | Скалькаваныя словы |
| Калькаваная лексыка | Закалькаваная лексыка |
| Іншыя літаральныя калькаваньні | |
| Макароны | Макарона |
| Макарона, як і паста, назва італійскае стравы, гэта слова не адмяняецца, вы ж ня кажаце “пасты” ў множным ліку | |
| | |
| Дзякуючы | Дзякі |
| Вельмі старая калька, што цяжка спраўдзіць. Такая форма (што робячы) уласьціва для паўднёва-славянскіх моваў (пад уплывам царкоўна-славянскае мовы) і расійскае. Ва ўкраінскае й польскае выкарыстана іншая форма, што дае думаць, што ў беларускае было б так сама, калі б яна лепш захавалася | |
| Новабудоўля | Навабуд |
| Будоўля - гэта не будынак, а рас. строительство. Дык што тады значыць новабудоўля? Новая будоўля? Новостройка - гэта новы будынак, а не рас. новое строительство. Такое ўражаньне, што ўзялі рас. слова, пераклалі “стройка” як “будоўля” і дадалі “нова” | |

| | |
|---|---|
| Закрыць вочы - гэта, напрыклад, далоньню | |
| Заслугоўваць чагосьці | Заслужваць на штосьці |
| Што такое... | Што ёсьць… |
| Стаць (пачаць) | Пачаць |
| Ні ў адзін | Ні ў вадзін |
| нац. Таго (ад слова “той”) | Тога |
| але Таго (ад слова “тое”) - правільна<br><br>Той - тога<br>Тое - таго | |
| Ёсьць вынікам таго, што<br>Няма тога, хто нам дапаможа | |
| | |
| Машын (чый) | Машаў (Машавы) |
| Годзе заўсёды перакладаць “честный” як “сумленны”. “Сумленны” значыць “совестный”, а “честный” у большасьці разоў перакладаецца як “шчыры”.<br><br>Перакладаць рас. "я честно не знаю" як "я сумленна ня ведаю" ёсьць хібна і азначае "я совестно не знаю" | |
| Честный, честно | Шчыры, шчыра |
| Багаты, чым | Багаты, на што |
| Чакаць, чаго (рэчы) | Чакаць, на што<br>Але з жывымі істотамі - каго, а з здарэньнямі - чаго, напрыклад:<br>Чакаю патопу<br>Чакаю на грошы<br>Чакаю перапрашэньня<br>Чакаю адказу<br>Чакаю на паперу |
| Так як | Таму, што<br>Праз тое, што<br>(Паколькі) |

## Размоўнік расійска-беларускі

| | | |
|---|---|---|
| Привет, пока | Вітаю, бывай | |
| Должно быть | Мабыць (мае быць)<br>Мусіць | |
| Видимо | Відаць, хіба (што) | |
| Наверное, наверняка | Пэўна/е, напэўна/е, запэўна/е | |
| Шарить, рыскать (искать) | Поркаць (шукаць рэчы, штурхаючы)<br>Шахерыць, шныпарыць (шукаць у чужых рэчах, каб прысвоіць) | Папоркаў трохі і знайшоў, чаго шукаў<br>Шахерыць ў маіх рэчах сядзіць |
| Шарить, разбираться | Цяміць, кеміць (кмеціць), петрыць, панатрыць (панатраваць)<br>Вырашаць, даразумявацца, аналізаваць, дасьледваць, вывучаць, даведвацца, высьвятляць, выяўляць, выясьняць, праясьняцца, спраўляцца, разьвязваць, цьвічыць, вучыць | Разьвязаць праблему |
| Шаромыга, шаромыжник | Шахрай, махляр (сур’ёзьнейшыя словы)<br>Шахер, махер, шныпар (жартаўліва) | Ах ты шахер малы<br>Ты мой маленькі шныпар, знайшоў слодыч (анг. snack) у шафе |
| Возиться, ковыряться | Корпацца, важдацца, длубацца (марудзіць)<br>Калупацца, пэцкацца (рас. ковыряться, пачкаться)<br>Воськацца, вошкацца (гукапер. “вось-вось”) | Не хачу пэцкацца ў гэтым (займацца гэтым)<br>Корпаецца ў сваіх справах |
| Гнать, гнать в шею | Турыць, зак. турнуць, патурыць | Турнулі з працы яго<br>Тураць (патураюць) яго рабіць брудную работу |

| | | |
|---|---|---|
| Идти в лес за грибами | Ісьці ў грыбы | |
| Идти в магазин за грибами | Ісьці да крамы па грыбы | |
| Хватит, полно | Годзе, годзе ўжо<br>Будзе, будзе ўжо | Годзе ўжо рабіць гэта<br>Годзе мне (рас. хватит с меня) |
| Ухайдохать | Ухайдоліць | |
| Бредить, нести чушь, нести дичь | Верзьці (лухту, хлусьню), лухціць, плявузгаць, плесьці, наплятаць<br>Брахаць, хлусіць | Верзе лухту нейкую<br>Пляце невядома што<br>Годзе табе лухціць |
| Бред, дичь | Лухта, брахня, хлусьня, бязглуздзіца, недарэчнасьць, бессэнсоўнасьць, глупства, бздура, дурнота, гарэзія | |
| Ты точно уверен в этом? | Ты вельмі ўпэўнены ў гэтым? | |
| Ты точно знаешь? | Ты пэўна (запэўна) ведаеш? | |
| Метаться, рыскать, быстро бегать, особенно без дела | Гойсаць (гайсаць, гоцаць) | Гойсае па доме сабака<br>Куды ты сёньня гойсаў?<br>Гойсае бяз мэты |
| Без дела | Бяз мэты | Гойсае бяз мэты |
| Бездельник, лентяй, лодырь, бездельник | Лайдак<br>Гультай, гультаіна (ад “гуляць”, прым. - гультаяваты)<br>Нядбайнік, нядбалец, нядбайла (ня дбае)<br>Лотра (разбойнік, чмут, мот)<br>Дарэмнік (дармаед)<br>Лагізон<br>Бэйбус (вялікае дзіця)<br>Седзень, дамасед<br>Паненка, паніч (ня хоча працаваць)<br>усх. Бязула (бяз | |

| | | |
|---|---|---|
| | вуліцы?)<br>усх. Дзяньгуб (губляе дні)<br>усх. Адорва, падорва (адрываецца ад іншых) | |
| Как дела? | Як ты? Як там? Што там? Што чуваць? Што новага? Як маешся? Як пачуваешся? | |
| Большое спасибо | Шчыра/вельмі/сардэчна/ дзякую, -ем | |
| Скажи спасибо за то, что | Падзякуй за тое, што<br>Будзь удзячным за тое, што | |
| “Спасибо” на хлеб не намажешь, в карман не положишь | Падзяку на хлеб не намажаш, у кішэню не пакладзеш | |
| Лупить | Лупіць, лупцаваць (ад “лупка”)<br>Караць<br>Дубасіць (ад “дубец”, “дубчык” - дубовая палка, рас. плетка, розга)<br>Драць, адзьдзіраць (зак. ададзёр) | |
| Большой предмет, инструмент, устройство или человек | Чалавек+рэч:<br>Гаргара<br>Бандура<br>Махіна<br>Грамада<br><br>Рэч:<br>Штуковіна | |
| Пофигист | Нядбайнік, нядбалец, нядбайла | |
| Пофиг (мне), все равно, и в ус не дую | Я ня дбаю<br>Я не шманаю<br>Усё адно (да)<br>Мне да дупы<br>Дарма, што | Мне ўсе адно да зайздросьнікаў і злосьнікаў<br>Дарма, што грошы ня ўзяў, і так гуляем добра<br>Ды я ня дбаю аб гэтым, |

| | | |
|---|---|---|
| | | мне ўсё адно |
| Страдать фигней | Бавіцца, гуляць, бавіць час<br>Забаўляцца<br>Рабіць лухту | |
| Я в афиге | Я зьбянтэжаны<br>Я засмучаны<br>Я ўражаны<br>Я ў шоку | |
| Забей | Занядбай<br>Забудзь | |
| Как бы, вообще-то | Калі што | |
| Ниче так (норм), неплохо | Ніштавата<br>Няблага<br>Някепска<br>Нядрэнна<br>Непагана | |
| Блин, черт | Блямба, халера, курда | |
| По причине, в связи, на основании | З нагоды<br>З прычыны<br>На падставе, *чаго* | На падставе вышменаванае інфармацыі рады вам паведаміць, што |
| Сообразительный | Цямкі, кемкі, кемлівы | |
| Остроумный | Дасьціпны | |
| Пинать | Пхаць, піхаць<br>Штурахць | |
| Пинок | Піх<br>Штурхель, штурханец<br>Выспятак (пятой) | |
| Увалень, лежебока, тюфяк | Лежань, лежабок, лагіза (ляжыць)<br>Завала, валуй (валяецца)<br>Абібок (усё аб бок, рас. по боку)<br>Цюхцяй (рас. цюфяк)<br>Цяльпук (непаваротлівы як кавалак дрэва, калодка) | |

| | | |
|---|---|---|
| | Бамбіза (высокі непаваротлівы)<br>Пянцюх, пенцялей, пенцюхайла (непаваротлівы як пень)<br>усх. Бінда, біндзюк, біндас, біндус (непаваротлівы)<br>усх. Баглай | |
| Бродяга | Валацуга<br>Бадзяга<br>Сьцягач<br>Туляга<br>Швэндал<br>Маталыга<br>Шлында (ад “шлындаць”) | |
| Бродить, слоняться, шляться, скитаться, ходить туда-сюда, шастать | Сноўдаць<br>Брындаць<br>Гойсаць (вельмі хутка)<br>Швэндацца (упэўнена хадзіць бяз мэты)<br>Боўтацца<br>Туляцца<br>Бадзяцца<br>Валэндацца<br>Брадзіць<br>Блукаць<br>Шлындаць<br>Цмыгаць<br>Шнырыць | |
| Дылда, каланча | Дылда<br>Бамбіза<br>Бандура<br>Стрынґаль<br>Падла (яшчэ значыць “пачвара”)<br>дыял. Атлант, ж. атлантка<br>усх. Бінда, біндзюк, біндас, біндус | |
| Озорник, шалун, балда, оболтус | Гарэза<br>Вісус<br>Жэўжык<br>Свавольнік<br>Дурасьлівец | |

| | | |
|---|---|---|
| | Няўрымснік, няўрымста<br>Боўдзіла<br>Гіцаль<br>Галуза<br>Баламут | |
| Оказывать (про чувства) | Праяўляць, выяўляць<br>Выказваць, паказваць, аказваць | рас. оказать внимание - выказаць дбаньне, праявіць клопат<br>рас. выказать доверие/желание/уважение - выказаць давер/ахвоту/павагу |
| Оказывать (все кроме чувств, например, помощь) | Зьяўляць (рас. предоставлять)<br>Узычаць (уделять, удруживать, одалживать)<br>Удзяляць<br>Забясьпечваць<br>Рабіць<br>Чыніць<br>Ствараць | рас. уделить время - узычыць/удзяліць час<br>рас. оказать услугу/помощь - зьявіць/забясьпечыць паслугу/дапамогу, удзяліць дапамогу,<br>предоставлять опасность - зьяўляць, ствараць небясьпеку |
| Поздно метаться | Позна перамяркоўваць | |
| Бьет - значит любит | Хто каго любіць, той таго й чубіць | |
| Род деятельности | Кшталт заняткаў | |
| Надменничать, хвастаться | Выхваляцца, пышыцца, пагардліва ставіцца, ставіцца з пагардай<br>Пагарджаць, чым | |
| Прикол | Жарт, кпіна, сьцёб, досьціп, пацеха, сьмяшынка, сьмехатулька, сьмяхнулька | |
| Прикалываться | Жартаваць, кпіць, сьцябацца, цешыцца, зьдзеквацца | |
| Отсылка, пасхалка | Спасылка, згадка<br>Велікоднае яйка | Спасылка на фільм/ згадка фільму |
| Пацан | Хлопец, дзяцюк, малец | |

| | | |
|---|---|---|
| Подкатывать (от “катать”) | Заляцацца (да), рабіць залёты (ад “залятаць”) | |
| Ерунда, ересь | Штука<br>Дробязь<br>Недарэчнасьць<br>Лухта<br>Гарэзія | |
| Не тебе решать (не твое дело) | Не табе меркаваць | |
| На слово | На павер | |
| На спор | У заклад, у заставу | |
| Спорим, что | Кладземся, што, кладзем на тое, што, ідзем у заклад, што<br>Ставімся (ставім), што, ідзем у заставу, што | |
| Поспорили (о чем-то), побились об заклад, анг. bet | Заклаліся, пайшлі ў заклад<br>Заставіліся, пайшлі ў заставу, паставілі | |
| Поспорили (повздорили) | Пасварыліся (свара)<br>Звадзіліся (звада)<br>Скалаціліся, пакалаціліся (калатнеча, калатня, рас. склока, распрь, пол. kłotnia) | |
| Зашнуровать обувь | Забэрсаць (забарсаць) абутак<br>Зашнуркаваць (ад “шнурок”), зашнураваць (ад “шнур”) | Шнур = бора, абора |
| Лопатка (для обуви) | Лапатка | |
| Опыт приобретается | Досьвед набываецца | |
| Списать деньги | Спагнаць грошы | |
| Развязать войну (разьвязаць = рас. решить, разобраться. Разьвязаць вайну = | Распачаць | |

| | | |
|---|---|---|
| скончыць вайну)<br>Война развязалась | Вайна выбухнула | |
| Каким бы то образом, любым способом | Хоць-як | Хоць-як хай перадасьць мне пасылку |
| Шутовство | Блазьнерства (блазьн<u>я</u>) | |
| До скончания веков | Да сканчэньня/ заканчэньня часу | |
| Переходить дорогу | Супраць ставіцца | Ты супраць каго паставіўся? |
| Испытывать чувства | Зьведваць/зазнаваць пачуцьці, адчуваць блізкасьць/цягу | |
| Сохнуть по кому-то | Прападаць за кімсьці | |
| Про скупого человека | Трэсьціся/прападаць над грашыма | |
| Предлог (причина, оправдание, основание, анг. justification) | Падстава, стаць<br>Зачэпка | Гэта ёсьць толькі падстава, але не прычына<br>Пад падставай (рас. под предлогом) |
| Вправить мозги | Направіць мозг | |
| Осматриваться по бокам | Аглядацца на бакі<br>Азірацца наўкола | |
| Полежавший (испорченный) | Паляжалы<br>Запсуты, запсуваны (сапсаваны) | |
| Зона доступа | Зона дасягу/доступу | |
| Не узнал тебя | Не згадаў цябе<br>Не пазнаў цябе | |
| Лущить семечки | Лу(ск/зг)аць/лупіць семкі / сланечнікавыя зерні | |
| Понятия не имею | Даразуменьня ня маю<br>Ня маю ідэі/здагадкі/домыслу<br>Без ідэі | |

| | | |
|---|---|---|
| Предполагать | Гадаць, агадваць, здагадвацца, выказваць здагадку | Я гадаю, што…<br>Можна агадаць, што ён мокры, бо не ўхапіў з сабою парасончык |
| Вверх дном, вверх ногами | Да гары нагамі | |
| Притворство | Удаваньне, удача | Ведаю я тваю удачу (=зман) |
| Мастерить, состряпывать | Штукарыць, бэрсаць (барсаць, рас. вязать), майстраваць | |
| Принимать во внимание | Прымаць на ўвагу<br>Браць пад увагу | |
| Притворяться кем-то | Удаваць зь сябе кагосьці<br>Прыкідвацца кімсьці | |
| Зачем-то | Для чагосьці<br>Чамусьці | |
| По отношению к | У ставеньні да, стасоўна (чаго) | |
| Именно так | Сама так<br>Менавіта<br>Рацыя | |
| Сделать оддолжение | Пазычыць | Аддаў доўг з такім выглядам, нібы ён мне пазычыў, а не ў мяне |
| In disguise, притворный, притворившийся | Уданы | |
| Притворяющийся, способный к притворству | Удаваны | |
| Притворяющийся | Які ўдаецца | Чалавек які ўдаецца (=удае сябе) грыбам (рас. выдает себя за гриб) |
| Машина тронулась с места | Аўта пакрАталася зь месца | |

| | | |
|---|---|---|
| Петь, пение, поет | Пяяць, пяяньне, пяе | |
| В конце концов | Урэшце ж [урэсьце ж] | |
| Повернуть вспять | Павярнуць назад | |
| Корчить из себя дурочку | Удаваць (рас. выделывать) зь сябе дурынду<br>Пераймаць дурынду (рас. подражать)<br>Прыкідвацца дурындай | |
| Не выделывайся | Не ўдавайся / прыкідвайся | |
| Застигнуть, обнаружить | Заскачыць (заскокнуць)<br>Засьцігнуць (аднак. да “сьцягач”, “сьцягаць”, “цягнуць”, “сягаць”, “дасягаць”)<br>Засьпець<br>Застаць | |
| Забежать, посетить | Наведаць, каго<br>Завітаць, да каго<br>Заскачыць (заскокнуць), да каго | |
| Застигнутый, обнаруженный | Заскачоны (заскокнуты)<br>Засьпеты<br>Застаны | |
| В один заход | У адзін захад<br>Адным разам, махам | |
| Вылизанный, наряженный до ниточки, доведенный до идеала, приведенный к форме | Выкшталчаны (кшталт - рас. образ, форма, тип) | |
| Приводить к форме, образовывать, формировать, создавать | Кшталтаваць | |
| Размытый вопрос | Няпэўнае, няяснае, размытае пытаньне | |
| Негодяй | Нягоднік | |

| | | |
|---|---|---|
| Мразь | Паску*а, поску**ь | |
| Понял-принял | Занатаваў | |
| Звонить | Тэлефанаваць<br>гутар. Зьвякаць (зак. зьвякнуць)<br>гутар. Трызвоніць (дакучліва, паўторна) | |
| Прилизываться, подлизываться | Заляцацца, да<br>Падладжвацца<br>Прыстасоўвацца | |
| Пользоваться кем-то (для своей выгоды) | Карыстаць з кагосьці (атрымваць карысьць з кагосьці) | |
| Нет так нет | Не дык не<br>Не значыць не | |
| Скачивать, закачивать, скачивание | Сьцягаць (сьцягваць), зацягаць (зацягваць), сьцяганьне (працэс), сьцягненьне (зьява) | |
| Пожениться, выйти замуж | Ажаніцца з кімьсці (для абодвух полаў)<br>Пабрацца, з кім<br>Пабраць, каго<br>саст. Паняць, каго | Пабраўся з паненкай |
| Выпендреж | Выхваленства<br>Вылузваньне (ад "лускаць" - рас. челушить, лущить) | |
| Лишь бы (только) | Абы (толькі) | |
| В отдельности | Па-асобку, асобна | |
| И всего-то | І ўсяго толькі | |
| Мальчик на побегушках (волчок) | Турок (ад "турыць") | |
| Заточено под | Падпарадкавана, чаму<br>Зроблена ў адпаведнасьці | |
| 1. Отклоняться от темы, | Бочыць, збочваць | Гэй, куды бочыш |

| | | |
|---|---|---|
| скрывать что-то. 2. Съезжать на обочину, поворачивать | | (адхіляешся), вяртайся да тэмы |
| По своему хотению/желанию, по доброй воли | З сваёй ахвоты, дабрахотна, дабрахоцьцю | |
| Я полагаю, я предположил | Я гадаю, я агадаў | |
| Баловать | Песьціць, распешчваць<br>Пялегаваць (рас. лелеять)<br>Бэсьціць, разбэшчваць (рас. портить, лац. bestia - жывёла)<br>Распушчаць | |
| Я к этому не имею никакого отношения | Я ніякім бокам да гэтага не стаю<br>Я аніякім чынам да гэтага не спрычыніўся<br>Я ня маю да гэтага ніякага спрычыненьня | |
| По поводу | Наконт | |
| В связи | З нагоды<br>З прычыны<br>У зьвязку | |
| Отстиралось | Адперлася (праць/перці)<br>Адмылася | |
| Может сказаться на (повліять на) | Можа адбіцца на<br>Можа ўплыць на | |
| Просто-напросто | Наўпрост, папросту | |
| Стремный чел, чудак, weirdo | Дзівак | |
| Что-то впарить | Штось усунуць | |
| Наводить кипиш | Навадзіць мітусьню<br>Даваць дыхту (рас. делать взбучку)<br>Раструшаць (рас. растрясывать) | |
| В удовольствие | У вахвоту | Рабі да поту, зьясі ў вахвоту (рас. делу |

| | | |
|---|---|---|
| | | время, потехе - час) |
| Лох (НЕ ЗААХВОЧВАЕМ КАРЫСТАЦЬ З ЛАЯНКІ) | Ёлуп<br>Блазан<br>Кеп<br>Недалэга, недалужны<br>Недарэка, недарэчны<br>Нікчэмнік, нікчэмны<br>Няґеґлы<br>Пашлапень | |
| Жестяная банка | Бляшанка | |
| Точь-в-точь | Рыхт у рыхт, акурат, сама так як | |

**Як правільна ўтвараць словы без калькаваньня? Для гэтага трэба заўважаць патэрны ў чыстабеларускіх словах:**

1. Назоўнік + НІК. Выражае чалавека або рэч, што стасуюцца назоўніка. Афіцыйны стыль □

Ахвота - ахвотнік
Работа - работнік
Прымета (прыкмета) - прыметнік
Бяз дома - бяздомнік

2. Прыметнік + НІК. Выражае чалавека або рэч, што стасуюцца прыметніка. Гутарковы стыль □

Нахабны - нахабнік (рас. наглец)
Злосны - злосьнік (рас. злюка)
Нядбайны - нядбайнік (рас. пофигист)

3. Дзеяслоў у закончаным трываньні + НІК. Выражае кшталт заняткаў. Афіцыйны стыль □

Разрабіць - разробнік
Наставіць - настаўнік
Паказаць - паказьнік
Замовіць - замоўнік
Ачысьціць - ачысьнік
Вызваліць - вызвольнік

Выняткі:
Кіраваць - кіраўнік

4. Дзеяслоў у незакончаным трываньні + НІК. Выражае чалавека або рэч, што часта выконваюць гэта дзеяньне. Часьцей гутарковы стыль

Разрабляць - разрабляльнік
Настаўляць - настаўляльнік
Кіраваць - кіравальнік
Паказваць - паказвальнік
Замаўляць - замаўляльнік
Выкрадаць - выкрадальнік (злодзей)
Ачышчаць - ачышчальнік
Вызваляць - вызваляльнік
Укладаць - укладальнік

Ад пасыўных дзеясловаў (на -ца) так утвараць няможна!

Памылкі:
Выратавальнік - ратаўнік (аф.) або выратоўвальнік (гутар.), ратавальнік (гутар.)
Змаганьнік - змагар
Чытаньнік - чытар, чытач
Падпісаньнік - падпіснік

5. Дзеяслоў у незакончаным трываньні + ца. Афіцыйны стыль

Кіраваць - кіроўца
Замаўляць - замоўца
Укладаць - укладца

Выняткі:
Забіваць - забойца, а не забійца
Прапіваць - прапойца

6. Дзеяслоў у незакончаным трываньні + льнасьць. Выражае магчымасьць чагосьці. Афіцыйны стыль

Разрозніваць - разрознівальнасьць (магчымасьць разрозніваць, анг. discernment)

7. Дзеяслоў у закончаным трываньні + асьць. Выражае рэч або зьяву. Афіцыйны стыль

Разрозніць - разрознасьць (адрозненьне або зьява, калі хтосьці разрозьніў, нп. “разрознасьць адных рэчаў ад іншых”)

8. Прыметнік + суфікс -к. Гутарковы стыль □

Неспадзяваны - неспадзяванка
Брукаваны - брукаванка
Забытковы - забыткоўка

9. Дзеяслоў + суфікс -к. Афіцыйны стыль □

Ламаць - ломка
Заламваць - заломка (непаладка, нелад, няладзіца)
Сьведчыць - сьведка
Валчыць - валка
Падтрымваць - неал. падтрымка
Вымаўляць - вымаўка (рас. претензия, выговор)
Коўзаць - коўзанка

10. Дзеяслоў + абнуленьне (багата спосабаў)

Бегчы - бег
Не спадзявацца - неспадзёў
Кіраваць - кірунак
Рысаваць - рысунак
Зьбягаць - зьбег
Уцякаць - уцякач
Заляцацца - залёт
Падкапваць - падкоп
Упікаць - упік, упіка
Прыбудоўваць - прыбудова
Маляваць - маляр
Махляваць - махляр
Выбрыкацца - выбрык
Абстаўляць - абстава
Насоўваць - насоў (калі на -ваць, яно прыбіраецца)
Значыць - знак
Азначаць - азнака (калі націск на канчатак, то род будзе жаночы)
Пазначаць - пазнака
Утвараць - [утвора]
Наракаць - [нарок]

Калі дзеяслоў закончваецца на "ваць" або "ляць", то іх можна абнуліць: захапляць - захоп, вымаўляць - вымова

11. Дзеяслоў у незакончаным трываньні + ньне. Утварае працэс. Афіцыйны стыль □

Утвараць - утвараньне

12. Дзеяслоў у закончаным трываньні + ньне. Утварае зьяву. Афіцыйны стыль □

Утварыць - утварэньне

13. Дзеяслоў у прошлым часе + іны. Вельмі гутарковы стыль □

Нарадзіўся - народзіны
Аглядзеў - агледзіны
Абставіў - абставіны

14. Прыслоўе з “у”. Афіцыйны стыль □

Па + асоба + к - паасобку
Пешы - пешшу
На + відаць вачам - навідавоку
На + астача - наастачу

15. Дзеяслоў + нец. Афіцыйны стыль □

Выраджацца - выраджэнец
Захадзіць - захаджэнец (пасьля дз/дж - “э”)
Гадаваць - гадаванец

16. Дзеяслоў + ун. Гутарковы стыль □

Сікун (той, хто сікае ў ложку ўначы)
Брахун

17. Прыметнік на “вы” + ец. Афіцыйны стыль □

Баязьлівы - Баязьлівец
Крыўдлівы - Крыўдлівец
Урадовы - Урадовец

18. Дзеяслоў + “лівы” (рас. чивый). Апісвае натуру чалавека. Афіцыйны стыль □

Крыўдзіцца - крыўдлівы (той, хто крыўдзіцца)
Уражацца - уразьлівы
Удумвацца - удумлівы

19. Дзеяслоў у нез. тр + “ны”. Афіцыйны стыль □

Крыўдзіць - крыўдны (нешта крыўднае, або такі, які крыўдзіць іншых)
Уражаць - уразны

20. Дзеяслоў у нез. тр + “ны”. Афіцыйны стыль □

Не прымушаць - непрымушальны (такі, які не прымушае. Непрымусовы - гэта якасьць, непрымушальны - якасьць паводле дзеяньня, напрыклад, непрымусовае наведваньне сходу, непрымушальны чалавек. Сход ня можа прымушаць, а чалавек можа)
Замінаць - замінальны

21. Дзеяслоў у зак. тр + “аны”. Афіцыйны стыль □

Пакрыўдзіць - пакрыўджаны
Уразіць - уражаны (з перайшло ў ж, канчатак замяніўся на -аны)

22. Назоўнік + яць/аць/іць/ыць (але будзьце пільныя НЕ ўтвараць так ад словаў, што ЎЖО ёсьць утворанымі ад іншых: кляпаць -> пакляпаць -> паклёп -> паклепнік -> [паклёпнічаць], бо ўжо маем “кляпаць” і “паклёпваць”).  Афіцыйны стыль (калі ад прадметаў/зьяваў) □ Гутарковы стыль (калі ад людзей) □

Прарок - праракаць
Рука - ручыць, уручаць Афіцыйны стыль □
Ганьба - ганьбіць  Афіцыйны стыль □
Сарамата - сарамаціць (рас. срамота, осрамлять)
Штукар - штукарыць Гутарковы стыль □
Падарожнік - падарожнічаць Гутарковы стыль □
Сьвіняка (нядбайны чалавек, сьвінтус ґрандыёзус) - сьвінячыць Гутарковы стыль □
Бяда - бядзіцца

Памылкі:
Дармаед - дармаеднічаць (правільна - дармаедзіць (дарма есьці), але лепш “скнарыць”, “жабраваць” і гд., няма слова “дарамеднік”)
Вялікдзень - велікоднічаць (правільна - велікодніць (велікодзеніць?), сьвяткаваць Вялікдзень, няма слова “велікоднік”)

23. Назоўнік + аваць (але будзьце пільныя НЕ ўтвараць так ад словаў, што ЎЖО ёсьць утворанымі ад іншых ці ўтвораныя спосабам вышэй: ганіць -> ганьба -> ганьбіць. Ганьбаваць - залішне, ужо ёсьць “ганьбіць” і “ганіць”) Афіцыйны стыль □ Гутарковы стыль □

Фальш - фальшаваць (падманваць)
Прарок - прароракаваць
Рэп - рэпаваць
Плёткі - пляткаваць
Кат - катаваць
Бяда - бедавацца
Смутак - смуткаваць
Патрэба - патрабаваць

**Якія словаўтварэньні ёсьць скалькаваныя**

1. Прыметнік на месцы назоўніка

Кніжны - кнігарня
Набярэжная - узьбярэжжа
Бяздомны - бяздомнік (хаця тут яшчэ норм)

2. Дзеепрыслоўе на месцы назоўніка

Служачы - служка, службовец, які служыць

Але, напрыклад, “лясьнічы”, “паляўнічы” ня ёсьць дзеепрыслоўі, хоць і на “чы”

3. -цель (рэдка бывае ў беларускае)

Служыцель - служка, службовец

Але норм: прыяцель, круцель

Іншае

Не баімся ўтвараць гутарковыя словы: сьмяшынка, сьмяхнулька (рас. шутка, прикол)

Нязрушны (ад “ня зрушыць”), незрушальны - рас. несдвигаемый
Нязрушаны (ад “ня зрушаны”) - рас. нетронутый, несдвинутый
Зрушны - рас. сдвигаемый, способный к смещению. Гэта канапа ёсьць вельмі зрушная - этот диван очень легко сдвинуть
Незрушальны - які не зрушае, або якога няможна зрушыць

Зрушальны - які зрушае, або якога можна зрушыць
Носны - такі, які няцяжка несьці, рас. легко носимый

Трываць - вытрываць (рас. выдержать) - вытрываць (рас. выдерживать, терпеть). Нез. тр. Няма ў слоўніках, але ёсьць у старых тэкстах

Яны адзін без аднаго не вытрываюць

рас. “ну” - па-беларуску ёсьць “але (ж)”, напрыклад, “ну ты и говнюк” будзе “але (ж) ты й гаўнюк”, альбо, напрыклад, “але файны сабака”. “Ну” таксама існуе, азначае “так”, альбо выражае ступень няўпэўненасьці

Літара “г” не заўсёды чытаецца аднолькава, у запазычаных словах яна чытаецца гэтак сама як у гэтай мове, напрыклад, ґвалт, кілаґрам, ґэй (сэксуальная арыентацыя, але калі вокліч, то будзе чытацца з звычайнай “г”), галаґрама (hologram, h = г, g = ґ), гураґан (hurricane),  ґіґант.

Не забывайма вымаўляць гукі правільна, напрыклад, слова “лісьлівец” чытаецца як “лісьлівец”. У СССР зладзілася рэфармаваньне беларускае мовы, у тым ліку правапісу, таму мяккія знакі былі прыбраныя ў напісаньні, але яны засталіся ў мавеньні. Канчаткі “шся” вымаўляюцца як “сься”, напрыклад “сьмяесься”, але калі вы з паўднёвага захаду (ад Горадні да Мазыра і на поўдзень ад іх), то вашы продкі называліся “сакунамі” і вымаўлялі “сьмяесса”.

Канчаткі “чце” вымаўляюцца “цьце”, напрыклад, “пазычце” - “пазыцьце”.

’Мова’ значыць ня толькі анг. language, а яшчэ й сынонім да “гаворка” і “мавеньне” (рас. молва) (толькі без азначэньня працэсу). Напрыклад, рас. “хамское общение” можна перакласьці як “хамская мова” (бо мовіць хамска). Ці напрыклад можна сказаць “у яго багатая мова”, што значыць вялікі і разнародны слоўнікавы запас альбо “яго мова была спакойная і пасьлядоўная”.

Ангельскія словы транслітуюцца з ангельскае (паводле гучаньня), а не з расійскае мовы, напрыклад, TikTok - тыкток, Katherine - Катарына (бо th = т, як ether = этэр, psychopath = псыхапат, mathematics = матэматыка), cringe - крындж, ticket - тыкет. У Савецкім Саюзе транслітаваньне было адменена на расійскі лад, але ня ўсё, напрыклад, усё яшчэ кажуць “актыўны”, а не “акціўны”, то бок няма цалковага калькаваньня транслітаваньня з расійскай нават у савецкае норме.

Часам “вообще” можна перакласьці як “нават”: гэтага слова ўжо няма ў слоўніках, калі нават было калісьці.

Дарэчы, калі мова “ангельская”, а не “англійская”, то й “ангелец” (і “ангельчык”), а не “англічанін”.

“Рашаць” і “рахаваць” (як і “раўняць” і “раўнаваць”) - адно слова з розным словаўтварэньнем. “Рахаваць” казалі нават на Віцебшчыне (ёсьць у слоўніку Касьпяровіча 1927 года), таму гэта не ўкраінізм. “Згадка/згадваць” таксама там ёсьць, дарэчы, а Пацюпа ўважае іх за ўкраінізмы, бо, відаць, Насовіч ня мае.

Цікава што ад кожнага сыноніма: благі, дрэнны, кепскі, ёсьць утвораныя сынонімы: блазен, дурань (ж. дурында), кеп

Петрыць і панатрыць (панатраваць) ёсьць аднакаранёвыя (лац. penetrare), а таксама аднакаранёвыя да “пятра” (паверх)

"Хвіліна" ўтворана ад "хвіля", што значыць "кароткі тэрмін часу". "За хвілю" значыць "праз картоткі тэрмін часу, скора"

Лепш - ад “лепы” (гожы, добры), аднак. лепата (калі ўсё добра)
Горш - ад “горкі”, аднак. горач
рас. Хуже - ад рас. “Худой”
рас. Лучше - ад “лучий” (трапны, лучны)

Словы "получать", “разлучать”, "случай", "луч" (прамень), "лучше" і гд. паходзяць ад кораня "луч", што азначае "соединять" (бел. луч<u>ы</u>ць). "Лучше" ёсьць параўнальнае формай слова "лучий", што значыць "трапны" (меткий, в самую точку), адсюль "лучше" - "трапней" (более точно, соединенно, более в точку).

“Случай” ад слова “случить” (злучыць) - соединить. То бок “случай” ёсьць калі штосьці “супала” або “выпала”, “выпадак”

Дзець - падзець, адзець - адзежа
Сунуць - засунуць, насунуць - насоў (рас. чехол, накидка)
Пратаць - запратаць (засунуць), спратаць (прыбраць), апрануць/апратаць (адзець, насунуць) - вопратка
Браць/берці - убраць, прыбраць - убор, убраньне

Пратаць лён - убіраць лён
Спратаць пакой - прыбраць пакой
Праць вопратку (2 аднак. словы) - чысьціць/біць вопратку (раней вопратку білі, каб пачысьціць)
Апрануць - 1. насунуць, рас. одеть. 2. рас. огреть (ударить). 3. прыбраць

Працаць, праць і перці - усе аднакаранёвыя

Пральная машынка, вопратка, куды прэш, працаць пакой/лён - тут усе словы ёсьць аднакаранёвыя

У "апрануць" націск не "апрАтаць" таму, што ў некаторых дыялектах было "пратАць", а не "прАтаць".

“Спратай сьмецьце” - рас. убери (спрячь) мусор
Працаць, спратваць (пол. sprzątać) пакой - рас. убирать комнату

Лушчыць, лупіць, лупіна, лушпайкі, лушпіна, шалупіна, луска, налусак, лузгаць, рас. лущить, шелуха - усе аднакаранёвыя

Прымеркаваць - рас. приурочить, сопоставить

Урок (занятак), урочище (угамонішча, урочышча), приурочить (дапасаваць), врач (лекар, доктар), нарочно (на око) ёсьць аднакаранёвыя (рас. урочать - видеть, ад слова “око”, бел. урачаць - наводить сглаз)

Год = час. Загадзьдзя = заўчасна. Годзе = рас. хватит, полно, прагадваць, агадваць = рабіць/бачыць заўчасна, гадаць - выказваць меркаваньні заўчасна.

Слова “прыяцель” паходзіць ад “прыяць” (спасабляць)

Заразом (рас. одовременно, заодно)

Меркаваць - ад “мерка”, а яно ад “мерыць”

Удавацца - 1. Прыкідвацца. 2. Выхадзіць, патрапляць (рас. получаться)
Удача - 1. Прыкіданьне. 2. Посьпех

Меркаваньне - гэта:
1. Рассчитывание; способность найти меру
2. Соображение, рассуждение
3. Взвешивание, примерение, прикидывание в уме, на глаз

Слоўнік Насовіча, гістарычны слоўнік беларускае мовы, слоўнік Байкова-Некрашэвіча, слоўнік Касьпяровіча і гд. пагаджаюцца

Меркаваньне ва ўсім трэба мець - рас. нужно во всём знать меру, иметь точный глазомер

оШИБка і хіба ёсьць аднакаранёвыя

“Яда” ёсьць тым самым, што й ядзеньне, толькі ёсьць зьявай, а не працэсам. Гэта не азначае “ежа”, напрыклад “доўгая яда”

Трасянка - ад “трасьці” (страсянаваная ежа, якую давалі быдлу)

Каштаваць (зьведваць ежу, рас. отведывать) і рас. кушать ёсьць аднакаранёвыя (у паўночна-усходнім дыялекце было “кушаць”, а не “каштаваць”. Этымалягічна “кушаць” азначала “спрабаваць штосьці”, неабавязкова на смак, а адсюль зьявілася слова “кошт” - “вынік спробы, якасьць, смак і гд”, а адсюль зноў “каштаваць”, што азначае тое самае, што й “кушаць”. Гэта як плесьці - плётка - пляткаваць.

Дзед у кл. адмене будзе “дзеда”

Даразуменьне - понятие, понимание, догадка

Сорам, сарамата і рас. срам, срамота ёсьць аднакаранёвыя

Ибо і бо ёсьць аднакаранёвыя

“Прощать” паходзіць ад “очи” і азначае “прабачваць”. “прощай” = “проглази, перестань видеть, не заметь”

Цікавае слова: напіраць, напірацца - рас. настаивать
Рас. разве что это - хіба толькі гэта, адзіна толькі гэта
Асамісты - рас. осанистый, видный (самавіты)
Набрыднуць/набрыдзець - рас. опротиветь, надоесть, зрабіцца брыдкім
Швыргаць - рас. швырять
Баяць - апавядаць байкі
Буяць - моцна расьці, квітнець, станавіцца буйным
Клычыць, склычваць, паклычваць, усклычваць - клочить, ерошить, путать
Клочча, клок, кудла - клочья, клок
Калатня, калатнеча, дыял. склыка - склока
Палёгка - облегчение

Заўтра = за утра

Путать, блытаць і плутать ёсьць аднак.

Слэнг:
Alrighty - спокі, спочкі
Seriously - сэр’ё, на сэр’ё (паводле Насовічава слоўніка)
Палітыкаваць - выяўляць ветлівасьць, сьціпласьць, анг. to be polite, politically correct

Падвойнае ўтварэньне:
Пратаць - апратаць, апратнуць -> апрануць -> апранаць
Кратаць - закратаць, закратнуць -> закрануць -> закранаць
Глытаць -> [паглысьці], паглытнуць -> паглынуць -> паглынаць

Як і ў расійскае мове: трогать -> трогнуть -> тронуть, але “тронать” няма

УсувАць - усоўваць (рас. убирать/удалять, всовывать)
УсУнуць - усуньваць (рас. убирать/удалять, всовывать)

“Усоўваць” ня ёсьць формай слова “усунуць”, а ёсьць формай слова “усувАць”

Вельмі, вялікі і вяльможа ёсьць аднакаранёвыя

Важный (весомый) і уважать (чтить) паходзяць ад “вага”, але яго няма ў расійскае

У расійскае мове ўсімі чынамі намагаюцца змаўчаць пра запазычанасьць расійскіх словаў з беларускае мовы, якія праходзяць праз яе з Польшчы ці Нямеччыны, таму такія словы як “быдла”, “футляр” тлумачацца нейкаю тэлепаратцыяю словаў у расійскую мову і нічога не кажацца пра беларускае пасярэдніцтва ніколі

Вёска паходзіць ад “весь”. У вёсцы = у весі

Мысьліць, размысьліваць, прамысьляць, вымысьляць, домысел - выкінулі з суч. Слоўнікаў. АдМЫСЛовы ёсьць аднакаранёвым

“Рыса” і “рыхт” і рас. штрих ёсьць аднакаранёвымі (усе ад нямецкага слова). Ад іх: рысаваць (рабіць штосьці з рысаў - рысунак), рыхтаваць (рабіць штосьці з рыхтаў - справу), рыхт-у-рыхт (тое самае, што й "рыса-ў-рысу").

“Апошні” ёсьць утворана ад “апасьля”

“Амаль” паходзіць ад “а+мала”. “А” значыць ”каля, блізка”, “а мала 3 гадзіны” (без малого 3 часа) -> “амаль 3 гадзіны”

“Намагацца” што зробіць - намОжыцца (у слоўніках забылі дадаць)

Рас. Ковш і ко(ў)ш, ко(ў)шык ёсьць аднакаранёвыя

“Вакол” паходзіць ад “вока” (“тое, што ў вока”)

Мнить (думаць, прыдумваць) -> сомнить (передумаць, рас. разубедиться) -> сомнение (передумка)

Мнение, сомнение, мнимый паходзяць ад “мнить” (прыдумваць)

“Крыніца”, імаверна, ёсьць утворана ад “крыць” (“ц” часта пераходзіць у “н” і “ч”), як “источник” ад “исток”, які ад “истекать”, бо крыніца ёсьць штось, адкуль штось цячэ і гэта трэба закрываць (крыць), напрыклад, крыніца вады.

“Крыўда” паходзіць ад “крЫвіць”

Не забываем, што беларуская мая фанэтычную транслітацыю з іншых моваў, а не марфалагічную (напісную): super - супЭр

## Сынонімы

Некаторыя сынонімы

| **Слова** | **Сынонімы** |
|---|---|
| Аб’ектыўна | Яўна |
| Абавязкова<br>Неабавязкова | Канечне<br>Неканечне |
| Абагнаны | Выпераджаны, апярэджаны |
| Аблутаць | Аблупіць, вылупіць, абадраць |
| Агульны<br>Супольны | Паспаліты<br>Лучны |
| Адаптаваць | Падладжваць |
| Адбывацца | Выпадаць<br>Трапляцца<br>Нагаджацца |
| Адбымаць | Абыймаць |
| Адвольны | Самадзейны<br>Самавольны |
| Адкідаць | Бракаваць, забракоўваць, абракоўваць |
| Адкласьці | Адвалачы |
| Адкуль | Скуль |
| Адмін | Кіраўнік<br>Уладар, уладальнік |
| Аднолькавы | Адзін самы |
| Адрозьніваць<br>Апранаць і гд. | Розьніць<br>Пратаць |

| | |
|---|---|
| Адэкватны | Уважны<br>Чалавечны |
| Аказваць (дбаньне, ветлівасьць, увагу і ўсякія пачуьці) | Праяўляць, выяўляць, зьяўляць<br>Выказваць |
| Актуальны | Сучасны<br>Цяперашні<br>Цёплы |
| Акупаваны | Заняты<br>Паняволены, зьняволены |
| Акупацыя | Паняволеньне, зьняволеньне |
| Акуратны | Дбайны<br>Спраўны<br>Руплівы |
| Акцэнт | Вымова<br>Гаворка |
| Акцэнт (увага) | Увага<br>Адценьне<br>Сэнс |
| Альтэрнатыва | Замена, адмена<br>Адменьнік |
| Аналаг | Адпаведнік |
| Аналіз | Досьлед |
| Анекдот | Жарт, досьціп |
| Арыгінал | Крыніца<br>Выток<br>Аўтэнтык |
| Арыгінальны | Спрадвечны<br>Першасны<br>Сапраўдны<br>Выточны<br>Крынічны |
| Асацыяваць | Атаясамліваць, атаясьняць |
| Аснова | Грунт, падстава |
| Асыміляцыя | Звыканьне, прызвычайваньне |
| Асыміляцыя (захоп) | Зьнішчэньне, панішчэньне (працэс)<br>Зьнішчаньне, панішчаньне (зьява)<br>Зьнявольваньне, панявольваньне (працэс)<br>Зьняволеньне, паняволеньне (зьява)<br>Захапляньне (працэс)<br>Захоп (зьява) |
| Атрымаць | Займець |
| Афармленьне (дакумэнт) | Укладаньне |
| Афармленьне (дызайн) | Аздобеньне |

| | |
|---|---|
| Афіцыйны | Галоўны<br>Законны<br>Дзяржаўны |
| Базавы | Падставовы<br>Грунтоўны |
| Банка | Шклянка<br>Слоік<br>Бляха, бляшка, бляшанка |
| Большы | Вялікшы |
| Буліць<br>Булінг<br>Бульлі | Цкаваць, ушчуваць<br>Цкаваньне, ушчуваньне, ушчуцьце<br>Цкаўнік, цкавец, цкаўчыха, цкаўніца |
| Бульба | Картопля<br>Хэлька<br>Кунада |
| Бутля (бутэль), бутэлька | Пляха, пляшка |
| Бутэрброд | Канапка<br>Лусьцень<br>Накладанец |
| Бясплатна | Дармова, дарма, задарма |
| Бясплатны | Дармовы |
| Вельмі | Надзвычай |
| Від | Кшталт, адмена |
| Від (тып) | Кшталт, гатунак, адмена, тып |
| Выдалены | Здальны (ад слова “здаля”) |
| Выпраменьваць | Вылучаць |
| Вырашаць<br>Агалошваць | Пастанаўляць |
| Высілкі | Патугі |
| Гарадзкі | Мескі (ад “месца”), месны (ад “места, мястэчка”) |
| Гергетаць | Шваргатаць |
| Глядзець, паглядаць | Зерыць, пазіраць |
| Гнаць | Турыць |
| Гоначны | Выперадачны |
| Гонка | Выперадак, выперадкі |
| Горад | Места |
| Губы | Грыбы |
| Дакладна | Акуратна, пэўна |
| Дакор (зьява), дакараньне (працэс) | Ушчуцьце, ушчуваньне<br>Папіка, папіканьне<br>Упіка, упіканьне<br>Вымаўка (вымова), вымаўляньне<br>Закід |

| | |
|---|---|
| | Нараканьне |
| Данат<br>Данаціць | Заахвяраваньне, ахвяра<br>Ахвяраваць |
| Дапамагчы | Усьперці<br>Дарадзіць<br>Спасабіць |
| Дарма | Марна |
| Дарослы | Сталы |
| Дарэмны | Марны |
| Дастаўляць<br>Доставщик | Дастарчаць, пастачаць (ад “стачаць” і “старчаць” - рас. хватать, быть в необходимом количестве)<br>Пастачальнік, дастарчальнік |
| Доўг | Пазыка, павіннасьць, абавязак |
| Дубль | Падвойнік |
| Дыялект | Гаворка |
| Жалюзі | (вертыкальныя) фіранкі |
| Жарт, кпіна, гумар | Досьціп |
| З нулю (from scratch) | З анічога |
| Заклад<br>Браць у заклад<br>Чым закладзеш? | Застава<br>Браць на павер, у заставу<br>Што заставіш? |
| Закрыць вочы | Заплюшчыць вочы |
| Засьпець, засьпеты | Заскачыць, заскачоны |
| Заўсёды<br>Тады | усх. Усёгды<br>усх. Тогды |
| Здарыцца, што здарылася | Стацца, што сталася |
| Знайсьці, прынесьці | разм. Надыбаць |
| Зьвяртаць увагу | Зважаць, уважаць, *на* |
| Ігнараваць | Не зважаць<br>Ня дбаць (анг. to not care)<br>Не шманаць (гутарк.) |
| Ідэальны | Беззаганны (рас. непорочный)<br>Бездакорны (рас. безукоризненный) |
| Ілюзія | Уява |
| Імгненьне | Рапт |
| Інтэрнэт | Сеціва |
| Інфармацыя | Зьвесткі |
| Калі<br>Тады | Як<br>То |
| Кампанэнт, інгрыдыент | Складнік |
| Камфортны | Ёмкі |

| | |
|---|---|
| | Утульны |
| Канкрэтны | Пэўны<br>Акрэсьлены<br>Вызначаны |
| Кантэкст | Умовы<br>Варункі<br>Акалічнасьці |
| Кантэнт | Зьмест, зьмесьціва |
| Каробка | Скрынка, скрыня<br>Пушка (ад “пусты”, невялікі драўляны/кардонны посуд з вечкам)<br>Кардонка (простае кардоннае апакаваньне)<br>Похва (рас. чехол)<br>Дораб, даробка |
| Карыстацца, чым | Карыстаць, з чаго (=атрымваць карысьць з чаго) |
| Комплекс (псыхалагічны) | Боязьнь, загана |
| Корпацца (рас. возиться, марудзіць, марудна рабіць) | Важдацца, пэцкацца, воськацца/вошкацца (гукапер. “вось-вось”) |
| Кранаць<br>Крануць | КрАтаць<br>КрАтнуць |
| Купляць (buy) | Набываць, здабываць, даставаць (get) |
| Лагічны | Разумны<br>Пасьлядоўны |
| Лайк | Падабайка, упадабаньне |
| Лайкнуць | Упадабаць |
| Лаяльны | Адданы |
| Лёгкі, просты | Латвы (слова ёсьць яшчэ ў старабеларускае мове і ў слоўніку Касьпяровіча, 1927 г. у віцебскае гаворцы) |
| Лексыка | Словы, [слоўніцтва] |
| Лічыць | Рахаваць (аднак. да “рашаць”. ёсьць нават у Касьпяровіча, 1927 г., Віцебская гаворка) |
| Лоб | Чола |
| Лут (анг. loot) | Луп |
| Лутаць | Лупіць, абдзіраць |
| Масавы | Шырокі<br>Ужыты<br>Распаўсюджаны |
| Меркаваны | Згадны, агаданы |

| | |
|---|---|
| Місыя | Мэта |
| Момант | Час<br>Выпадак<br>Імгненьне<br>Рапт |
| Моцны | Патужны (тужыць -> патужыць -> патужны, пяць -> напяць -> напяты, пружыць (рабіць пругкім) -> напружыць -> напружаны) |
| Надакучыць | Дадзець, дапячы, ачамярэць, набрыднуць, абрыднуць |
| Нармальны | Добры<br>Файны<br>Годны<br>Прыдатны<br>Звычайны<br>Просты<br>Слушны<br>Дастатковы<br>Гожы<br>Ладны<br>Прыстойны |
| Настойваць<br>Настойлівы | Напіраць, напірацца<br>Напорлівы |
| Неперавышаны | [Нявыпераджаны] |
| Непрыяцель | Злосьнік |
| Нівеляваць<br>Кампенсаваць<br>Стабілізаваць | Ураўнаважыць<br>Зраўнаць (зраўнаваць) |
| Ніводны | Жадны (слова ёсьць у кожнае паўночна-славянскае мове, ад лужыцкае, чэскае, польскае да беларускае, украінскае і расійскіх дыялектаў, напрыклад, Смаленскі, Варонежскі і гд. Яно было на ўсім беларускім абшары/прасторы, а значыць НЕ дыялектнае, як пазначана ў слоўніках). Ад Смаленска да Польшчы і Украіны ўжо ўся Беларусь ахопленая |
| Нікчэмны | Мізэрны (адсюль “зьмізэрвацца”) |
| Нуда | Дакука<br>Маркота |
| Ня сходзіцца | Ня складваецца<br>Не зьбягаецца/зьбегваецца |
| Опцыя | Выбар |
| Паводзіць | Захоўваць<br>Аб(ы)хадзіцца |

| | |
|---|---|
| Паводзіны | Захаваньне (аднак. да ’выхаваньне’)<br>Захоўваньне (працэс) |
| Паводле | Водле, паводлуг, водлуг |
| Паганіць | Курвіць |
| Пагарда | Напышлівасьць<br>Выхваленства, хвальба<br>Грэбаваньне |
| Паглынаць<br>Паглынуць | Паглытаць<br>Паглытнуць |
| Падаць<br>Кідацца | Сігаць<br>Рынаць, абрынацца |
| Падлік | Зьмеркаваньне |
| Падыход | Ставеньне |
| Паклёпнік | Зводнік, пляткар |
| Палюбіць | Улюбіць |
| Папулярны | Улюбёны<br>Ужываны<br>Распаўсюджаны |
| Папярэдні (рас. предварительный) | Агаданы (рас. предположительный) |
| Парыўка, парываньне | Рапт (лац. raptus, адсюль анг. rapture, abrupt)<br>Імпэт<br>Міг, імгненьне<br>Момант<br>Імпэт<br>Натхненьне<br>саст. Пасыканьне (пасыкаць - сунуцца наперад) |
| Патрабаваць | Вымагаць |
| Перасьледваць | Напатыкаць |
| Пераход (дарога) | Пуск |
| Перыяд<br>У перыяд | Час<br>Падчас |
| Плаціць | Квітаваць |
| Плёнка | Плява, плёўка |
| Поркаць (рас. шарить, рыскать) | Шныпарыць (шныпаць), шахерыць |
| Пост | Допіс |
| Почырк | Шых<br>Пісьмо |
| Праблема | Цяжкасьць<br>Замінка<br>Перашкода<br>Завада |
| Правільны | Слушны |
| Правяраць | Спраўджваць |
| Прапускаць (skip) | Прамінаць , абмінаць |

| | |
|---|---|
| Прасынацца (прачынацца) | Пракідвацца (пракідацца)<br>Прачухвацца, ачухвацца<br>Ачуняць (нез. ачуньваць)<br>Агойтвацца (зак. агойтацца)<br>Ачомвацца (зак. ачомацца) |
| Працягвацца | Трываць<br>Цягнуцца<br>Доўжыцца |
| Промах, абмах | Хіба, абмыла, пудла |
| Прываблівы | Пазорны (ад “пазіраць”) |
| Прыгожасьць | Хараство<br>Краса<br>Сьлічнасьць<br>Пекнасьць<br>Урода (ад “урадзіцца”)<br>саст. Лепата |
| Прыгожы | Харошы<br>Красны<br>Сьлічны<br>Пекны<br>Уродлівы<br>Ладны<br>Гожы<br>Файны<br>саст. Лепы |
| Прыйсьці, прынесьці | разм. Прыдыбаць |
| Прыкідвацца | Удаваць (каго, каго з каго, рас. выделывать, изображать, выдавать кого за кого)<br>Удавацца |
| Прыходзіцца | Даводзіцца |
| Прычоска | Фрызура<br>Уклад |
| Прыярытэт | Увага, перавага |
| Прэтэнзія | Скарга<br>Выставеньне<br>Нараканьне<br>Незадаволенасьць<br>Жальба<br>Вымаўка, вымова<br>Бедаваньне (рас. прибеднение) |
| Радавацца | Цешыцца |
| Раён | Дзяльніца<br>Акруга |
| Разумець | Цяміць<br>Кеміць, кмеціць<br>Петрыць, панатрыць (аднак. да |

| | |
|---|---|
| | penetrate, ад лац. penetrare) |
| Разумны | Цямкі<br>Кемкі, кемлівы |
| Разьлічваць | Спадзявацца<br>Чакаць |
| Расход | Страта, растрата<br>Выдатак (выдаткі), выданьне, выдаткаваньне (пра грошы)<br>[Адбытак] |
| Расходваць | Карыстаць, *з чаго*, выкарыстоўваць, *што*<br>Траціць, вытрачаць (зак. вытраціць)<br>Выдаваць, выдаткоўваць (пра грошы)<br>Заканчваць<br>Марнаваць (рас. тратить впустую, вытрачаць марна) |
| Розум, інтэлегенцкасьць, гумар | Дасьціпнасьць |
| Рофліць<br>Рофл | Кпіць<br>Кпіна |
| Рэалізаваць | Ладзіць<br>Зьдзяйсьняць<br>Ужыцьцяўляць |
| Рэальнасьць | Рэчаіснасьць<br>Істота, іста, існасьць<br>Праўда |
| Рэальны | Запраўдны<br>Рэчаісны |
| Рэзультат | Вынік |
| Рэкамэндаваць | Раіць, радзіць |
| Рэкамэндацыя | Парада |
| Сакрэт<br>Сакрэтны | Тайна, таямніца<br>Тайны, (па)таемны, таямнічы |
| Салдат | Жаўнер, ваяр, ваяка, ваяўнік |
| Салідны | Самавіты |
| Сварлівы | Звадлівы |
| Склад | Маґазын |
| Скупіцца | Ашчаджацца, саст. шчадзіцца<br>Скнарыцца |
| Спазьненьне | Правалока |
| Спраўляцца | Дужаць, здужваць<br>Адольваць |
| Спыняць, -ца | Застанаўляць, -ца |
| Стрыгчы | Фрызураваць (фрызура - прычоска, уклад)<br>Абцінаць (ад “цяць” - сячы)<br>Чыкрыжыць (магчыма, ад таго, што |

| | |
|---|---|
| Пастрыжаны | нажніцы выглядаюць як крыж і гукаперайманьня “чык-чык”)<br>Галіць (калі цалкам)<br>Скубаць<br><br>Пагалены<br>Абчыкрыжаны<br>Абцяты<br>Абскубаны |
| Суб’ектыўна | Уяўна |
| Сумесны | Укупны, супольны, абапольны, паспаліты |
| Сумнявацца | Вагацца (вагацца паміж гэтым і тым) |
| Сумяшчальны | Спалучальны, адпавядальны |
| Супадаць | Зьбягацца (зьбегвацца) |
| Супадзеньне | Зьбег |
| Супаставіць | Прымеркаваць |
| Супраць | Проці |
| Сыстэматызацыя | Пасьлядоўнасьць |
| Сьфера | Галіна<br>Плынь |
| Сябар | Прыязьнік, прыяцель, друг |
| Таксама | Тэж, тож |
| Таму | На тое<br>Для таго, што |
| Тлумачыць | Ясніць, паясьняць, зьясьняць |
| Траціць | Марнаваць<br>Губляць<br>Распараджацца<br>Травіць |
| Трымацца разам | Лучыцца разам (аднак. да “разлучацца, разлука, злучацца, адлучацца”) |
| Тэрыторыя | Зямля |
| Тэстамэнт | Прарачэньне (ад “прарачы” - “сказаць”) |
| Уважлівы | Пільны<br>Бачлівы |
| Ударацць<br>Удар | Выцінаць<br>Выцень |
| Узгаданы | Памянёны |
| Узгадаць, згадаць | Памяніць |
| Узрост | Век |

| | |
|---|---|
| Указаны | Пазначаны, адзначаны, зазначаны, вызначаны<br>Акрэсьлены, падкрэсьлены |
| Упасьці<br>Абваліцца | Абрынуцца<br>Сігануць |
| Упрытык | Усутыч, насутыч<br>Усчырк |
| Урок (рас. сглаз, рас. урок - занятак) | Сурок, урочышча |
| Урочышча | Угамонішча |
| Фактар | Чыньнік (ад слова “чыніць”) |
| Фанат | Прыхільнік<br>Заўзятар |
| Фанатычна | Апантана<br>Заўзята<br>Страшна<br>Палка<br>Аддана<br>Ахвотна |
| Фантазіі | Мроі |
| Хісткі | Крэўкі |
| Цудоўны | Надзвычайны<br>Неймаверны |
| Цягнуць | Валачы |
| Чаму | Нашто, навошта<br>Для чаго |
| Чарга | усх. Чарод |
| Чэк | Квіт (квітаваць = плаціць) |
| Чэлэндж | Выпрабаваньне<br>Выклік |
| Шкодны | Завадны, вадлівы |
| Шчодры | Падзельлівы, удзельлівы (ад “падзяліць”, “удзяліць”)<br>Падатлівы (ад “падаць”)<br>Гойны (ёсьць у старабеларускім слоўніку, слоўніку Насовіча і ў лексыцы Максіма Танка, ёсьць аднакаранёвае да “гаіць”. Азначае “шчодры, багаты”) |
| Эканоміць<br>Эканомія | Ашчаджаць<br>Ашчаджаньне (працэс)<br>Ашчада, ашчаджэньне (зьява) |
| Элемэнтарны | Просты<br>Падставовы (ад “падстава” = грунт, рас. основание)<br>Будзённы (рас. буднишний, повседневный)<br>Зразумелы |

| | |
|---|---|
| Эфект | Уплыў<br>[Узьдзеяньне] |
| Эфектыўны | Уплывовы<br>Дзейсны |
| Краіна | Край<br>Старана, старонка<br>Паньства<br>Гаспадарства<br>Стан (анг. state, нп. станы Амэрыкі, Індыі, Аўстраліі, азіяцкія станы) |
| Пужаць, спужаць, спужай(ся), пужаньне, спужаньне/спуг | Лякаць/зьлякаць, зьлякнуць, зьлякні(ся), ляканьне/зьляканьне, зьлякненьне/зьлёк |
| Раніца | Ранак |
| Крыўдзіцца | Абражацца |
| Газон | Траўнік |

Як я перакладаю ангельскія словы:

Discernment - разрознасьць (разрознівальнасьць), распазнавальнасьць, пераборлівасьць, меркаваньне
Discern - разрозьніваць, распазнаваць, перабіраць, меркаваць
Prejudice - староннасьць, забабоны, прымхі, папярэднія суджэньні (ад слова “судзіць”)
Consistency - сталасьць, пасьлядоўнасьць, разьмеркаванасьць
Allegedly - меркавана, гадана, нібыта
Apparently - як відаць, відавочна
Eventually, at the end (of the day) - урэшце, ва ўсялякім разе (рас. в конце концов, в любом случае)
Backwards - у адваротным кірунку, наадварот
It was not intentionally - гэта не было на мэце
To mean it - мець гэта на мэце
Trickster - гарэзьнік, дурасьлівец
Entertainment purposes only - толькі дзеля забавы
Evidence - відавочнасьць, пасьведчаньне, довады
Resurface - усплываць (пра інфармацыю)
Remote - здальны, здалечны (праца здалёк, здаля), кальк. выдалены (апошняе ўтворана не ад прыслоўя, а дзеяслова, таму больш ёсьць дзеепрыметнікам, чым прыметнікам)
It doesn’t serve me - гэта мне не спрыяе, ня робіць для мяне (рэчы)
At least - прынамсі (прынаймней), хаця б
In vain - дарма
To poke around - корпацца, важдацца, пэцкацца, воськацца/вошкацца
Decent  - дыхтоўны, прыстойны

Mock - 1. Кпіць з, зьдзеквацца з. 2. Удаваць сябе за, удавацца (кім). 3. Паўтараць
Based - 1. Грунтоўны, падставовы. 2. Угрунтаваны, устаўлены, застаўлены
In operation, в работе - у рабоце (НЕ у працы, у працы - в труде)
Dream - уява, уявеньне, сон
Grasp - уцяміць, ахапіць (розумам)
Comprehend - уразумляць, ахапляць
Authenticity - шчырасьць, самабытнасьць
That being said - [быўшы гэта сказаным]
Emphasize - падкрэсьліваць, надаваць увагу, вылучаць
Promote - прамаваць (зак. спрамаваць, з слоўніка Насовіча), падвышаць. Падвышэньне = прамоцыя
Demote - дэградаваць (зак. здэградаваць), падніжаць
State a fact - фактаваць (зак. сфактаваць, прафактаваць)
To care about - дбаць (аб)
Irrefutable - неаспрэчны
Buckle up - прыгатуйся (зрабіся гатовым)
To be exposed to - паддацца (чаму, нп. сонечнаму сьвятлу)
Grounded - угрунтаваны
To cause something (рас. быть причиной чему-то) - спрычыняцца да чагось (нп.: я аніякім чынам не спрычыніўся да гэтае справы)
To hinder - зашкоджваць, чаму, псуць (псаваць), што
A fix - направа
Fixing - напраўляньне
Handy - зручны (нават этымалягічна паходзіць ад “рука” - hand), ёмкі
Horrible - жахліва (жудасна ж азначае штосьці, што мае страх або напоўнена страхам, а не што ёсьць страшным, напрыклад, “жудасны сон”, “жудасныя вочы”, а “жахліва” ёсьць тое, што выклікае страх)
Actually - 1. Сапраўды. 2. Цяпер
Really - Напраўду
Overall - агулам
Seemingly - нібыта
At this point – з такім посьпехам
For your information - для вашае даведкі
It’s such an honor to meet you - гэта ёсьць вялікі гонар сустрэцца з табою
Versatility - вёрткасьць
Abundance - стача, багацьце
Lack - нястача, нястатак
Odor - водар

**Паглядзім як зьмяняецца мова, калі не ўжываць калек:**

*Апрацаваныя варыянты соевага мяса могуць утрымліваць шмат солі, кансервантаў або штучных дабавак* - абробленыя варыянты соевага мяса могуць зьмяшчаць многа солі, кансэрвантаў або штучных дадаткаў

*Эрытрыт не аказвае на арганізм такі ж уплыў, як звычайны цукар (сахароза). Вось асноўныя адрозненні:*
*Звычайны цукар рэзка павышае ўзровень глюкозы і выклікае выкід інсуліну.*

*Эрытрыт не павышае ўзровень цукру і не стымулюе выкід інсуліну, таму падыходзіць для людзей з дыябетам*

-

Эрытрыт ня мае такога самага ўплыву на арганізм, як звычайны цукар (сахароза). Вось асноўныя (лепш “галоўныя”) адрозьненьні:
Звычайны цукар ґвалтоўна падвышае ровень ґлюкозы і выклікае выкід інсуліну.

Эрытрыт не падвышае ровень цукру і не стымулюе выкід інсуліну, таму пасуе (гадзіцца) для людзей з дыябетам